АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

М. М. ЧАРНЯЎСКІ

# НЕАЛІТ БЕЛАРУСКАГА ПАНЯМОННЯ

Навуковы рэдактар
доктар гістарычных навук
Д. Я. Цялегін



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1979

## УВОДЗІНЫ

Шырокае даследаванне неаліту ўсходняй Беларусі пачалося з 20-х гадоў XX ст. (К. М. Палікарповіч, В. Р. Тарасенка), працягвалася пасля Вялікай Айчыннай вайны (І. І. Арцёменка, І. М. Цюрына) і праводзіцца ў нашы дні (А. Г. Калечыц). За гэты час тут адкрыта і даследавана значная колькасць паселішчаў каменнага веку, добра вывучана матэрыяльная культура мясцовага неаліту, вызначаны этапы яго развіцця. Значныя работы праводзяцца і на тэрыторыі Прыпяцкага Палесся (У. Ф. Ісаенка), дзе ўпершыню шляхам разведак і раскопак важнейшых помнікаў вывучаецца матэрыяльная культура старажытнага насельніцтва басейна Прыпяці. У выніку былі вылучаны Ніжне- і Верхнепрыпяцкая неалітычныя вобласці, прадстаўленыя помнікамі днепраданецкай і нёманскай культур. У апошнія гады праводзілася вывучэнне каменнага веку і паўночнай Беларусі (М. М. Чарняўскі, І. М. Ціханенкаў). У той жа час тэрыторыя паўночна-заходняй Беларусі, якая ў асноўным уключае вадазбор Нёмана, заставалася маладаследаваным раёнам. Але атрыманыя тут матэрыялы сведчылі пра своеасаблівасць мясцовай культуры, якая развівалася пад уплывам суседніх земляробча-жывёлагадоўчых культур. Яе паглыбленае вывучэнне павінна было садзейнічаць запаўненню белай плямы на этнакультурнай карце Усходняй Еўропы. Усё гэта і стала прычынай таго, што аўтар выбраў тэмай сваёй працы даследаванне неаліту Панямоння.

Для напісання манаграфіі аўтар выкарыстаў матэрыялы, атрыманыя ў выніку разведак і ўласных раскопак шэрагу помнікаў (Бабінка, Карпаўцы, Куцец I, Лысая Гара, Нясілавічы VI, Русакова II, Русаковічы I, VI, IX, Ціхановічаў Брод, Янава II, Ярэмічы HI), а таксама матэрыялы раскопак папярэднікаў — І. М. Цюрынай (Добры Бор I, Трахімавы Кусты), Н. М. Гурынай (Бор, Карпаўцы, Краснасельскі), якія захоўваюцца ў сектары археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР, Дзяржаўным музеі БССР, Мінскім абласным гісторыка-краязнаўчым музеі (Маладзечна), у музеях Ліды, Слоніма і Ваўкавыска. З мэтай вызначэння месца неалітычнай культуры Панямоння сярод іншых культур суседніх тэрыторый аўтар азнаёміўся з калекцыямі ў музеях Масквы, Ленінграда, Рыгі, Вільнюса, Кіева і Львова.

У выніку гэтых работ выяўлена, што неаліт Беларускага Панямоння — адзіная этнакультурная з’ява, а асаблівасць крамянёвага інвентару і керамікі, што былі ва ўжытку старажытнага насельніцтва гэтай тэрыторыі, дазволіла вылучыць нёманскую неалітычную культуру, якая ў сваім развіцці прайшла тры этапы — дубічайскі, лысагорскі і дабраборскі.

Аднак матэрыялы, якія меліся ў нас, не дазволілі асвятліць і шэраг пытанняў, а ў некаторых выпадках мы не змаглі пайсці далей самых

першых меркаванняў. Так, слаба вывучанай засталася праблема паходжання ранняга неаліту Панямоння, мала вядома і пра гістарычны лёс мясцовага насельніцтва ў наступную эпоху — у бронзавым веку.

Адно з першых упамінанняў пра каменныя прылады, знойдзеныя ў паўночна-заходняй Беларусі, мы сустракаем у працы Т. Нарбута, выдадзенай у Вільні ў 1835 г.[1] У сярэдзіне XIX ст. з'явіўся шэраг публікацый братоў Тышкевічаў, дзе ёсць звесткі пра рэчы першабытнага часу, пераважна пра каменныя сякеры[2]. У другой палове XIX ст. З. Глогер у час экскурсій па берагах Нёмана і яго прытокаў адкрыў некалькі стаянак і сабраў на іх крамянёвыя вырабы[3]. У пачатку XX ст. такую ж работу ў ваколіцах Гродна праводзіў Ю. Ядкоўскі[4]. Упамінанні пра знаходкі з Беларускага Панямоння, якія адносіліся да каменнага веку, ёсць і ў працах іншых аўтараў, а таксама ў публікацыях пра розныя набыткі музеяў[5].

Пэўны штуршок да вывучэння каменнага веку Панямоння даў IX археалагічны з'езд, які адбыўся ў 1893 г. у Вільні. Ф. В. Пакроўскі склаў да з'езда археалагічныя карты Гродзенскай і Віленскай губерняў, у якіх адзначыў шэраг пунктаў, дзе сустракаліся знаходкі каменнага веку[6].

У 80-х гадах XIX ст. на тэрыторыі Лідскага павета В. Шукевіч выявіў шмат першабытных стаянак, якія ён вывучаў на працягу шэрагу наступных гадоў[7]. Публікацыі В. Шукевіча прысвечаны розным археалагічным эпохам, у прыватнасці каменнаму веку гэтага рэгіёна[8]. У іх падрабязна характарызуецца крамянёвы інвентар і кераміка, робяцца спробы вызначыць адносную храналогію.

Працамі В. Шукевіча заканчваецца першы перыяд вывучэння каменнага веку Беларускага Панямоння, які працягваўся да першай сусветнай вайны, калі даследаванні археалагічных помнікаў у большасці выпадкаў праводзіліся мясцовымі энтузіястамі, якія, як правіла, не мелі археалагічнай адукацыі і часцей за ўсё абмяжоўваліся выяўленнем, апісаннем стаянак і зборам рэчавых матэрыялаў. Было слушна паказана, што, пачынаючы з мезаліту, тэрыторыя паўночна-заходняй Беларусі была заселена чалавекам, былі зроблены і спробы вызначыць рысы мясцовай матэрыяльнай культуры ў неалітычны час.

У 1917 г. К. Бонэберг апублікаваў звесткі пра стаянку каля в. Бакшты на Бярэзіне нёманскай[9]. Праз год з'явілася публікацыя Ю. Кастжэўскага з матэрыяламі з Начы[10], у сярэдзіне 20-х гадоў — шэраг нататак пра даследаванні З. Шмітам крэмнездабыўных шахтаў каля пас. Краснасельскі і Рось[11]. У артыкулах В. Антаневіча (1930, 1932, 1934 гг.) зроблена спроба ахарактарызаваць развіццё чалавечага грамадства ў Панямонні ад мезаліту да ранняга сярэдневякоўя[12]. Так, на думку даследчыка, час першага засялення гэтай тэрыторыі — позні палеаліт, калі ў паўночна-заходнюю Беларусь з Віслы пранікні групы паляўнічых свідэрскай культуры, а неаліт тут пачаўся каля 3000 гадоў да н. э. В. Галубовіч, у асноўным даследуючы раннефеадальныя старажытнасці, звяртаў увагу і на помнікі каменнага веку. Да сённяшняга дня не страціла значэння яго публікацыя пра знаходку неалітычнай керамікі каля Любчы на Нёмане[13]. Эпосе неаліту Беларускага Панямоння аддадзена ўвага і ў працах некаторых іншых даследчыкаў[14].

Сістэматычнае археалагічнае вывучэнне паўночна-заходняй Беларусі пачалося пасля Вялікай Айчынай вайны. У 1951 г. тэрыторыю па ця-

чэнні Нёмана абследавала С. Н. Тараканава[15]. У 1951 і 1961 гг. шэраг неалітычных стаянак быў знойдзены ў вярхоўях Нёмана і на Шчары А. Р. Мітрафанавым[16]. Ф. Д. Гурэвіч, даследуючы ў 1955—1958 гг. рознaчасовыя помнікі, звяртала ўвагу і на неалітычныя аб'екты. Вынікі гэтай працы, як і працы папярэднікаў, яна выклала ў манаграфіі, дзе прыводзіліся звесткі пра стаянкі каменнага веку[17]. Характарызуючы іх, даследчыца піша, што паляўніча-рыбацкія плямёны Панямоння «па сваёй культуры асабліва не адрозніваліся ад першабытнага насельніцтва суседніх тэрыторый — Верхняга Падняпроўя і паўднёвай Прыбалтыкі»[18]. Значную колькасць месцаў са знаходкамі крамянёвых прылад і неалітычнай керамікі выявіў Л. С. Клейн[19]. В. Р. Супрун дэталёва абследаваў берагі Шчары, дзе ім адкрыта звыш 50 стаянак і праведзены невялікія раскопкі на неалітычным паселішчы каля в. Русакова[20]. Некалькі першабытных помнікаў выявіў каля в. Збляны і Беліца Лідскага раёна Ф. Ф. Барташэвіч. У 1955—1959 гг. археалагічную разведку ў Стаўбцоўскім раёне праводзіў Л. Д. Побаль. У пачатку 70-х гадоў шэраг помнікаў каменнага веку ў Панямонні адкрыла экспедыцыя Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР пад кіраўніцтвам Г. І. Гарэцкага. Раскопкі неалітычных стаянак паўночна-заходняй Беларусі праводзіла І. М. Цюрына ў 1960 г. (Добры Бор)[21] і ў 1963 г. (Трахімавы Кусты)[22].

З 1957 г. помнікі каменнага і бронзавага вякоў Панямоння даследавала Н. М. Гурына. Працы ў асноўным праводзіліся на ўчастках ад Гродна да вусця Гаўі, на левым нёманскім прытоку Моўчадзі, на азёрах Свіцязь і Чарэшля. Усяго абследавана звыш 50 рознaчасовых помнікаў, а таксама шэраг менш выразных месцазнаходжанняў[23]. На паселішчы Бор (Лідскі раён) былі праведзены раскопкі, іншыя пункты вывучаліся з дапамогай шурфоўкі і збору пад'ёмнага матэрыялу. Своеасаблівасць атрыманай археалагічнай калекцыі дазволіла вылучыць даследаваны раён сярод суседніх тэрыторый. На падставе тыпалагічнага і параўнаўчага аналізаў крамянёвага інвентару, характару самога крэмню, тапаграфічнага размяшчэння стаянак Гурына зрабіла паспяховую спробу вызначыць адносную храналогію даследаваных помнікаў, адзначыла пераемнасць ранняга неаліту з папярэдняй эпохай. Гурына з поўнай падставай выключыла паўночна-заходнюю Беларусь з кола культур ямачна-грабеньчатай керамікі. Ёю зроблены важны вывад, што Беларускае Панямонне разам з Літвой і паўночна-ўсходняй Польшчай у эпоху неаліту ўваходзіла ў адзіную культурную вобласць, а мясцовыя плямёны, магчыма, былі звязаны з насельніцтвам паўднёвай Беларусі і лесастэпавай Украіны. Вялікую каштоўнасць мае праца Гурынай па вывучэнні крэмнездабыўных шахтаў на р. Рось[24].

Аўтар гэтай манаграфіі пачаў археалагічнае вывучэнне неаліту Панямоння ў 1962 г. Даследавана больш як 150 стаянак і месцазнаходжанняў, а таксама праведзены раскопкі на 11 помніках, дзе ўскрыта каля 2500 кв. м культурнага пласта[25].

# I

## НЕАЛІТЫЧНЫЯ СТАЯНКІ ПАНЯМОННЯ

На тэрыторыі Беларускага Панямоння вядома каля 100 неалітычных стаянак з выразным культурным пластом (рыс. 1). Яны даследаваліся шляхам збору пад'ёмнага матэрыялу, шурфоўкай, а некаторыя помнікі раскопваліся. Аб'екты для раскопак намі выбіраліся з такім разлікам, каб былі больш-менш раўнамерна даследаваны розныя раёны паўночна-заходняй Беларусі. Так раскопваліся стаянкі ў вярхоўях Нёмана (Русаковічы, Куцец), ніжэй па цячэнні (Апечкі, Ярэмічы, Панямонь), на сярэднім цячэнні ракі (Ціхановічаў Брод, Нясілавічы), на поўдні Панямоння (Янава, Русакова). Не праводзіліся раскопкі толькі на паўночным захадзе Беларускага Панямоння, але гэта кампенсуецца даследаваннямі Р. К. Рымантэнэ ў паўднёвай Літве.

У гэтым раздзеле даецца апісанне ўсіх раскапаных аўтарам стаянак, а таксама яшчэ не апублікаваных матэрыялаў з раскопак І. М. Цюрынай на помніках Трахімавы Кусты і Добры Бор І. Пры гэтым асноўная ўвага звернута на помнікі, якія характарызуюць адпаведныя этапы нёманскай культуры.

### 1. Фізіка-геаграфічная характарыстыка раёна, тапаграфія і стратыграфія помнікаў

У позднеледавіковы час на тэрыторыі сучаснай Верхнянёманскай раўніны быў вялікі азёрны басейн з краявымі прыледавіковымі ўтварэннямі на поўначы. Сцёк вады адбываўся, магчыма, у Палескую катлавіну праз сістэму лагчын у вярхоўях Нёмана і ў бок Віслы. Пазней азёрныя воды прамылі Гродзенскае ўзвышша і атрымалі выхад у Балтыйскае мора. Пасля гэтага пачала фарміравацца сучасная рачная сетка паўночна-заходняй Беларусі.

Нёман бярэ пачатак з р. Уса на Стаўбцоўскай раўніне. Тут жа, у раёне в. Пясочнае, у яго ўпадаюць прытокі Нёманец, Лоша і Тур'я. Аж да Налібоцкай нізіны рака мае нешырокую, да 5 км, даліну з поплавам і перарывістай першай надпоплаўнай тэрасай вышынёй над вадой 5-6 м. Гэтая ж тэраса сустракаецца і на прытоках. Ніжэй па цячэнні Нёман прарэзвае Верхнянёманскую раўніну. Тут прасочваецца поплаў і дзве тэрасы. Поплаў расшчапляецца на два ўзроўні, вышэйшы з якіх падымаецца над вадой на 3-4 м. Першая надпоплаўная тэраса вузкай перарывістай стужкай прасочваецца па берагах Нёмана і яго прытокаў,

але найбольш яна выражана ў Налібоцкай нізіне і пры вусці Шчары. Вышыня яе 5—6 м, а ніжэй г. Масты 7—8 м. Вышыня другой надпоплаўнай тэрасы 8—10 м, каля Мастоў да 11 м[1].

На ўчастку сярэдняга цячэння Нёмана і асабліва пры перасячэнні Гродзенскага ўзвышша даліна Нёмана месцамі звужаецца да 1,5 км і часам набывае выгляд каньёна са стромкімі схіламі, перарэзанымі глыбокімі і шматлікімі ярамі. На ўчастку сярэдняга цячэння даліна Нёмана найлепш даследавана геолагамі. Тут імі выдзелена некалькі ўзроўняў тэрас[2].

Найбольш прыдатнымі для засялення былі дзве ніжнія познеледавіковыя надпоплаўныя тэрасы і высокі поплаў. Уступ другой тэрасы ўтварыўся ў алеродскі час, уступ першай — у другой палове позняга дрыасу (радыекарбонавыя дацiроўкі старычных утварэнняў на ёй — ад 10 870 да 11 050 год назад), уступ высокага поплаву сфарміраваўся ў канцы барэальнага перыяду (8500—7800 год назад)[3]. Вышэй па цячэнні ракі атрымана дакладная дата алювію высокага поплаву — 9970±110 год: Tln—136 (каля в. Морына Іўеўскага раёна); вызначана, што яго назапашванне тут спынілася ў раннія фазы атлантычнага часу[4].

На паўночным захадзе Беларусі азёр мала. На поўдзень ад Нёмана найбольш значныя — Свіцязь, Калдычэўскае, а таксама Выганаўскае і Бабравіцкае, размешчаныя на водападзеле басейнаў Нёмана і Прыпяці. На поўначы Панямоння азёр больш, асабліва шмат іх на паўночны ўсход ад Гродна. Важнейшыя з іх Рыбніца, Белае, Малочнае, Берштаўскае.

Панямонне багатае на марэнны крэмень. Асабліва шмат яго ў Гродзенскім, Ваўкавыскім, Лідскім і Слонімскім раёнах. Але першабытным чалавекам больш цаніўся крэмень, які залягае ў крэйдавых адорвенях. На крайнім захадзе і поўдні Панямоння крэйда прадстаўлена рухляком, які ў іншых месцах пакрыты гліністымі адкладамі. На поўнач ад Гродна крэйда глаўканітавая, часам залягае ў выглядзе крамяністага мергелю. Спадыспаду рухляк, як правіла, падсцілаецца пішучай крэйдай з праапласткамі буйных крамянёвых канкрэцый. У цэнтральных раёнах Панямоння крэйда рыхлая, змяшчае ў сабе крэмень[5]. Маюцца выхады крэмняноснай крэйды ў Навагрудскім і ў некаторых суседніх раёнах. На Ваўкавыскім узвышшы падобныя месцы сустракаюцца ад ваколіц в. Пескі на Зальвянцы да пасёлкаў Рось і Краснасельскі на Росі. На Лідскай раўніне ёсць вялікія запасы крэйды каля в. Даржы. Магутныя адклады яе ёсць і на поўнач ад Гродна. Радовішчы гэтага матэрыялу, насычаныя крамянёвымі канкрэцыямі, сустракаюцца і ў шмат якіх іншых пунктах паўночна-заходняй Беларусі.

Неалітычны час прыпадае на сярэдні галацэн, які ўключае атлантычны і суббарэальны перыяды. Развіццё клімату і расліннасці ў гэты час грунтоўна вывучана беларускімі вучонымі[6]. Атлантычны перыяд характарызаваўся кліматам больш цёплым і вільготным, чым сучасны. Шырока распаўсюдзіліся хвойна-шыракалістыя лясы з елкі, хвоі, бярозы, дуба, ліпы, вяза, ясеня, клёна, граба, ляшчыннік, вялікія плошчы займалі альшэўнікі.

Наступны, суббарэальны, перыяд адрозніваецца сушэйшым кліматам. Пачынаюць распаўсюджвацца хваёвыя, яловыя і хваёва-бярозавыя лясы, узровень вады ў азёрах паніжаецца, пачынаецца іх забалочванне.

У культурных пластах неалітычных стаянак Панямоння не захаваліся арганічныя рэчывы. Але косці дзікіх жывёл знойдзены на тарфя-

нікавых помніках Паазер'я. У час раскопак на Крывінскім тарфяніку (Бешанковіцкі і Сенненскі раёны) знойдзены рэшткі лася, дзіка, высакароднага аленя, тура, бабра, мядзведзя, куніцы, зубра, казулі, барсука, выдры[7]. На старажытным паселішчы Камень у Пінскім раёне выяўлены аналагічныя рэшткі[8]. Касцявы матэрыял з крывінскага тарфяніку і з Каменя належыць да позняга неаліту і ранняй бронзы. Таму можна зрабіць вывад, што, прынамсі, у позненеалітычны час і ў лясах Панямоння сустракаліся такія ж дзікія жывёлы. Відавы склад іх быў багацейшы, бо ў культурных пластах захаваліся толькі косці дзічыны, на якую палявалі.

На Панямонні неалітычныя стаянкі размяшчаліся часцей за ўсё на краях тэрас, у тых мясцінах, дзе да іх падступала рэчышча ракі, дзе меліся старыцы і затокі. Помнікі, як правіла, сустракаюцца і там, дзе ў Нёман упадаюць прытокі, на мысах тэрасы паміж поплавам і прытокамі або ярамі. Пясчаныя дзюны або рэшткі прыруславых валаў на поплаве і на нізкіх тэрасах таксама былі прыдатнымі для жыхарства першабытнага чалавека, прычым найбольш насычаныя знаходкамі культурныя пласты заўсёды выяўляюцца на прыруславых схілах такіх дзюн. Прыдатнымі для засялення з'яўляліся і ўчасткі берага з размешчанымі паблізу крэмняноснымі радовішчамі, там жа сустракаюцца і майстэрні па апрацоўцы крэмню. Такія месцы вядомы на сярэднім цячэнні Росі, каля в. Пескі на Зальвянцы, у нізоўях Дзітвы. Там, дзе на шырокім поплаве з рыбнымі затокамі і старыцамі часта сутракаюцца дзюны, дзе карэнныя берагі маюць розныя глебы, дзе разнастайны лесасклад, існавалі ў старажытнасці ідэальныя магчымасці атрымліваць шмат прадуктаў харчавання ад палявання, рыбнай лоўлі, збіральніцтва. Такія мікрараёны былі густа заселены, аб чым сведчаць цэлыя групы знойдзеных помнікаў (каля вёсак Русаковічы, Ярэмічы, Панямонь, Добры Бор). На берагах амаль усіх азёр Панямоння таксама сустракаюцца сляды жыццядзейнасці неалітычнага чалавека.

У раёне Гродзенскага ўзвышша тэрасы Нёмана найлепш выражаны, тут іх шмат, але неалітычных стаянак на іх пакуль што не знойдзена. На вышэйшых узроўнях сустракаюцца матэрыялы фінальнапалеалітычнага і мезалітычнага часу, а на ўзроўні 5 м — бронзавага веку. Больш надзейныя назіранні над тапаграфічным размяшчэннем першабытных стаянак праведзены ў даліне Нёмана паміж Беліцай і Нясілавічамі. Тут найбольш ранняя фінальнапалеалітычныя і раннемезалітычныя знаходкі сустракаюцца на 8-метровай тэрасе, размешчанай на паўднёвы захад ад Беліцкі, ніжэй Залатой Рэчкі. Крыху пазней даступнай для засялення стала першая тэраса, вышыня якой каля вусця Залатой Рэчкі і на левабярэжжы Нёмана 6 м. Ніжэй вусця Залатой Рэчкі на 4-метровым узроўні высокага поплаву знойдзена стаянка познемезалітычнага часу. У раннім неаліце, відаць, павышэнне ўзроўню вады ў рацэ прымусіла жыхароў пакінуць высокі поплаў і перасяліцца на 6- і 8-метровыя ўзроўні. Высокі поплаў зноў стаў прыдатны для засялення толькі ў самым канцы неаліту і ў раннюю бронзу. Сустракаюцца тут і знаходкі познебронзавага часу.

Умовы залягання культурных пластоў на дзюнных і тэрасавых стаянках паўночна-заходняй Беларусі прыблізна аднолькавыя. У дзёрне знаходак мала, асабліва калі грунт не пераворваўся. Асноўная маса рэштак жыццядзейнасці неалітычнага чалавека знаходзіцца ў ніжняй частцы глебы, колер якой змяняецца да мацерыка ад цёмна-шэрага да светла-шэрага з жаўтаватым адценнем. Часам на кантакце культурных

пластоў з мацерыком прасочваюцца артзандавыя прапласткі і артштэйнавыя ўтварэнні. На дзюнах, якія перавейваюцца, культурныя пласты часам перакрывае надзьмуты пясок.

### 2. Неалітычныя стаянкі

**Русакова II.** На адлегласці 1,5 км на поўнач ад в. Русакова Слонімскага раёна, на шырокім поплаве ў левабярэжжы Шчары, каля ўпадзення ў апошнюю р. Бярэзіны (мясцовыя назвы: Завала, Марозава Рэчка, Пратва), знаходзіцца невысокі пясчаны ўзгорак (дзюна) шырынёй да 40 м і даўжынёй з поўначы на поўдзень каля 75 м. Ён узвышаецца над поплавам больш як на 1,5 м. Зараз узгорак задзірнаваны, раней ён на глыбіню 10—15 см разворваўся. Да свайго выпрамлення Бярэзіна цякла каля паўночнага краю ўзгорка, недалёка ад Шчары (каля 200 м), таму тут былі добрыя ўмовы для рыбалоўства. Праз 1 км на захад знаходзіцца хваёвы лес, які пакрывае марэннае, багатае крэмнем узвышша.

У 1965 г. на ўзгорку, які называецца «Літоўскі Груд», В. Р. Супрун правёў шурфоўку і збор пад'ёмнага матэрыялу[9]. У наступным годзе ім было ўскрыта 40 кв. м [10]. У 1967 г. аўтар правёў раскопкі на плошчы 96 кв. м. Раскоп быў прырэзаны да раскопа Супруна і арыентаваны па лініі поўнач — поўдзень з невялікім адхіленнем на захад. У 1970 г. раскопкі былі прадоўжаны (568 кв. м), а ў 1977 г. ускрыта яшчэ 320 кв. м. Такім чынам, тут раскапана 1024 кв. м, даследавана цэнтральная частка помніка, які займае каля 2500 кв. м [11]. Раскопкі праводзіліся, як і на ўсіх неалітычных стаянках Панямоння, за выключэннем Нясілавіч VI, двухметровымі квадратамі па пластах у 20 см (рыс. 3, *1)*.

Культурны пласт на помніку мае цёмна-шэрую, святлейшую ўнізе афарбоўку і складаецца з гумусаванага пяску, у якім сустракаюцца рэшткі жыццядзейнасці чалавека. Мяжа паміж культурным пластом і мацерыком, які складаецца з дробназярністага светла-шэрага жаўтаватага пяску, размытая. У верхняй частцы мацерыка сустрэты артзанды, якія на схілах узгорка пераходзяць у артштэйны.

Культурны пласт на паўночнай і паўночна-ўсходняй частцы помніка дасягаў 0,9 м, на паўднёва-заходняй — 0,3—0,4 м.

У раскопе знойдзены рэшткі некалькіх агнішчаў са слядамі вугалля і залы. Часам найбольш прыкметныя рэшткі агнішча — беспарадкавае скапленне невялікіх са слядамі абпалу камянёў. Другі тып агнішча — выкладзеныя па авалу або крузе дробныя і сярэднія камяні, паміж якімі іншы раз прасочваецца вусце. Трэці тып — агнішчы, выкладзеныя па краях буйнымі камянямі з замацоўкай клінамі, з каменнай выбрукоўкай чарэня і выразным вусцем. Гэты тып па керамічных знаходках датуецца раннім жалезным векам.

На ўскрытай плошчы помніка было знойдзена некалькі паглыбленняў і ям. Іх прызначэнне вызначыць цяжка. Адно невялікае паглыбленне, запоўненае вуглістай масай, магчыма, з'яўлялася агнішчам.

У час раскопак аўтарам на помніку атрымана каля 1600 прылад працы, нуклеусаў і іх абломкаў, больш як 4000 вызначальных фрагментаў керамікі і каля 40 000 расшчапаных крамянёў без слядоў дадатковай апрацоўкі.

З усіх знойдзеных на паселішчы 218 выразных скрабкоў 75 зроблены з пласцінак. Двайных канцавых скрабкоў на пласцінках 7 (рыс.

5, *1*), 4 з іх без падрэтушоўкі па баках, *2* маюць падрэтушоўку з правага боку, а на адным экзэмпляры апрацаваны і абодва бакі. Гэтыя знаходкі пераважна высокія, на некаторых экзэмплярах рабочая частка — моцна спрацаваная скрабніца. Каля 30 прылад — гэта адзінарныя канцавыя скрабкі (рыс. 5, 6), невялікая частка іх мае завужаную да асновы, дэльтападобную форму. Большая частка скрабніц выпуклаакруглая, зрэдку сустракаюцца скрабніцы прамыя, косыя або нерэгулярныя. Часам трапляюцца на абодвух баках невялікія рэтушаваныя выемкі, якія, магчыма, служылі для замацавання прылады ў рукаятцы.

Калі апісаная група мае рэтуш толькі на канцы, то ў іншых канцавых скрабкоў (каля 30 экз.) рэтушшу апрацаваны і некаторыя бакі — правыя або нават абодва (рыс. 5, *5—11, 14, 16, 17).* У некаторых выпадках яна толькі часткова спускаецца са скрабніцы на край, некаторыя краі апрацаваны і з брушка.

Знойдзены тры масіўныя і шырокія пласціны, апрацаваныя па ўсіх краях, акрамя асновы (рыс. 6, *2).* Найбольш крутая рэтуш на верхніх тарцах. Гэтыя скрабкі маюць выцягнутаавальную форму, краі іх маглі ўжывацца і для рэзання, асабліва ўчасткі каля асновы, дзе рэтуш больш плоская. На адной такой знаходцы маецца на бакавым краі шырокая скоблевая выемка. Тры прылады з'яўляюцца двайнымі бакавымі скрабкамі.

Некаторыя скрабкі на пласцінках, у тым ліку і канцавыя, захаваліся толькі ў фрагментах.

Сярод скрабкоў самую вялікую групу (143 экз.) складаюць розныя вырабы на адшчэпах (рыс. 5, *7, 9, 11, 13—19).* Сярод іх найбольш поўна прадстаўлены акруглыя і выцягнутаавальныя формы. Крыху менш скрабкоў падчатырохвугольных і дэльтападобных. Яшчэ менш шырокаавальных, мысападобных (рыс. 6, *11)*, паўакруглых вырабаў. Некаторыя з апошніх могуць быць абломкамі вышэйапісаных тыпаў. Рэдка сустракаюцца знаходкі з выразна скошанай скрабніцай. Амаль у палові разгледжаных тыпаў рэтушшу апрацаваны толькі верхні край, г. зн. яны з'яўляюцца канцавымі скрабкамі на адшчэпах. У астатніх экзэмпляраў, акрамя скрабніцы, на канцы маюцца дадаткова апрацаваныя краі — левы або правы, да палавіны або меней; часам рэтуш пакрывае амаль увесь перыметр прылады, за выключэннем вузкай асновы.

На адшчэпах сфармавана і 25 бакавых скрабкоў — левых, правых або двухбаковых (рыс. 5, *2, 12).* У невялікай колькасці сустрэты і абломкі розных скрабкоў на адшчэпах. Каля 10 экзэмпляраў маюць скрабніцы нерэгулярных абрысаў (рыс. 5, *16)* .

Наш падзел скрабкоў умоўны, бо не заўсёды можна знайсці размежаванне паміж пэўнымі формамі і тыпамі прылад. Так, паміж дэльтападобнымі і авальнымі можна было б вылучыць каплепадобныя формы і г. д. Фармальнасць заключаецца і ў тым, што мы заўсёды арыентавалі скрабкі на адшчэпах асновамі нарыхтовак уніз. Такім чынам, напрыклад, вылучаны тып бакавых скрабкоў, але ж у руцэ першабытнага чалавека ў час працы такі «бакавы» скрабок быў канцавым.

Назіранні над стратыграфічным размяшчэннем скрабкоў у раскопах 1967, 1970, 1977 гг. паказалі, што вырабы на пласцінках залягалі ў асноўным крыху ніжэй, чым такія ж прылады на адшчэпах. Акрамя таго. мы паспрабавалі параўнаць глыбіні залягання найбольш прыдатных для датавання тыпаў — канцавых скрабкоў на пласцінках без дадатковай бакавой рэтушы і канцавых двайных скрабкоў. Але з-за малой колькасці матэрыялу гэтае параўнанне не з'яўляецца пераканаўчым.

Канцавыя скрабкі размеркаваны больш-менш раўнамерна па ўсіх чатырох пластах. Праўда, двайныя, найбольш архаічныя прылады ў трэцім пласце дасягаюць 71,5%, а ў першым пласце іх зусім няма.

Акрамя выразных скрабкоў у раскопах знойдзена больш як 40 розных адшчэпаў, абломкаў, сколаў з участкамі крутой рэтушы (рыс. 6, *9, 10).* Некаторыя з гэтых знаходак маглі быць незакончанымі або сапсаванымі вырабамі.

Частка пласцінак таксама мае на краях крутую рэтуш. Шырэйшыя з гэтых экземпляраў, напэўна, ужываліся як своеасаблівыя скрабкі (рыс. 4, *3).*

На некаторых кавалках нуклеусаў, на абломках, масіўных адшчэпах майстраваліся скрэблы. Але гэтая катэгорыя прылад на помніку прадстаўлена адзінкавымі знаходкамі.

Скоблі (17 экз.) майстраваліся з адшчэпаў, іншы раз з пласцінак і зусім рэдка з абломкаў (рыс. 6, *5, 8, 15, 16).* У большасці яны былі аднавыемчатыя і фармаваліся пераважна з боку спінкі. На пласцінках маюцца пераважна кароткарадыусныя выемкі, што тлумачыцца вузкай формай нарыхтоўкі. Часам рэтуш пакрывае не толькі выемкі, але і прылеглыя краі прылад.

Разцы прадстаўлены 38 экземплярамі. Вуглавыя (13 экз.) у асноўным фармаваліся на зламаных доўгіх пласцінках (рыс. 6, *14, 19).* З іх 3 прылады былі двайныя. Часта па адным ці абодвух баках вырабаў зроблена прытупляльная падрэтушоўка або нават рэтуш. Вуглавы разец на адшчэпе толькі адзін.

Сярэдзінна-вуглавыя разцы (6) амаль усе рабіліся з розных абломкаў, некаторыя з іх былі кубападобныя (рыс. 6, *22).* На адным пупападобным экземпляры ёсць двайны, на супрацьлеглых канцах, разец. Разец сярэдзінна-вуглавы на пласцінцы знойдзены толькі адзін (рыс. 3, *14).* На аснове рэтуш са спінкі і брушка. Аснова магла дадаткова ўжывацца ў якасці пракруткі. Мы палічылі магчымым 3 знаходкі вылучыць у тып папярэчна-вуглавых разцоў. 2 з іх сфармаваны на нуклепадобных абломках, 1 — на тоўстым адшчэпе. Асаблівасцю гэтай групы з'яўляецца тое, што ў іх, акрамя звычайных для вуглавых экземпляраў вертыкальных разцовых сколаў, ёсць папярэчныя, накіраваныя з таго ж вугла.

Бакавых разцоў сустрэта ўдвая менш, чым вуглавых (рыс. 6, *13, 20),* 4 з іх былі сфармаваны на пласцінках, 3 — на адшчэпах. На некаторых баках прылад маецца падрэтушоўка. 2 сярод пласцінчатых экземпляраў двайныя.

З кароткай пласцінкі быў сфармаваны сярэдзінны разец. На супрацьлеглым рабочай частцы тарцы вырабу ёсць падрэтушоўка і выразныя заломы. Клінападобны на абломку разец, як і косапапярэчны на адшчэпе, адзін. Адна камбінаваная прылада ўяўляе сабой бакавы — вуглавы разец на пласцінцы. Маюць разцовыя сколы і некаторыя іншыя адшчэпы, пласцінкі і абломкі крэмню.

Параўнанне глыбінь залягання разцоў і скрабкоў паказвае, што ў верхніх двух пластах у працэнтных адносінах яны прыблізна роўныя, але ў ніжнім, чацвёртым пласце працэнт разцоў большы. У той жа час стратыграфічныя параўнанні ўнутры самой катэгорыі разцоў не далі выразных вынікаў.

Наканечнікаў стрэлаў на помніку пры параўнаўча вялікай ускрытай плошчы мала — толькі 2 экземпляры. Адзін з іх трохвугольны, з амаль прамой асновай, адрэтушаваны са спінкі па ўсіх краях, з брушка —

толькі на вастрыі і аснове (рыс. 4, *1).* Другі таксама трохвугольны, але з асновай увагнутай, са спінкі апрацаваны акуратнай струменьчатай рэтушшу, у выніку чаго ўтварыліся пільчатыя краі. З брушка апрацавана толькі аснова, вастрыё абламана (рыс. 4, *2).* Калі першы экземпляр можа быць аднесены да позненеалітычнага часу, то другі, мяркуючы па пільчатаму краю, датуецца бронзавым векам.

Усе наканечнікі дроцікаў (7 экз.) вырабляліся з масіўных пласцін і маюць пераважна лістападобную форму (рыс. 4, *11, 13).* Найбольш старанна рэтушавалася вастрыё і прылеглыя бакі. У некаторых экземпляраў рэтуш дасягае самой асновы, каля вастрыя яна нярэдка струменьчатая. Падрэтушоўка з брушка сустракаецца рэдка. Некаторыя завостраныя формы нажоў на пласцінках падобныя на наканечнікі і без трасалагічнага аналізу іх адрозніваць цяжка.

Выяўлена 7 праколак і 15 пракрутак. Прыблізна палова змайстравана з пласцінак (рыс. 4, *9),* 9 — з адшчэпаў, 3 — з выцягнутых абломкаў спічастай формы. Рабочая частка звычайна фармавалася на вузейшых або завостраных верхніх канцах нарыхтовак. Для двух пракрутак былі прыстасаваны часткі пласцінак каля асноў. Прыблізна так вырабляліся і прылады з адшчэпаў.

Найбольш шматлікую групу вырабаў складаюць рэжучыя прылады (рыс. 4, *4-8, 10, 12, 14, 15, 18, 19).* Часцей за ўсё гэта розныя нажападобныя пласцінкі (звыш 200), пераважна няправільна абграненыя з падрэтушоўкай або выразнай плоскай рэтушшу са спінкі па аднаму або абодвух баках. Апрацоўваліся бакі і з брушка. Некаторыя кароткія плоскарэтушаваныя сячэнні пласцінак маглі быць звычайнымі абломкамі большых вырабаў, не выключана іх выкарыстанне і ў састаўных прыладах. Як укладышы ўжываліся і вузкія рэтушаваныя экземпляры.

Невялікая частка пласцінак мае па краях пільчатую рэтуш, у некаторых выпадках адзін бок вырабу рэтушаваўся плоска, а супрацьлеглы прытупляўся.

Значная колькасць пласцінак не мае рэтушы, але прыкметныя заломы на краях сведчаць аб ужыванні іх для рэзання.

Часам старажытны майстар змяняў рэтушшу форму нарыхтоўкі пад прыладу або спецыяльна падбіраў адмысловыя пласцінкі. Такія апрацаваныя вырабы маюць характэрны выгляд нажоў і ў сваю чаргу падзяляюцца на некалькі тыпаў, якія мы зараз і разгледзім (рыс. 4, *4, 10, 12, 14, 15, 18, 19).*

З нажы сфармаваны на сіметрычна завостраных нарыхтоўках. Плоская рэтуш у іх пакрывае ўвесь або амаль увесь край, іншы раз рэтуш нанесена бліжэй да вастрыя і па супрацьлеглым баку. Сустракаецца падпрацоўка і з брушка каля асновы. Гэты тып знаходак набліжаецца да наканечнікаў дроцікаў.

Найбольш шырока прадстаўлены тып нажоў са скошанымі плоскарэтушаванымі тарцамі (7 экз.). Як правіла, у іх рэтуш толькі на скосе. На адным нажы яна спускаецца да скоса на спінку, на другім адрэтушаваны і бакавыя краі.

6 нажоў складаюць тып з прамымі лёзамі і гарбатымі спінкамі. На спінках у найбольшым выгіне рэтуш круцейшая, часам пераходзіць у скрабковую. Магчыма, гэтыя прылады ўжываліся як нажы-скрабкі. Гарбатыя прытупленыя спінкі на нажы вельмі зручныя для ўпору пальцамі. Прамыя лёзы спрэс або амаль спрэс адрэтушаваны, але на адным, магчыма незакончаным, экземпляры лязо рэтушавана толькі каля асновы.

Знойдзены 3 серпападобныя нажы. Усе яны рознай ступені закончанасці, маюць увагнутыя лёзы і гарбатыя спінкі, рэтушаваныя крута.

Адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены серпападобныя нажы з закругленым канцом (рыс. 4, *12);* авальныя аднолёзавыя; з прамым плоскарэтушаваным тарцом без рэтушы на баках.

176 адшчэпаў маюць на краях плоскую рэтуш або падрэтушоўку пераважна са спінкі і значна радзей з брушка (рыс. 4, *6).* Большасць іх магла ўжывацца пры рэзанні.

Больш як 100 знаходак на помніку — сякеры розных тыпаў або іх нарыхтоўкі (рыс. 7, *1, 2, 4—8, 11—14, 16;* 8, *1—6, 8, 10, 11).* Да аднаго з тыпаў адносяцца траншэпадобныя прылады (рыс. 7, *1, 2).* Маецца і група з 4 нарыхтовак траншэ. Магчыма, з некаторых з іх фармаваліся і звычайныя сіметрычныя прылады.

Другі тып утвараюць авальныя са звужаным абушком, у асноўным сіметрычныя, вырабы. Іх краі пераважна з абодвух плоскасцей апрацоўваліся сколамі, лёзы фармаваліся з адной плоскасці бакавым сколам. Некаторыя маглі быць нарыхтоўкамі або незакончанымі экземплярамі. Дзве падчатырохвугольныя знаходкі таксама мелі на лязе негатыў бакавога скола.

Трэці тып складаецца з вузкаабушковых падавальных вырабаў (рыс. 7, 7), апрацаваных са спінкі краявымі сколамі, з брушка сколы толькі на баках, а лязо на гэтай плоскасці ўтварае падрыхтоўчы скол.

Чацвёрты тып, генетычна, відаць, звязаны непасрэдна з папярэднім, прадстаўляюць падавальныя вузкаабушковыя экземпляры (рыс. 8, *1, 5, 11).* Яны акуратна з двух плоскасцей апрацаваны бакавымі сколамі. Есць і незакончаныя вырабы, дзе негатывы сколаў толькі месцамі прасочваюцца на краях. Лёзы закругленыя або падпрамыя.

Пяты тып блізкі да чацвёртага тыпу. Яго складаюць сякеры, у якіх на лязе прышліфоўка або і зашліфоўка (рыс. 8, *2, 4, 8).* У некаторых экземплярах прышліфоўваліся плоскасці і бакі.

Сіметрычнымі, апрацаванымі краявымі сколамі па абедзвюх плоскасцях былі і некаторыя падчатырохвугольныя сякеры (рыс. 7, *12).* Як правіла, лёзы ў такіх экземпляраў спрацаваныя.

4 падчатырохвугольныя сякеры мелі плоскія абушкі, утвораныя адной папярэчнай плоскасцю (рыс. 7, *11).*

Сустрэліся таксама 2 падчатырохвугольныя нарыхтоўкі сякер.

Пэўную групу ўтвараюць авальныя больш або менш выцягнутыя рубячыя прылады (рыс. 7, 5). Разам з нарыхтоўкамі іх 11 экземпляраў, некаторыя маюць пэўную асіметрычнасць. Апрацаваны яны прыблізна так, як і вырабы са звужанымі абушкамі.

3 сіметрычныя прылады і 1 асіметрычная мелі вузкія абушкі, сфармаваныя сколамі, якія нагадваюць разцовыя (рыс. 7, *14).*

5 рубячых сіметрычных вырабаў мелі абушкі,ператвораныя ў масіўныя вуглавыя разцы.

Ромбападобная сякера прадстаўляе выпадковы тып (рыс. 7, *6).*

3 авальныя асіметрычныя вырабы апрацаваны сколамі толькі з адной плоскасці, з супрацьлеглага боку захавалася адна буйная плоскасць, якая амаль не была падпраўлена. 2 падобныя прылады мелі завостраныя абушкі (рыс. 7, *13).*

У малой колькасці сустракаліся і экземпляры акруглыя (рыс. 7, *4).*

Шмат знойдзена розных абломкаў сякер, пашкоджаных экземпляраў або з паўторнай апрацоўкай, якая часта мяняла форму прылады (рыс. 7, *8).* Нарыхтоўкі дазваляюць уявіць розныя этапы вырабу сякер.

Пэўную групу знаходак на помніку можна аб'яднаць у катэгорыю цяслаў (рыс. 7, *3, 9, 10)*. У адрозненне ад сякер яны менш разнастайныя, і мы паспрабавалі вылучыць тыпы на падставе спосабу апрацоўкі прылязовай часткі.

Найбольшую групу складаюць пераважна тоўстаабушковыя прылады, у асноўным апрацаваныя са спінкі з адначасовай падпраўкай ляза папярэчнымі сколамі і з брушка (21 экз.). 4 падобныя прылады зусім не маюць апрацоўкі з брушка, нават на лязе. 8 знаходак падчэсаны з брушка на баках. Для 2 цяслаў прыстасаваны плоскія нуклеусы. 3 прылады маюць прынцыповае адрозненне ад апісаных вышэй. Іх лёзы былі сфармаваны бакавымі сколамі са спінкі або брушка. Нетыповым з'яўляецца і мікрацясла з бакавым сколам на лязе і вострым абушком. Адна прылада была змайстравана на падтрохвугольнай гальцы. Са спінкі сколы ёсць толькі на лязе, а з брушка — на адным баку.

Некаторыя асіметрычныя нарыхтоўкі таксама маглі прызначацца для вырабу цяслаў. Маюцца і абломкі апісаных вышэй прылад.

У калекцыі з Русакова II захоўваецца невялікая група буйных крамянёвых вырабаў, прызначэнне якіх не зусім зразумелае. Сярод іх трохвугольнае ў папярэчным сячэнні вастрыё з бакавымі сколамі на спінцы і з неапрацаванай пятачнай часткай. Некаторыя буйныя адшчэпы, пласцінкі або абломкі замест рэтушы на баках маюць падчэску.

На помніку знойдзена і некалькі нетыповых прылад: авальная пласцінка з сярэдняй па крутасці рэтушшу па перыметры; выраб з фігурна рэтушаванымі бакамі; тры пласцінкі з пачатымі выемкамі пад яніславіцкія вастрыі; масіўныя крэмні са скошанымі і крутарэтушаванымі канцамі.

Прыкметную групу сярод знаходак складаюць камбінаваныя прылады: канцавы скрабок на падтрохвугольным адшчэпе — двайная праколка на краях скрабніцы (рыс. 5, *19);* разец бакавы на адшчэпе — скрабок; на лістападобнай пласцінцы нож — мысавы скрабок — вастрыё; пласцінкі, апрацаваныя па адным краі плоскай ці крутой рэтушшу,— скоблі на супрацьлеглых краях. Камбінаванымі прыладамі можна лічыць і ўжо апісаныя вышэй нажы з крутой рэтушшу па гарбатай спінцы, сякеры з папярэчна-вуглавымі разцамі на абушках.

Значнае месца сярод крамянёвых знаходак на стаянцы займаюць нуклеусы (рыс. 9). Яны пераважна аднапляцовачныя. Пляцоўкі маглі быць сфармаваны адным сколам, але часцей яны па меры выкарыстання нуклеуса падпраўляліся драбнейшымі сколамі. Большасць пляцовак скошана, прамыя пераважна ў тых экземплярах, дзе адшчэпні заходзілі і на бакі або пакрывалі знаходку па перыметру. Такая ўзаемасувязь пляцоўкі і адшчэпні тлумачыцца тым, што паміж плоскасцю першай і напрамкам сколу на апошняй заўсёды павінен быць вугал не больш як 90°. Толькі гэта забяспечвала атрыманне якасных адшчэпаў і пласцінак.

Заўважана, што спачатку сколваліся адшчэпы, якія ў многіх выпадках маюць на спінцы рэшткі скарынкі, потым з нуклеусаў здабывалі і пласцінкі. Для атрымання апошніх часцей прызначаліся даўжэйшыя экземпляры, адшчэпы часам папярэчна сколваліся і на тыльных частках нуклеусаў.

На вяршынях некаторых знаходак маюцца негатывы невялікіх супрацьлеглых сколаў. Але гэта не тыпалагічная, а тэхналагічная рыса. Такім чынам здымаўся лішні крэмень і сколатыя затым пласцінкі або адшчэпы станавіліся тонкімі на канцы.

Сярод аднапляцовачных нуклеусаў найбольшую групу складаюць пераважна падконусныя з усечанай вяршыняй экземпляры (рыс. 9, *4)* і толькі менш за 10 з іх цыліндрычныя (рыс. 9, *6).* Адшчэпні ў такіх знаходках заходзяць і на бакі, з тылу маюцца пераважна рэшткі скарынкі, крыху радзей — негатыў падрыхтоўчага скола. Прыблізна столькі ж акруглых нуклеусаў на тыльных частках маюць негатывы сколатых з боку адшчэпаў.

Блізкія да папярэдніх і нуклеусы, авальныя ў верхняй праекцыі (рыс. 9, *9).* Шмат клінападобных экземпляраў з падтрохвугольнай пляцоўкай (рыс. 9, *7, 14).* У іх на тыльнай частцы маецца вострая клінаватая грань, утвораная дзвюма плоскасцямі. Амаль у паловы знаходак з гэтай грані сколваліся невялікія папярэчныя адшчэпы. Прынцыпова не адрозніваліся ад іх і нуклеусы з падчатырохвугольнымі пляцоўкамі (рыс. 9, *10).*

Акруглыя або авальнасплошчаныя экземпляры часам маюць адшчэпні па ўсім перыметры (рыс. 9, *9).* Некаторыя з такіх нуклеусаў кароткія — чарапахападобныя. Яны прызначаліся для атрымання адшчэпаў. Каля 10 знаходак маюць невыразныя вузкія адшчэпні.

Асобую невялікую групу складаюць вузкія і доўгія нуклеусы, у якіх адшчэпня сфармавана на вузкай пярэдняй частцы (рыс. 9, *11).* Таксама мала паўакруглых у папярэчным сячэнні экземпляраў з адшчэпнямі на плоскай або выпуклай частках (рыс. 9, *3).* Адзінкавыя знаходкі — нуклеусы з дзвюма сумежнымі пляцоўкамі, двухпляцовачныя з сумежнымі ўзаемаперасечанымі адшчэпнямі, вырабы з негатывамі з аднаго рабра на дзве суседнія плоскасці.

Асобны тып (11 экз.) складаюць двухскошанапляцовачныя прызматычныя нуклеусы (рыс. 9, *1).* Яны адносна кароткія.

Значная частка нуклеусаў з стаянкі, якія не ўвайшлі ў папярэднія тыпы і падтыпы, мае аморфныя формы (рыс. 9, *12).* Яны ў асноўным прызначаліся для сколвання адшчэпаў і звычайна не мелі адной акрэсленай ударнай пляцоўкі. Сколы атрымліваліся з любога больш зручнага боку ў розных напрамках. Некаторыя з гэтых знаходак маюць па адным або па два негатывы. У гэтую ж групу аднесены і розныя зачаткавыя і сапсаваныя экземпляры.

У калекцыі ёсць таксама вертыкальныя, бакавыя сколы з нуклеусаў, сколы з іх вяршынь, збітыя ўдарныя пляцоўкі і сколы, якімі падпраўлялі пляцоўкі.

Адбойнікамі, мяркуючы па знаходках, служылі спрацаваныя нуклеусы, крамянёвыя і каменныя галькі (рыс. 7, *15, 17;* 8, *7, 9).*

Каменных прылад, акрамя адбойнікаў, знойдзена 10. Адна з іх — несвідраваная вузкалязовая клінападобная сякера з светла-зялёнага каменя (рыс. 8, *10).* Другая — авальнасплошчаны расціральнік. Іншы расціральнік меў выцягнутую яйкападобную форму. Ніжняя частка каменя ў выглядзе конуса з закругленымі асновай і вяршыняй ужывалася як расціральнік, вяршыня служыла рабочай часткай адбойніка.

Яшчэ адзін расціральнік-адбойнік быў сфармаваны на грушападобнай гальцы. Дзве яйкападобныя галькі служылі, відавочна, грузіламі для нейкіх рыбацкіх прыстасаванняў. Шэра-ружовая плітка з дробназярністага каменя з добра загладжанымі абедзвюма паверхнямі ўжывалася як шліфавальная прылада. Авальны камень мог выкарыстоўвацца для такіх жа мэт. Вузкі брусок, мяркуючы па форме і слядах спрацаванасці, служыў для вастрэння металічных рэчаў, гэта больш позняя знаходка.

Неалітычная кераміка з стаянкі Русакова II падзяляецца на тры характэрныя групы.

Да першай групы (тып Дубічай) належаць фрагменты таўстасценных (у сярэднім 9 мм) пасудзін з багатай расліннай дамешкай, ад якой засталіся выразныя сляды на паверхні сценак (рыс. 10—12). Такія сляды больш прыкметныя на ўнутранай паверхні пасудзін, бо знешняя лепш загладжвалася, а часам і ангабіравалася. У некаторых знаходках адначасова з расліннымі дамешкамі заўважаюцца сляды дамешкі тоўчанага вапняку. Гаршкі ляпіліся з гліняных стужак спосабам косага прылепу. Пры гэтым край венца фармаваўся з асобнай тонкай стужкі, якая прыляплялася з вонкавага скосу ніжэйшай стужкі. Унутры першай часам памяшчаўся пасак з лубу (?), які ўзмацняў край венца. Часам на самым краі венца прыкметны адбіткі абвязкі. Вострае дно фармавалася з гліняных жгутаў, выкладзеных па спіралі.

Колер знойдзеных фрагментаў рудавата-шэры і не зусім раўнамерны, там-сям прыкметны больш рудаватыя плямы. Некаторыя чарапкі знутры цямнейшыя. Свежы злом мае колер жаўтавата-шэры, у сярэдзіне злому заўсёды маецца цямнейшы блакітнавата-шэры або проста шэры праплastак.

Паверхні сценак Гаршкоў выраўноўваліся (расчэсваліся) шыраказубым грэбенем. На ўнутраных паверхнях сляды такога расчэсвання больш прыкметныя, але на выпуклінах яны прыцёртыя. Звонку сценкі ў большасці выпадкаў пакрываў ангоб. Загладжванне швоў паміж стужкамі таксама адбывалася тым жа грэбенем. Паверхні расчэсваліся коса або гарызантальна. Апошняя арыентацыя атрымлівалася пераважна пры завяршэнні апрацоўкі сценак.

Усе пасудзіны дубічайскага тыпу, мяркуючы па знойдзеных фрагментах, былі вастрадонныя (рыс. 19, *1—4),* вугал асявога сячэння дна прыблізна прамы або меншы за яго, корпус выпуклы, верхняя частка крыху звужаная. Сустракаюцца і злёгку рабрыстыя экземпляры. Дыяметр Гаршкоў дубічайскага тыпу па венцах дасягае 22—30 см.

Больш паловы венцаў прамыя, а некаторыя крыху прыгнутыя ўнутр, у астатніх краі адагнутыя вонкі (рыс. 10—12). Зрэзы іх пераважна закругленыя, некаторыя патончаныя, скошаныя ўнутр, плоскія, плоскія з выразным наплывам на краі, у адной пасудзіны край скошаны звонку. Большасць зрэзаў мае розныя наколы, ямчатыя ўмяціны, адбіткі грэбеня.

Усе гаршкі дубічайскага тыпу арнаментаваліся (гл. табл. 2 і 3) пад краем венцаў радам круглых глыбокіх ямак. Амаль у 2/3 экземпляраў яны размешчаны звонку, у астатніх — знутры пасудзін.

Звыш паловы фрагментаў керамікі не мае арнаменту. Але неарнаментаваных венцаў (тут мы не прымаем у разлік ямак пад краем і арнаментаў на зрэзах) сустрэта мала.

Арнаменты на посудзе дубічайскага тыпу былі найбольш насычанымі ў верхняй частцы вырабаў або прысутнічалі толькі на венцах, таму працэнт неаздобленых венцаў, відаць, адпавядае працэнту неарнаментаваных пасудзін.

Элементы арнаменту прадстаўлены адбіткамі тонкага грэбеня (рыс. 10, *9, 10, 12*); тонкімі насечкамі (рыс. 10, *11),* наколамі кантам нахіленай круглай палачкі з няроўным тарцом (рыс. 11, *5);* палачкі з закругленым (рыс. 11, *4)* або роўна зрэзаным тарцом (рыс. 11, *7*); кантам трубачкі (рыс. 11, *2, 5, 13);* ямчатымі наколамі; наколамі вуглом нахіленай пласцінкі (падтрохвугольныя) (рыс. 11, *1, 3);* акруглымі або

авальнымі ямчатымі ўмяцінамі з няроўным (шыпастым) або гладкім дном (рыс. 12, *5*); адбіткамі канцом размачаленай палачкі (рыс. 11, *16)*; прачэрчанымі, пераважна тонкімі, лініямі (рыс. 11, *6, 8, 9, 10, 14, 15);* прагладжанымі лініямі (рыс. П, *12);* адбіткамі нахіленай лапаткі (рыс. 11, *11)*.

Найбольш распаўсюджаныя элементы арнаменту — розныя наколы, прачэрчаныя лініі, ямчатыя ўмяціны. Паўмесячныя наколы («капыткі») атрымліваліся, калі арнаменцір — палачку ці трубачку трымалі нахіленымі ўправа, але некаторыя пасудзіны аздабляліся кантам арнаменціра, нахіленага ўніз (рыс. 11, *2)*. Радзей сустракаюцца грабеньчатыя і насечкавыя арнаменты. Грабеньчатыя адбіткі тонкія, злёгку выгнутыя, бо наносіліся зазубраным тарцом закругленай лапаткі, якую арнаменціроўшчык звычайна трымаў нахіленай да паверхні гаршка. Адбіткі размешчаны злёгку нахіленымі ўправа або вертыкальна, нахіленых улева значна менш. Адзін фрагмент меў адбіткі шырокага буйназубага штампа. Адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены чарапкі з прагладжанымі шырокімі лініямі і з адбіткамі канцом нахіленай лапаткі.

Матывы арнаментаў, утвораных з апісаных вышэй элементаў (за выключэннем прачэрчаных і прагладжаных ліній), складаюцца з частых або разрэджаных гарызантальных паясоў. Паміж зонамі такіх паясоў вялікія неарнаментаваныя палі.

Прачэрчаныя лініі размешчаны косапаралельна або ўтвараюць косую сетку, якая пакрывала ўсю паверхню керамічнага вырабу, за выключэннем прыдоннай часткі, у адзінкавых выпадках сетка ўтваралася перасячэннем вертыкальных і гарызантальных ліній. Таксама рэдка сустракаецца гарызантальнае размяшчэнне тонкіх ліній або спалучэнне гарызантальных, вертыкальных і косых зон. Шырокія прагладжаныя лініі арыентаваліся гарызантальна або коса. Камбінаваныя арнаменты на кераміцы дубічайскага тыпу сустракаюцца рэдка. Вядомы спалучэнні ямчатых умяцін з косасеткавым узорам з тонкіх прачэрчаных ліній; умяцін з такім жа ўзорам з шырэйшых ліній; адбіткаў канцом размачаленай палачкі з грабеньчатымі элементамі; гарызантальна прачэрчанай лініі з паясамі вертыкальных насечак; насечак з ямчатымі ўмяцінамі (рыс. 11, *13, 16;* 12, *1, 2)*.

Як асаблівасць, адзначым знаходкі днаў акруглых з шыпам на вастрыі. Незвычайным з'яўляецца і дно, глыбока наколатае з сярэдзіны круглым завостраным арнаменцірам.

Невялікую групу знаходак дубічайскага тыпу з Русакова II мы вылучым у асобны падтып, які з'яўляецца прамежкавым звяном паміж «дунайскай» керамікай і керамікай тыпу Лысай Гары (рыс. 12, *3)*. Для Гаршкоў гэтага падтыпу характэрны адагнуты венчык з загнутым унутр краем (адна з найбольш характэрных адзнак «лысагорскай» керамікі). Ямкі, асабліва круглыя, наносіліся пад краем венца з сярэдзіны, іншы раз звонку. У выніку ўтварыліся характэрныя выпукліны — негатывы. Акрамя звычайных для «дубічайскай» керамікі раслінных дамешак, у сценках пасудзін прыкметны рэдкія зярняты жарствы або вапняку. Грабеньчатыя расчосы на паверхнях мала прыкметныя. Менавіта на гэтай кераміцы сустрэты адбіткі лапаткі і насечкі.

Да другой групы (тып Лысай Гары) таксама належаць абломкі таўстасценных (у сярэднім 7—8 мм) пасудзін, у цесце сценак якіх адначасова ёсць дамешкі раслінных рэштак і зярнят жарствы (рас. 13; 19 *5—10)*. Спосаб фармавання «лысагорскіх» Гаршкоў такі ж, як і «дубчайскіх». Колер іх шэра-рудаваты, абедзве паверхні гладкія.

Здаецца, амаль адзіная форма керамічных вырабаў тыпу Лысай Гары на помніку Русакова II — вастрадонныя гаршкі з шыйкай і адагнутым венцам дыяметрам 23—33 см. Дно ў асявых сячэннях было прамое або большае за яго, часам яго вастрыё было прыкругленым або мела выступ — шып. Корпус плаўна закруглены амаль ва ўсіх выпадках, маецца толькі адзін фрагмент, дзе заўважаецца рабро.

Як адзначалася, усе венцы адагнутыя вонкі, у той жа час большасць іх мае на самым краі больш-менш выразны загін унутр. Зрэзы венцаў, як правіла, арнаментаваны. Ад размяшчэння арнаментацыі (на самым зрэзе, на яго ўнутраным або знешнім краі або на абодвух краях адначасова) залежала і іх форма (патончатыя, скошаныя ўнутр або вонкі).

Адна з найбольш характэрных адзнак «лысагорскай» керамікі — глыбокія наколы або ямкі пад унутраным краем венцаў. Глыбокія наколы маглі наносіцца і на знешняй паверхні венчыка. Наколы або ямкі толькі на знешняй паверхні сустракаюцца ў адзінкавых выпадках. Адпаведна наколам на супрацьлеглай паверхні ўтвараліся выпуклінысопачкі, адпаведна з круглымі ямкамі — жамчужыны. Часам сопачкі і жамчужыны выступаюць вельмі рэльефна.

Арнаменты канцэнтраваліся пераважна на верхніх частках пасудзін, зрэдку на венцы. Часта разрэджаныя паясы ўзору пакрывалі ўвесь выраб ад венца да дна. Большасць знойдзеных фрагментаў сценак неарнаментаваная, у той жа час неарнаментаваных венцаў сустрэта мала.

Элементы арнаменту складалі адбіткі канцом лапаткі (рыс. 13, *2, 8, 9—11, 13, 16;* 19, *6—8*); наколы канцом палачкі (рыс. 13, *1*); наколы нахіленым вастрыём або завостранай пласцінкай (рыс. 13, *14*); кароткія насечкі (рыс. 13, 5); падавальныя і семечкавыя наколы і ўмяціны (рыс. 13, *18);* ямчатыя наколы (рыс 19, *9*); ямчатыя ўмяціны, адбіткі грэбеня (рыс. 13, *12);* прачэрчаныя лініі, наколы вуглом пласцінкі.

Адбіткі канцом лапаткі сустракаюцца найчасцей. Арнаменцір, як правіла, адносна вузкі або вузкі, меў тарэц роўны або зламаны. Адбіткі наносіліся пераважна адступаючай лапаткай без адрыву або амаль без адрыву ад паверхні, у выніку чаго атрымліваліся спецыфічныя паскі, часам як «запінкі-маланкі». Значна менш сустрэта наколаў канцом палачкі або трубачкі (узор у выглядзе «капыткоў»). Большасць такіх наколаў была таксама адступаючай. Падтрохвугольныя наколы вуглом пласцінкі, грабеньчатыя адбіткі і прачэрчаныя лініі сустракаюцца рэдка.

Большасць адзначаных элементаў размяшчалася на пасудзінах гарызантальнымі апярэзваючымі паскамі. Часам арнаментацыя ўскладнялася: сустрэты вертыкальныя зоны з адрэзкаў паскаў, спалучэнні гарызантальных з вертыкальнымі і косымі паскамі. Тонкія лініі ўтваралі косасеткавыя ўзоры. Для многіх венцаў «лысагорскай» керамікі характэрны паміж выпуклінамі глыбокія наколы або адбіткі канцом лапаткі, як правіла, здвоеныя. Спалучэнняў розных элементаў арнаментаў амаль не назіраецца.

Сярод «лысагорскай» керамікі з Русакова II было шмат фрагментаў, у якіх не прасочваліся раслінныя рэшткі. Кераміка шчыльная, добра абпаленая. Разгледжаная група керамікі з'яўляецца пазнейшай у параўнанні са знаходкамі гэтага тыпу, яна мае рысы, уласцівыя керамікі тыпу Добрага Бору.

Больш шматлікая на стаянцы кераміка трэцяга тыпу — тыпу Добрага Бору (рыс. 14—18; 20, *1—10).* Да яго належаць руда-шэрыя фраг-

менты моцных, добра абпаленых Гаршкоў (таўшчыня сценак 5—10 мм). Сценкі фармаваліся з гліняных стужак спосабам косага прылепу і мелі дамешкі ў цесце жарствы і пяску. Дамешкі жарствы невялікія, раслінныя рэшткі не заўважаны. Пасля вылепкі гаршка паверхні сценак (абедзве або адна) загладжваліся, ад чаго захавалася падгарызантальная, адносна лёгкая штрыхоўка. Штрыхоўка слабапрыкметная, размытая або выразная. Апошняя сустракаецца часцей на танкасценных пасудзінах, якія з'яўляюцца пазнейшымі сярод «дабраборскіх». Злом сценкі па колеру мала адрозніваецца ад знешняй паверхні.

Усе пасудзіны, мяркуючы па фрагментах, былі вастрадоннымі, мелі плаўна выпуклыя брушкі, звужаныя шыйкі і высокія лейкападобныя венцы, краі якіх у пераважнай большасці злёгку загнуты ўнутр. Дыяметры керамічных вырабаў дабраборскага тыпу мелі па венцах 21—35 см. Вострыя дны ў асявым сячэнні звычайна большыя за 90°, некаторыя мелі шыпы-выступы, некаторыя прыкруглены.

Толькі трэцяя частка венцаў была арнаментаваная на зрэзах. У большасці знаходак звонку пад краямі глыбокія круглыя ямкі. Амаль у пяць разоў радзей, чым ямкі, сустракаюцца глыбокія наколы. Даволі рэдка ямкі і наколы сустракаюцца на ўнутраных паверхнях, толькі на некалькіх чарапках гэтыя элементы нанесены на ўнутраных і знешніх паверхнях пачаргова.

Сярод венцаў дабраборскага тыпу з раскопа 1970 г. знойдзена: адагнутых са зведзенымі ўнутр краямі 141, адагнутых без загібу ўнутр 17, з ямкамі пад краем 127, з наколамі пад краем 23, без ямак і наколаў 24, з ямкамі і наколамі ўнутры 20, з ямкамі і наколамі звонку 104, з ямкамі або наколамі з двух бакоў адначасова 6.

Элементы арнаментаў на гаршках: адбіткі канцом лапаткі (рыс. 14, *6, 9, 10, 14;* 15, *1;* 18, *3, 5, 10;* 20, *1, 7*); лінзападобныя і авальныя насечкі— «семечкі» (рыс. 16, *7, 9;* 17; 18, *1, 2, 4;* 20, *2);* ямчатыя наколы (рыс. 14, *11;* 15, *3—6;* 16, *2, 3, 11;* 18, *6);* паўмесячныя наколы («капыткі») (рыс. 14, *3—5, 8;* 15, *2);* кароткія насечкі (рыс. 16, *6, 8;* 18, *8, 9, 11—14);* прачэрчаныя лініі (рыс. 16, *4, 8);* грабеньчатыя адбіткі; падтрохвугольныя невыразныя адступаючыя наколы (рыс. 14, *2;* 16, *1*); глыбокія прагладжаныя лініі; тэкстыльныя адбіткі; ямчатыя ўмяціны (рыс. 14, *1;* 15, *7*).

Сярод тарцовых адбіткаў лапаткі адступаючых больш як удвая менш, у той жа час многія адбіткі і неадступаючыя наносіліся злёгку нахіленым арнаменцірам. Тарцы лапатак часам былі зламаныя, у шэрагу выпадкаў яны былі тонкія і набліжаліся да пласцінак. Лінзападобныя насечкі («семечкі») мелі закругленае папярэчнае сячэнне, на двух (?) гаршках яны двухзубыя, а на адным з дробнымі зазубрынкамі. Паўмесячныя наколы, як і на «лысагорскай» кераміцы, наносіліся кантам круглай палачкі або трубачкі, канец палачкі мог быць злёгку прыкруглены. Некаторыя кароткія насечкі цяжка адрозніць ад адбіткаў тонкай лапаткі. Грабеньчатыя ўзоры былі прамыя, вузкія і кароткія, на адным фрагменце яны злёгку адступалі.

Пераважная большасць адзначаных элементаў утварала рэдкія гарызантальныя паясы, якія апярэзвалі гаршкі. Такія паясы часта канцэнтраваліся толькі ў верхніх частках вырабаў або на самім венчыку. У большасці выпадкаў прачэрчаныя лініі ўтваралі косыя сеткі. Неарнаментаваныя фрагменты сценак у калекцыі 1970 г. складаюць 49%, неарнаментаваныя фрагменты венчыкаў — 29%.

На кераміцы дабраборскага тыпу значна багацей, чым на «лысагор-

скай», прадстаўлены ўскладненыя матывы арнаментаў. Так, былі сустрэты: гарызантальныя елачкі з насечак, «семечак» і адбіткаў грэбеня; гарызантальныя і вертыкальныя зігзагі з «капыткоў», адступаючых адбіткаў лапаткі і адступаючых ямчатых наколаў; косанакіраваныя лініі з адбіткаў лапаткі; вертыкальныя лініі і гарызантальныя паясы з косых адрэзкаў ліній «капыткоў» і ямчатых наколаў; косыя сеткі з тых жа элементаў; спалучэнні гарызантальных, вертыкальных і косых ліній адбіткаў лапаткі, «капыткоў»; сотавыя ўзоры з шасцівугольнікаў, утвораных лініямі ямчатых наколаў і «капыткоў», вертыкальныя зоны з гарызантальных адрэзкаў ліній адбіткаў лапаткі, акантураных такімі ж, але косымі адбіткамі; косыя лініі з кручкамі.

Атрыманы матэрыял дазволіў узнавіць форму і характар арнаментацыі шэрагу Гаршкоў. 16 абломкаў паходзілі ад пасудзіны дыяметрам па венцу 16—18 см, у якой адсутнічалі ямкі або наколы пад краем венца, сам край таксама не быў аздоблены. У той жа час уся паверхня гаршка пакрывалася гарызантальна выцягнутымі шасцівугольнікамі з ліній «капыткоў». Шасцівугольнікі злучаліся такімі ж лініямі і ўтваралі частыя гарызантальныя паясы. Дно, відаць, не арнаментавалася.

7 іншых фрагментаў належалі верхняй частцы пасудзіны дыяметрам па венцу каля 23 см. Каля яго краю меўся рад круглых ямак, зрэз быў чысты. Венца, шыйка і частка брушка аздабляліся косымі перасечанымі лініямі «капыткоў», якія ўтваралі косую вялікаячэістую сетку. Унутры ячэек-ромбаў ёсць кароткія косыя адрэзкі такіх жа ліній (рыс. 15, *2).*

Захаваўся гаршчок, ад якога маецца 16 фрагментаў. Ён меў чысты зрэз, круглыя ямкі пад краем венца і арнамент з рэдкіх гарызантальных ліній нахіленых «семечак» з зубчатым дном. Дыяметр пасудзіны па венцу 24—26 см. Такім чынам былі арнаментаваны і мелі такія ж венцы два іншыя гаршкі, ад якіх захавалася 26 і 14 фрагментаў (рыс. 17, *1;* 18, *1).* Гаршчок (10 фрагментаў) дыяметрам па венцу 24 см з выразнымі слядамі падгарызантальнага загладжвання на абедзвюх паверхнях, з чыстым зрэзам і ямкамі пад краем венца аздоблены рэдкімі вертыкальнымі пояскамі зігзагаў з «семечак». Характэрна тое, што ўнутры яго на шыйцы ў месцы прымацавання венца да брушка маецца прыкметнае рабро (рыс. 16, *9*).

Значна больш складаны арнамент на іншым гаршку (9 фрагментаў). Дыяметр яго па венцу 26 см, зрэз не аздоблены, пад краем венца рад круглых ямак. Уся паверхня мела рэдкія гарызантальныя адзінарныя або здвоеныя лініі «семечак», паміж якімі вертыкальна размяшчаліся здвоеныя адрэзкі такіх жа ліній (рыс. 18, *2).*

Выяўлены характар формы і арнаментацыі верхніх частак і яшчэ некалькіх Гаршкоў. На помніку Русакова II знойдзены таксама фрагменты пасудзін бронзавага веку.

**Нясілавічы VI.** Стаянка Нясілавічы VI размешчана праз 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Нясілавічы Дзятлаўскага раёна на мысе тэрасы, якая прыблізна на 3 м узвышаецца над даўнімі старыцамі Нёмана, што абмяжоўваюць мыс з поўдня і паўночнага захаду. Схілы тэрасы плаўна падымаюцца ад старыц і пераходзяць у роўную пляцоўку. Раней пляцоўка разворвалася. Цяпер яна задзірванела, тут расце малады сасняк. Вольны ад пасадак толькі мыс тэрасы плошчай каля 1000 кв. м.

Помнік адкрыты і абследаваны Н. М. Гурынай шляхам шурфоўкі і збору пад'ёмнага матэрыялу[12]. Аўтар праводзіў тут раскопкі ў 1977 г., калі было ўскрыта 60 кв. м (рыс. 3, III).

Амаль на ўсёй заходняй палове квадратаў культурны пласт перакрываўся светла-шэрым навеяным пяском. Найбольшая таўшчыня пласта пяску на крайняй заходняй лініі квадратаў да 0,1 м. Ніжэй залягаў культурны пласт магутнасцю ад 0,25 м з заходняга краю да 0,35—0,4 м з усходняга. Ён меў цёмна-шэры колер, святлейшы з боку мацерыка, утворанага светла-шэрым, жаўтаватым дробна- і сярэднезярністым пяском. У верхняй частцы культуры пласт на глыбіні 0,15 м пераворваўся.

Стаянка даследавалася метровымі квадратамі па пластах у 10 см.

Каля паўночнай сценкі раскопа ў кв. 37 і 43 выяўлены два лінзападобныя ў папярэчным сячэнні агнішчы. Яны знаходзіліся ў невялікіх паглыбленнях, якія пранікалі ў мацярык на 0,1 і 0,15 м. Агнішчы — скапленні рэштак дробнага вугалля і камення дыяметрам 2—12 см са слядамі абпалу. Камянёў мала, размешчаны яны без выразнага парадку. Дыяметры агнішчаў каля 0,5 м, таўшчыня запаўнення 0,15 м. Іх характар амаль ідэнтычны. Яны размешчаны ў суседніх квадратах на адлегласці адзін ад аднаго 0,8 м. Тое, што яны знаходзяцца побач, сведчыць аб іх розначасовасці. Агнішча, стратыграфічна ніжэй размешчанае, з’яўляецца першапачатковым.

У паўночна-ўсходняй частцы раскопа, на адлегласці 2,5—3 м ад агнішчаў, у мацерыку выяўлены 4 акруглыя гумусаваныя плямы, якія пранікаюць у яго на 0,15—0,30 м. Бліжэй да агнішчаў маюцца яшчэ тры такія, але большыя па плошчы, нерэгулярныя плямы. Магчыма, тут былі рэшткі жылля слупнай канструкцыі.

У паўднёва-ўсходнім вугле раскопа расчышчаны дзве глыбейшыя ямы, якія маюць працяг у сценках раскопа. Глыбіня адной ямы ад дзённай паверхні 1,3 м, другой 1,6 м. Магчыма, гэта рэшткі земляных умацаванняў з часоў першай сусветнай вайны, бо заплыўшыя траншэі маюцца тут спрэс на краі падпоплаўнай тэрасы. Два невялікія паглыбленні сустрэты і ў паўднёва-заходняй частцы раскопа.

На помніку намі атрымана каля 100 прылад працы і іх абломкаў, 38 нуклеусаў, 2 адбойнікі. Яны змайстраваны з крэмню, колер якога ад малочна-шэрага (радзей) да шэрага і цёмна-шэрага. Экземпляры з цёмна-шэрага крэмню па колеру нагадваюць знаходкі з усходу Беларускага Панямоння — ад в. Панямонь і вышэй па цячэнні. Некаторыя буравагыя крэмні, бясспрэчна, паходзяць з недалёкага крэмняноснага крэйдавага радовішча паўночней в. Гезгалы на р. Моўчадзь, дзе такі колер сыравіны сустракаецца часта. Адна нарыхтоўка траншэападобнай сякеры змайстравана з дробнаплямістага крэмню, які нагадвае сожскі.

Найбольш шматлікія на помніку скрабкі (рыс. 21, *4, 6).* Усе яны канцавыя, бакі вырабаў амаль заўсёды не маюць рэтушы. Высокія экземпляры сустракаюцца рэдка, большасць знаходак пераважна сярэднія і нізкія. Скрабкоў на пласцінках мала. Тры вырабы сфармаваны на адшчэпах са злёгку звужанай асновай (дэльтападобныя скрабкі). Адзінкавыя экземпляры — падчатырохвугольныя, падакруглыя і папярэчнаавальныя. Адзін канцавы выраб на пласцінцы мае дадатковую левую скрабніцу, рэтуш у ім часткова заходзіць і на правы край. У дэльтападобнага скрабка на канцы адшчэпа на правым краі скрабніцы сфармаваны папярэчна-вуглавы разец.

Выразную групу складаюць разцы. Іх формы: бакавы правы на пласцінцы, бакавы левы двайны на кароткай пласцінцы, бакавы на плоскім нуклеусе, бакавы левы на пласцінчатым адшчэпе з дробным разцовым сколам, сярэдзінна-бакавы на масіўным адшчэпе, бакавы дыяганальна-двайны на пласцінцы, сярэдзінна-вуглавы спрацаваны на вузкай пла-

сцінцы, клінападобны шматфасеткавы на збітай з нуклеуса пляцоўцы. У якасці разца мог ужывацца і плоскі абломак з папярэчным разцовым сколам.

На помніку знойдзена шмат адшчэпаў з плоскай больш-менш выразнай падрэтушоўкай па некаторых краях (рыс. 21, *9).* Некаторыя знаходкі маюць крутую падрэтушоўку. На адным адшчэпе верхні скошаны край апрацаваны плоскай і дробнай рэтушшу, другі масіўны падтрохвугольны адшчэп па ўсім левым краі пакрыты рэтушшу — ад плоскай (каля асновы) да крутой (каля вяршыні). Гэта прылада магла ўжывацца як нож-скрабок.

Значную групу ў калекцыі складаюць розныя рэтушаваныя ножападобныя пласцінкі (рыс. 21, 7, *8).* Адна знаходка рэтушавана на краі. Астатнія экземпляры маюць плоскарэтушаваныя бакі каля вяршыні або падрэтушаваны толькі па адным ці абодвух баках. У некаторых выпадках падрэтушоўка маецца і з брушка. Асобныя пласцінкі маюць завостраныя або скошаныя вяршыні.

Асаблівай увагі заслугоўваюць тры нажы. Першы, выгнуты, на тоўстай цёмна-шэрай пласцінцы, мае спрэс рэтушаваны левы выгнуты бок, на правым увагнутым баку рэтуш выяўлена слабей, асабліва добра апрацавана вастрыё. Другі экземпляр па форме і апрацоўцы падобны да першага, але ён выгнуты ў іншы бок. Трэці, таксама выгнуты, экземпляр мае рэтуш толькі на вастрыі.

Шмат нерэтушаваных пласцінак з паселішча маюць на краях сляды іх выкарыстання ў працы.

Скрэбла адно. Яно масіўнае, на вуглепадобным абломку. Скрабніца ўтворана частковай падрэтушоўкай паверх дробных і вялікіх сколаў.

На вострақанечным адшчэпе рэтушаваннем краёў вастрыя сфармавана праколка, на пласцінцы — другая. Мабыць, нарыхтоўкай праколкі або пракруткі мог з’яўляцца масіўны фігурны адшчэп. Магчыма, такой нарыхтоўкай была і пласцінка з супрацьлеглымі сколамі на вастрыі. З адшчэпа з дапамогай супрацьлеглай рэтушы была зроблена пракрутка.

Скобляў мала. Адна правая невялікая на пласцінцы, другая — на падобнай нарыхтоўцы — двухбаковая вялікарадыусная, трэцяя — на тарцы пласцінкі.

Трапецыі толькі дзве. Адна амаль квадратная, з прамымі ледзь увагнутымі і крутарэтушаванымі бакамі (рыс. 21, *3),* другая — нізкая і шырокая, нагадвае перароблена вастрыё яніславіцкага тыпу з увагнутай рэтушаванай асновай (рыс. 21, *2).*

Знойдзена адно яніславіцкае вастрыё (рыс. 21, 5). Яно вузкае і абламанае каля самай асновы.

Сярод пад’ёмнага матэрыялу на помніку знойдзены абломак трохвугольнага наканечніка стралы з увагнутай і рэтушаванай з брушка асновай. Бакі апрацаваны са спінкі. Рэтуш струменьчатая, але караткаватая. Знаходка пазнейшая, чым рэштка матэрыялу.

Выразную групу складаюць розныя рубячыя прылады. Большасць з іх прадстаўлена тыпамі траншэ (рыс. 21, *10).* У пад’ёмным матэрыяле адна траншэпадобная сякера, яе лязо з тыльнага і пярэдняга бакоў утвараюць рэшткі старых крыху патынізаваных плоскасцей сколаў. З тылу яно падпраўлена папярэчнымі сколамі, на пярэдняй прадоўжнымі. Абодва бакі з пярэдняй плоскасці апрацаваны невялікімі сколамі. Дзве іншыя знаходкі — нарыхтоўкі траншэ. На адной з іх левы выпуклы край, апрацаваны невялікімі сколамі, мог ужывацца як скрэбла.

У калекцыі ёсць абломак прылязовай часткі яшчэ аднаго траншэ і невялікі абломак падобнага экземпляра.

У адным з квадратаў быў знойдзены скошаналязовы выраб, лязо якога было сфармавана буйным бакавым (прадоўжным лязу) сколам.

Пад рубячую прыладу быў прыстасаваны аднапляцовачны плоскі нуклеус. Лязо ў ім сфармавана сколамі з двух плоскасцей.

Пераважная большасць нуклеусаў на стаянцы Нясілавічы VI — аднапляцовачныя экземпляры (рыс. 21, *11)*. Звычайна пляцоўкі прыкметна скошаны ад адшчэпні. Як правіла, тыльныя часткі знаходак утвараюць вялікія негатывы падрыхтоўчых сколаў, сустракаюцца на гэтых участках і скарынкі.

Вялікую групу ўтварылі аморфныя нуклеусы, розныя абломкі, у якіх з адной грані збіта некалькі адшчэпаў або пласцінак.

Часцей за ўсё сярод закончаных нуклеусаў сустракаюцца падцыліндрычныя і падконусныя, пераважна з усечанымі вяршынямі. Адшчэпні часта заходзяць і на бакі. У аднаго падцыліндрычнага экземпляра на' тыльнай частцы ёсць негатывы папярэчных сколаў.

З іншых формаў нуклеусаў сустрэты 2 сегментныя з адшчэпняй на прамой пярэдняй плоскасці, 2 вузкія, клінападобныя з адшчэпняй на вузкай частцы, аднапляцовачны авальнасплошчаны, кароткі конусападобны з адшчэпняй на ўсіх баках. Маюцца і два шматпляцовачныя нуклеусы.

Увесь крамянёвы матэрыял з помніка сярэдніх і дробных памераў. Сярод ножападобных пласцінак правільна абгранёныя складаюць менш як 25%.

Сярод матэрыялаў, сабраных на помніку Н. М. Гурынай, вядомы скрабкі няўстойлівых тыпаў: канцавыя на невялікіх пласцінках і скрабкі на плоскіх адшчэпах; разцы, сфармаваныя пераважна на вуглах зламаных пласцінак; адшчэпы і пласцінкі з плоскай падрэтушоўкай на вастрыях — рэзчыкі; адшчэпы і пласцінкі з рэтушаванымі выемкамі; трохвугольныя наканечнікі стрэлаў; авальныя рубячыя прылады з буйнымі беспарадачнымі сколамі; мікрапрылады на тонкіх пласцінках; пераважна аднапляцовачныя канічныя нуклеусы.

Зыходзячы з гэтых знаходак, якія маюць выразныя мезалітычныя рысы і ў той жа час рысы неалітычнай эпохі, даследчыца датавала стаянку раннім неалітам[13].

У раскопе знойдзена 16 дробных фрагментаў танкасценнай рыхлай керамікі з дамешкамі ў цесце раслінных рэштак і зрэдку нешматлікіх зярнят жарствы. На паверхнях месцамі заўважаны сляды расчэсвання грэбенем. Некалькі фрагментаў арнаментаваны гарызантальнымі паскамі косых адбіткаў танказубага грэбеня (рыс. 21, *1)*.

Такім чынам, пераважная большасць крамянёвага матэрыялу з помніка, які выказвае сувязі з мезалітычным часам пры наяўнасці неалітычных адзнак, прысутнасць невялікай колькасці грабеньчатай керамікі пацвярджаюць вывад Н. М. Турынай аб ранненеалітычным узросце стаянкі Нясілавічы VI.

**Ціхановічаў Брод.** Стаянка размешчана праз 1 км на паўночны ўсход ад в. Ганчары Лідскага раёна на краі правабярэжнай тэрасы Дзітвы вышынёй 2,5 м, вышэй насыпу былога маста, ва ўр. Ціхановічаў Брод. Стратыграфія помніка наступная: 0—0,2 м — ворны пласт; 0,2—0,7—0,8 м — шэры з папялястым адценнем пясок са знаходкамі; ніжэй.— светла-шэры, жаўтаваты мацерыковы пясок. Стаянка была адкрыта і часткова даследавана аўтарам у 1962 г.

Знойдзеныя на помніку вырабы зроблены пераважна з няроўна афарбаванага шэрага крэмню. Сустракаюцца светла-шэрыя прылады і вельмі рэдка светла-шэрыя, жаўтаватыя.

Канцавы скрабок на пласцінцы толькі адзін, ды і той зламаны. Большасць скрабкоў сфармавана на адшчэпах пераважна падавальных абрысаў (рыс. 21, *14, 15)*. Усе яны канцавыя, але на адным экземпляры ёсць дадатковая левабаковая скрабніца. У некаторых вырабаў скрабніцы скошаныя. Маюцца скрабок левы мысаваты і абломак бакавога вырабу.

Сустрэта група розных адшчэпаў з крутой падрэтушоўкай. Частка іх магла быць незакончанымі скрабкамі. На двух невялікіх абломках, пласцінцы і двух адшчэпах змайстраваны скоблі. Адна з іх двухвыемкавая.

Пераважаюць няправільныя пласцінкі, частка іх мае плоскую рэтуш або падрэтушоўку (рыс. 21, *20)*. Такім жа чынам апрацаваны і некаторыя адшчэпы.

Разец толькі адзін. Гэта сярэдзінна-вуглавы экземпляр на абломку (рыс. 21, *19)*.

На малой плошчы раскопа атрымана адносна шмат наканечнікаў стрэлаў (5) і 1 нарыхтоўка. Чатыры экземпляры — трохвугольныя вырабы з увагнутай асновай, акуратна рэтушаваныя па двух плоскасцях пераважна струменьчатай рэтушшу. Нарыхтоўка стралы аналагічная. Не зусім тыповы абломак вузкай і доўгай стралы, спрэс апрацаваны струменьчатай акуратнай рэтушшу.

Чатыры пласцінкі былі прыстасаваны пад янiславіцкія вастрыі (рыс. 21, *13)*. На трохвугольным адшчэпе змайстравана пракрутка, а на вузкай пласцінцы з крутой рэтушшу — праколка.

Тры знаходкі з’яўляюцца рубячымі прыладамі. Адна з іх нагадвае нарыхтоўку траншэ, падобны да тыпу траншэ і экземпляр з адламаным абушком (рыс. 21, *18)*. Ад чацвёртай прылады захаваўся злёгку звужаны абушок.

Нуклеусаў шэсць (рыс. 21, *17)*. Адзін з іх шматпляцовачны, рэшта— аднапляцовачныя: конусападобныя, клінападобныя або сплешчаныя ў верхняй праекцыі (па пляцоўцы).

У калекцыі некалькі абломкаў прылад, розныя сколы, неапрацаваныя рэтушшу адшчэпы і пласцінкі.

З керамічных знаходак сустрэты толькі фрагмент венца ранненеалітычнай пасудзіны. Ён прамы, мае рад ямак пад краем. Фрагмент належаў гаршку са злёгку зведзеным верхам і дамешкамі расліннасці ў цесце (рыс. 21, *12)*.

Мяркуючы па матэрыялу, большасць яго адносіцца да ранненеалітычнага часу. Некаторыя ж знаходкі, як наканечнікі стрэлаў і абушок лінзападобнай сякеры, з’яўляюцца значна пазнейшымі.

Бабінка. На левым беразе Сэрвачы, на адлегласці 0,5 км уверх па цячэнні ад в. Панямонь Навагрудскага раёна, ва ўр. Бабінка размешчана дзюна, што ўзвышаецца пад поплавам на 1,5 м. У час будаўніцтва ахоўных дамбаў вадасховішча частка дзюны была скапана. Асабліва пашкоджаны яе паўднёвы край. Тут жа доўгі час капалі і сілосныя траншэі.

Уся паўднёвая частка дзюны была занята стражытным паселішчам. Паласа са знаходкамі шырынёй 60 м выцягнута ўздоўж берага прыблізна на 200 м. Тут на восыпах земляных выпрацовак сабрана значная колькасць расшчапаных крамянеў і крамянёвых прылад, а таксама

фрагментаў рознaчасовай керамікі, асноўная колькасць якой адносіцца да неаліту. Пры гэтым было адзначана, што ў паўночным кірунку колькасць знаходак бронзавага веку павялічваецца. Гэта сведчыць аб тым, што паселішча не толькі існавала доўгі час, але ў сувязі з ростам колькасці насельніцтва пашыралася на рэшту дзюны.

На паўднёвым краі паселішча непасрэдна каля земляных выпрацовак былі закладзены два невялікія раскопы агульнай плошчай 68 кв. м.

Стратыграфія ўскрытага пласта: 0—0,3 м — гумусаваны пясок цёмна-шэрага колеру з папялястым адценнем; 0,3—0,5 м — гумусаваны пясок цёмна-шэрага колеру, які пераходзіць унізе да светла-шэрага, папялястае адценне адсутнічае; 0,5 м і ніжэй — мацярык з дробназярністага светла-жоўтага пяску.

У раскопе № 2 паміж першым і другім пластамі меўся цвёрды і перапалены праплaстак таўшчынёй да 5 см, у якім выяўлены попел і дробныя вугалі.

Сярод атрыманага археалагічнага матэрыялу найбольш шматлікія крамянёвыя вырабы. Значную групу складаюць скрабкі.

Канцавых скрабкоў на ножападобных цэлых або зламаных пласцінках 26 (рыс. 23, *1—3, 5*—7). 8 з іх маюць крутую рэтуш толькі на рабочых тарцах прылад — на скрабніцах. На іншых знаходках рэтуш заходзіць і на некаторыя краі, часам падрэтушоўка сустракаецца і каля асновы. Адзін канцавы скрабок сфармаваны на пласцінчатым адшчэпе.

Скрабкі на адшчэпах больш разнастайныя (рыс. 23, *4, 8—13).* 4 з іх — падтрохвугольныя, столькі ж акруглых скрабкоў, авальных 8. 4 экземпляры зроблены з падчатырохвугольных нарыхтовак, скрабніцы ў іх выпрамленыя. У 3 знаходках скошаны рабочы край. Знойдзена некалькі падобных прылад кароткай і высокай формы. У большасці скрабкоў на адшчэпах рабочы край больш-менш закруглены і часта мае сляды значнай спрацаванасці. Менш крутая рэтуш можа заходзіць і на краі знаходак.

Знойдзены 3 мысападобныя скрабкі (рыс. 22, *31):* 2 на пласцінках, 1 на адшчэпе.

На помніку сабрана шмат розных адшчэпаў, сколаў з нуклеусаў і абломкаў, у якіх некаторыя краі маюць сляды апрацоўкі крутой рэтушшу. Магчыма, гэта незакончаныя або сапсаваныя прылады (рыс. 22, *26).*

Група адшчэпаў, а таксама некалькі сколаў і абломкаў маюць невялікія адрэтушаваныя выемкі (рыс. 22, *32, 34, 37).* Рэтуш сустракаецца і на выпуклых частках такіх знаходак. У некаторых выпадках выемкі значных памераў. Без сумнення, большасць прылад з гэтай групы ўжывалася як скоблі.

Вялікую частку калекцыі займаюць ножападобныя пласцінкі (рыс. 22, *20, 24, 28, 29, 33).* Каля 50 з іх правільна абгранёныя і больш палова з гэтай групы па адным або абодвух краях мае рэтуш або падрэтушоўку, якая часам займае толькі невялікія ўчасткі. Рэтуш на іх плоская, што надавала прыладам функцыі рэжучых інструментаў. Шмат няправільна абгранёных пласцінак, некаторыя маюць такую ж рэтуш. Нават падрэтушаваныя экземпляры могуць мець на краях сляды ўжывання (як рэжучыя прылады).

14 розных пласцінак на некаторых краях маюць частковую, а часам і па ўсім краі скрабковую рэтуш. Некаторыя вырабы маюць апрацаваны і скошаны канец.

Адшчэпаў з завастраючай рэтушшу 36 (рыс. 22, *25).*

Некалькі дзесяткаў расшчапаных крамянеў маюць такую невыразную падрэтушоўку, што іх цяжка залічыць да якога-небудзь тыпу. Сярод іх магчымы і рэзчыкі.

Значную колькасць інвентару складаюць разцы (рыс. 23, *14—23).*

Вуглавых разцоў на зламаных пласцінках 7 (рыс. 23, *18, 21).* 3 масіўныя адшчэпы таксама маюць на вуглах разцовыя сколы (рыс. 23, *20).* Да гэтай жа групы належаць 3 разцы на кароткіх пласцінках з касымі сколамі на канцы; участкі бакавых краёў, якія прылягаюць да сколаў пад вострым вуглом, адрэтушаваны. Адзін вуглавы разец утвораны на канцы мікрапласцінкі.

7 знаходак — бакавыя разцы, утвораныя на канцах пласцінак (рыс. 23, *14, 16).* Некаторыя з такіх прылад маюць не зусім тыповыя сколы — на ўсю даўжыню вырабу, але характэрная рэтуш і спрацаванасць сведчаць, што гэтыя рэчы ўжываліся як бакавыя разцы.

4 бакавыя разцы ўтвораны на масіўных сколах з нуклеусаў, 2 з іх маюць разцовыя сколы на ўсю даўжыню прылад. Верхнія тарцы, размешчаныя паміж сколамі, маюць буйную рэтуш, а іншы раз і дробную падчэску (рыс. 23, *22, 23).*

Таксама 4 экземпляры на пласцінках складаюць групу бакавых двайных разцоў (рыс. 23, *14).* Тарцы находак апрацаваны так, як і ў прылад папярэдняга тыпу. Да гэтай жа групы прымыкаюць і 5 масіўных разцоў, у якіх з аднаго тарца з абодвух вуглоў маюцца разцовыя сколы, часам на ўсю даўжыню знаходкі. На ножападобнай нарыхтоўцы змайстраваны і іншы падобны бакавы разец, але акрамя двух бакавых сколаў з аднаго канца ў ім маецца разцовы скол і з супрацьлеглага канца.

З масіўных адшчэпаў былі зроблены сярэдзінныя разцы (рыс. 23, *17).* Рабочая частка іх звычайна фармавалася невялікімі сколамі. Толькі адзін такі разец быў утвораны на канцы ножападобнай пласцінкі (рыс. 23, *19).*

Групу сярэдзінна-вуглавых разцоў складаюць 6 знаходак. У калекцыі ёсць і невялікая колькасць буйных адшчэпаў, абломкаў, нуклеусаў з слабавыражанымі разцовымі сколамі.

На паселішчы Бабінка разцы сярод іншых крамянёвых прылад займаюць пачэснае месца. Іх характэрная асаблівасць — масіўнасць. Іншая асаблівасць — у значнай частцы іх разцовыя сколы на ўсю даўжыню прылады. Такія знаходкі ў Панямонні найчасцей сустракаюцца менавіта на Бабінцы, хоць у невялікай колькасці яны маюцца і на іншых помніках (Дабрынёва, Русакова II).

Усе знойдзеныя наканечнікі стрэлаў выраблялiся з пласцінак (рыс. 22, *1*—7), але выцягнутую лістападобную форму маюць толькі 2 экземпляры (рыс. 22, *1, 2).* Адзін наканечнік каплепадобнай формы апрацаваны з абодвух краёў плоскай рэтушшу (рыс. 22, 3). 3 наканечнікі трохвугольныя з прамой асновай (рыс. 22, *4).* Двухбаковы рэтуш, як і ва ўсіх падобных выпадках, пакрывае толькі краі. Столькі ж маецца падобных знаходак з адрэтушаванымі ўнізе выемкамі (рыс. 22, *5, 6).* Знойдзены таксама абломак джальца, магчыма, трохвугольнага экземпляра, з двухбаковай пільчатай рэтушшу.

5 крамянёвых прылад з двухбаковай апрацоўкай маглі ўжывацца як наканечнікі дроцікаў. Па форме і выкананню гэтыя прылады недасканалыя. Наканечнікамі дроцікаў маглі з'яўляцца і сіметрычныя лістападобныя экземпляры, апрацаваныя з абодвух плоскасцей краявымі сколамі і рэтушшу (рыс. 22, *35).*

Мікралітаў разам з рэтушаванымі мікрапласцінкамі каля 20 экземпляраў (рыс. 22, *8—18).*

Трапецыі 2. Адна вузкая і высокая з крутой рэтушшу па бакавых краях (рыс. 22, *8).* На другой рэтуш на краях утварае невялікія выемкі (рыс. 22, *18).*

Мікралітаў рамбічнай формы таксама 2. Адзін апрацаваны крутой рэтушшу на зломах пласцінкі, а другі — на трох краях, прычым тут утварыліся невялікія выемкі (рыс. 22, *15, 16).*

Знойдзены мікрапласцінкі з прытупленай спінкай (рыс. 22, *10—12).* У большасці іх адрэтушавана і аснова. Шмат якія мікрапласцінкі маюць толькі падрэтушоўку. Відаць, яны, як і ўся група мікралітаў, выкарыстоўваліся для вырабу састаўных прылад.

4 пласцінкі — вастрыі яніславіцкага тыпу — маюць скошаны рэтушаваны край. Іх аснова таксама пакрыта крутой рэтушшу (рыс. 22,*19).*

Праколак і пракрутак у калекцыі 13 (рыс. 22, *21—23).* 6 праколак змайстравана з завостраных ножападобных пласцінак, у якіх джальца адрэтушавана з боку брушка. З пракруткі былі сфармаваны на пласцінках, 4 — на адшчэпах. Ва ўсіх гэтых прыладах рабочыя завастрэнні апрацаваны па краях з брушка і спінкі супрацьлеглай рэтушшу. На адной пракрутцы адрэтушавана і скоблепадобная выемка.

Рубячых прылад і іх нарыхтовак 21 (рыс. 24, *1, 3—8, 11, 12).* З вырабы — авальныя ў плане і сіметрычныя ў сячэннях сякеры, апрацаваныя з абодвух плоскасцей краявымі сколамі. На некаторых участках паверхні захавалася скарынка. Лязо і абушок акруглыя, лязо фармавалася невялікімі перпендыкулярнымі да яго сколамі. 2 сякеры выцягнутаавальнай формы, блізкія па апрацоўцы да папярэдніх, але ў іх абушкі вузейшыя за лязо. Адна плоская сякера ў плане мае выцягнутую падчатырохвугольную форму і прамое лязо, якое сфармавана так, што прылада магла ўжывацца і як цясла.

Нетыповая па форме сякера зроблена з расшчапанай канкрэцыі. Адну плоскасць вырабу займае скарынка. З боку скарынкі шырокае лязо апрацавана невялікімі перпендыкулярнымі да яго сколамі, а з супрацьлеглага сфармавана доўгім бакавым сколам.

Некалькі крамянёвых абломкаў, магчыма, з'яўляюцца нарыхтоўкамі рубячых прылад. На іх паверхні толькі першапачатковыя фармуючыя сколы.

Некаторыя формы нуклеусаў, відаць, ужываліся як сякеры. 2 такія плоскія вырабы апрацаваны дадатковымі краявымі сколамі. Маюцца таксама 2 нуклеусы, у якіх 2 плоскасці са сколамі зыходзяцца на вострае рабро, якое магло з'яўляцца лязом.

Несумненным цяслам з'яўляецца толькі адзін выраб. Ён доўгі, у сячэнні прамавугольны, мае плоскую тыльную частку. Акруглае лязо сфармавана некалькімі папярэчнымі сколамі.

Адна прылада не зусім зразумелага прызначэння, у папярэчным сячэнні мае форму няправільнага паралелаграма, а ў бакавой праекцыі клінападобная. На супрацьлеглых бакавых гранях маюцца дробныя сколы і падрэтушоўка. Выраб мог выкарыстоўвацца як масіўны свердзел або як адціскальнік.

Значная колькасць крамянёвых знаходак — нуклеусы (рыс. 22, *36. 38;* 24, *2, 9, 10, 13—15),* пераважна аднапляцовачныя, прызначаліся ў асноўным для сколвання няправільна абгранёных пласцінак. Ударная пляцоўка звычайна спачатку ўтваралася адным сколам, а затым пры

выкарыстанні падпраўлялася больш дробнымі сколамі. Часам для мэт абнаўлення яна поўнасцю сколвалася.

Нуклеусы ў асноўным маюць няправільную конусападобную форму. На вяршынях часам прыкметны негатывы сколаў, накіраваныя супраць асноўных.

Групу з 32 экземпляраў складаюць акруглыя ў папярэчным сячэнні або крыху сплошчаныя знаходкі, негатывы сколаў у якіх звычайна размешчаны на пярэдняй частцы або і на баках. Тыльную частку займаюць першапачатковыя падрыхтоўчыя 'сколы або скарынка. 31 нуклеус тыпалагічна блізкі да папярэдняй групы, але на тыльнай частцы ёсць папярэчныя негатывы ад сколатых кароткіх адшчэпаў і пласцінак.

11 аднапляцовачных экземпляраў маюць негатывы сколаў з усіх бакоў, але на папярэдняй частцы яны больш выразныя. Частка нуклеусаў мае ў сячэнні форму высокага трохвугольніка. Пярэдняя вузкая грань прызначалася для атрымання доўгіх і правільна абграненых пласцінак. Бакавыя грані ўтвараліся буйнымі плоскасцямі. Вузкае тыльнае рабро, мабыць, выкарыстоўвалася для ўтрымання нуклеуса пры сколванні матэрыялу. Нуклеусаў з дзвюма скошанымі пляцоўкамі і супрацьнакіраванымі негатывамі ад пласцінак, аднапляцовачных вырабаў у форме шматгранных прызмаў, чарапахападобных кароткіх і шырокіх аднапляцовачных вырабаў для сколвання адшчэпаў і пласцінак — па 2 экземпляры.

4 нуклеусы маюць вострае рабро, з якога на абодва бакі сколваліся пласцінкі. Як адзначалася вышэй, некаторыя з такіх рэчаў маглі выкарыстоўвацца як сякеры. Знойдзены 32 аморфныя нуклеусы з беспарадкавымі негатывамі ад пласцінак і адшчэпаў.

5 масіўных крамянёвых абломкаў на некаторых краях маюць шматлікія заломы, якія, магчыма, утварыліся пры выкарыстанні іх у якасці рэтушораў.

Значную колькасць сярод расшчапаных крамянеў паселішча Бабінка складаюць неапрацаваныя адшчэпы і абломкі пласцінак, буйныя сколы з нуклеусаў і звычайныя расшчапаныя крамяні. На частцы з іх маецца падпраўка дробнымі сколамі або невыразная падрэтушоўка.

Асноўную колькасць неалітычнай керамікі на паселішчы Бабінка складаюць фрагменты пасудзін, звычайных для дубічайскага этапа нёманскай культуры (рыс. 28, *1*—9). Сценкі гэтых вырабаў маюць рудавата-шэры колер, таўшчыня іх 8—10 мм. Большая палова абломкаў на ўнутраных паверхнях са слядамі загладжвання шыраказубым грэбенем.

Элементамі арнаменту былі адбіткі тонкага зубчатага штампа (грэбеня), насечкі, наколы.

Грабеньчатыя адбіткі наносіліся пераважна зубчатай пласцінкай, рабочы край якой быў закруглены, бо адбіткі атрымліваліся злёгку выгнутыя. На 5 фрагментах ёсць рады з вертыкальных адбіткаў, а на іншых 5 — з нахіленых. 5 фрагментаў арнаментаваны насечкамі, якія наносіліся пласцінкай без зазубрыш. 5 абломкаў посуду маюць паўмесячныя наколы-капыткі, якія, відаць, атрымліваліся з дапамогай нахіленай управа палачкі. Адзін фрагмент арнаментаваны шырокай прачэрчанай лініяй. Арнаментальныя матывы ўтвараюцца з апісаных вышэй элементаў, размешчаных вакол тулава пасудзіны рэдкімі гарызантальнымі паскамі.

Венцаў, што належалі ранненеалітычнай кераміцы, знойдзена 7. 6 з іх злёгку адагнутыя на краях вонкі, а адзін прамы. Пад усімі краямі глыбокія круглыя ямкі. На знешняй паверхні 2 фрагментаў нанесены

гарызантальныя рады дробназубчатых адбіткаў. Такім жа чынам аздоблены і злёгку скошаны ў сярэдзіну зрэз. 4 венды ўпрыгожаны паўмесячнымі наколамі, такія ж наколы ёсць і на зрэзах, таксама скошаных, а на знешніх паверхнях абломкаў арнамент утварае вертыкальныя або косыя кампазіцыі (рыс. 23). Адзін чарапок, з гарызантальнымі радамі дробных наколаў, на зрэзе мае тонкія перакрыжаваныя насечкі.

Захаваліся 2 фрагменты вострага, злёгку прытупленага дна цёмнашэрага колеру (кераміка тыпу Лысай Гары). У шчыльным цесце раслінных дамешак няма, паверхня добра загладжана (рыс. 28, *10)*.

Каля 50 іншых здабытых на помніку фрагментаў адносяцца да больш позняга часу. Большасць іх датуецца бронзавым векам.

**Трахімавы Кусты.** Паселішча размешчана на невялікай дзюне на правым беразе р. Сэрвач, праз 1 км на поўдзень ад в. Панямонь Навагрудскага раёна. Помнік адкрыты А. Р. Мітрафанавым, раскопваўся ў 1963 г. І. М. Цюрынай (184 кв. м)[14].

У раскопе пад дзёрнам залягаў культурны пласт цёмна-шэрага колеру (20—25 см), падсцілаўся жоўта-шэрым мацерыковым пяском.

Значную цікавасць уяўляе знаходка двух ям на паселішчы, дзе знойдзена, згодна са звесткамі І. М. Цюрынай, шмат крамянёвых вырабаў і керамікі. Адна яма, запоўненая залой, мела дыяметр 1,7 м, а глыбіню 0,9 м. Другая яма памерамі 4,2 на 2,2 м паглыблялася ад дзённай паверхні на 1,05 м.

Прылады працы (каля 300) былі змайстраваны з цёмна-шэрага крэмню. Найбольшую групу вырабаў складаюць розныя пласцінкі з частковай краявой рэтушшу. З 32 нажоў большасць мае выцягнутую сіметрычную форму з рэтушшу па абодвух краях.

Сярод скрабкоў найбольш тыповымі з'яўляюцца канцавыя на пласцінках.

Знойдзены 2 наканечнікі стрэл: адзін трохвугольны, а другі чаранковы на пласцінцы, а таксама бакавы разец і 7 сякер. Яны клінаватыя з лінзаватымі папярэчнымі сячэннямі. Сустрэты і абломак шліфаванай сякеры. Зашліфоўку на брушку мае і цеславатая прылада.

Сярод нуклеусаў пераважаюць аднапляцовачныя падконусныя.

На плошчы раскопа, увогуле слабанасычанай знаходкамі, сустрэта 18 фрагментаў керамікі, не лічачы зусім дробных. Большасць іх паходзіць з ранняга неаліту і амаль зусім пазбаўлена арнаментаў. Толькі 2 чарапкі маюць авальныя ўмяціны. Некалькі больш шчыльных фрагментаў адносіцца да лысагорскага тыпу.

**Ярэмічы III.** На ўчастку поплаву паміж в. Ярэмічы Карэліцкага раёна і прывусцевай часткай Ушы, у левабярэжжы Нёмана, размешчана некалькі дзюн пад назвай Грудкі. На самай высокай (звыш 2 м над поплавам), што знаходзіцца на прамой лініі паміж мастом праз Ушу і царквой, размешчана старажытнае паселішча плошчай каля 500 кв. м.

Цэнтральная частка дзюны разам з культурным пластом у значнай ступені знішчана кар'ерам, тут жа прыкметна і перавейванне. У выдзьмуве і кар'еры знойдзена шмат дробных крамянеў. Большыя былі сабраны мясцовым насельніцтвам для гаспадарчых патрэб.

На тэрыторыі помніка былі закладзены дзве траншэі. Першая плошчай 12 кв. м знаходзілася ў заходняй частцы дзюны і дала матэрыял пераважна ранняга жалезнага веку. Другая траншэя плошчай 28 кв. м размяшчалася на ўсходнім краі дзюны.

Стратыграфія другой траншэі: 0—0,1 м — пласт навеянага светлашэрага дробназярністага пяску, у якім былі выяўлены толькі крамянё-

выя лусачкі; 0,1—0,7 м — цёмны гумусаваны пласт з дробназярністага пяску, святлейшы каля асновы, са слядамі залы і вугалля; 0,7 м і ніжэй — мацярык са светла-шэрага дробназярністага пяску, месцамі з участкамі ажалязнення.

Большасць крамянёвых і керамічных знаходак залягала ў другім пласце.

У калекцыі 6 канцавых скрабкоў на цэлых і зламаных нажападобных пласцінках (рыс. 25, *13—16, 18, 19).* У некаторых з іх рэтуш заходзіць і на краі.

Скрабкі на адшчэпах часцей за ўсё мелі акруглыя і авальныя формы (рыс. 25, *20, 29, 30).* Некаторыя з іх апрацаваны рэтушшу амаль па ўсім перыметры, за выключэннем нізу. Рэшта — канцавыя, рэтуш у іх заходзіць на бакі толькі часткова.

На кароткіх і пераважна шырокіх адшчэпах былі сфармаваны нерэгулярныя фігурныя скрабкі. У гэту групу мы аб'ядналі прылады, на краях якіх з дапамогай крутой рэтушы былі ўтвораны выступы і выемкі. Гэтыя знаходкі (10 экз.), магчыма, маглі ўжывацца як скрабкі і скоблі.

Знойдзены 2 мысападобныя скрабкі (на адшчэпе і на пласцінцы). 9 адшчэпаў апрацаваны па краях крутой рэтушшу. Відаць, яны таксама маглі выкарыстоўвацца для скрабення (рыс. 25, *22, 31).*

Скрабковую рэтуш маюць і некаторыя пласцінкі (рыс. 26, *4, 5).*

У раскопе знойдзены 43 пласцінкі без рэтушы, большасць з іх на краях мае заломы ўжывання. Памеры знаходак сярэднія, абгранёнасць няправільная, толькі нешматлікія дробныя экземпляры з правільнымі гранямі.

40 пласцінак маюць розную рэтушоўку. Часцей за ўсё рэтуш размешчана са спінкі па адным або абодвух краях (рыс. 26, *1, 2),* сустракаецца і з брушка. Рэтуш пакрывае ўвесь край або асобныя яго ўчасткі, што назіраецца часцей. Сустрэты 2 пласцінкі з дробнымі скоблепадобнымі выемкамі. Амаль усе знаходкі апісанага тыпу, мяркуючы па характару рэтушы,— рэжучыя прылады. Некаторыя экземпляры, асабліва вузкія і завостраныя, маглі ўжывацца як праколкі. 2 пласцінкі па адным краі маюць вельмі крутую рэтуш, па другім — дробную і плоскую, са слядамі спрацаванасці.

Знойдзены і нож на масіўнай выгнутай пласцінцы (рыс. 25, *15),* рэтушаваны з боку спінкі на ўсіх краях, за выключэннем асновы. На яго левым выпуклым краі каля вастрыя рэтуш крутая, скрабковая, на правым, злёгку ўвагнутым — плоская, рэжучая, тут жа ёсць і скоблепадобная выемка. Відаць, гэта камбінаваная прылада (функцыі нажа, скрабка і невялікай скоблі). Крутая рэтуш на спінцы магла служыць і для націску пальцам у час працы.

Ёсць у калекцыі разцы. 8 знаходак складаюць тып вуглавых разцоў на зламаных пласцінках (рыс. 25, *33).* З іх індывідуальных асаблівасцей адзначым падрэтушоўку некаторых бакавых граняў. На адной прыладзе ёсць адрэтушаваная выемка. Бакавыя разцы прадстаўлены 2 экземплярамі (рыс. 25, *28, 34).* Адзін мае разцовыя сколы на абодвух тарцах, другі — на адным. Знойдзены і сярэдзінны разец на адшчэпе і камбінаваны вуглавы бакавы (рыс. 25, *26, 32).*

Для вырабу праколак выкарыстоўваліся завостраныя адшчэпы (рыс. 25, *12).* Рэтуш размяшчалася з боку спінкі і найбольш на вастрыі, дзе прыкметны і сляды спрацаванасці.

Адна з пракрутак мае па адным краі з брушка дробную рэтуш. На

яе вастрыі прыкметны вінтападобны скол, які і сфармаваў рабочую частку прылады. Іншая пракрутка зроблена з дапамогай звычайнай супрацьлеглай рэтушы.

Выяўлена 6 наканечнікаў (рыс. 25, *1—3).* Адзін — трохвугольны, зламаны, са струменьчатай рэтушшу на спінцы і ўвагнутай асновай. Другі таксама зроблены з адшчэпа, але мае добра выяўлены чаранок і злёгку адцягнутыя ўніз крылы пяра. Доўгая струменьчатая рэтуш пакрывае з брушка ўвесь выраб, са спінкі рэтушаваны толькі чаранок. Знаходка датуецца бронзавым векам. Сярод пад'ёмнага матэрыялу два экземпляры трохвугольнай формы з прамой або злёгку выпуклай асновай. Яны пакрыты струменьчатай рэтушшу са спінкі і брушка. Трэці трохвугольны, такім жа чынам апрацаваны наканечнік мае аснову ўвагнутую, злёгку ўвагнутыя ў ім і бакі. Знойдзены і лістападобны выраб з добра выяўленым чаранком. Уся знаходка з краёў апрацавана, асабліва добра рэтушавана пяро.

На помніку шмат мікралітычных або блізкіх да іх формаў (рыс. 25, *4—11).* 5 знаходак — гэта дробныя правільна абграненыя пласцінкі з рэтушаванымі краямі. Адзін экземпляр мае рэтушаваную выемку ў аснове. 2 пласцінкі з прытупленай спінкай. Некалькі мікрапласцінак маюць невыразную краявую падрэтушоўку.

Сярод мікралітаў знаходзяцца 2 трапецыі. Бакі адной з іх апрацаваны крутой рэтушшу са спінкі, другой — з брушка.

З крамянёвых вырабаў, атрыманых намі, 8 можна аднесці да рубячых прылад (рыс. 26, *7, 8, 10, 11, 13).* Усе яны асіметрычныя як у папярэчным, так і ў прадоўжным сячэнні і нестаранна апрацаваны краявымі сколамі. 2 з іх няправільнай авальнай формы. Большасць прылад у папярэчным сячэнні падтрохвугольныя недасканалыя. Лёзы фармаваліся папярэчнымі ім або прадоўжнымі сколамі.

Адна трохвугольная масіўная прылада, апрацаваная па гранях невялікімі сколамі, мяркуючы па форме і характару ляза, з'яўлялася цяслам.

Некалькі дзесяткаў розных адшчэпаў, абломкаў, масіўных сколаў з нуклеусаў маюць другасную апрацоўку, але прызначэнне іх не зусім зразумелае.

Акрамя прылад працы на помніку, як і на ўсіх іншых стаянках Панямоння, сустрэта шмат нерэтушаваных расшчапаных крамянеў — «адыходаў вытворчасці».

Сярод знойдзеных нуклеусаў большасць складаюць аднапляцовачныя, блізкія па форме да конусападобных з усечанымі ў многіх выпадках вяршынямі (рыс. 26, *9, 12, 15).* 4 нуклеусы маюць негатывы сколатага матэрыялу на ўсіх баках, у плане яны акруглыя, але большасць знаходак аднабаковая. На іх тыльнай частцы захоўваецца скарынка або буйныя плоскасці падрыхтоўчых сколаў. Часам тут бакавымі ўдарамі збіваліся невялікія адшчэпы.

4 чарапахападобныя нуклеусы — нізкія піраміды — прызначаліся для адшчэпаў. Вострыя грані паміж ударнай пляцоўкай і бакавымі плоскасцямі з негатывамі сколаў, мяркуючы па шматлікіх заломах, маглі прыдаць некаторым экземплярам функцыі рубячых прылад. Магчыма, у пэўным сэнсе сякерай мог з'яўляцца яшчэ адзін нуклеус. Ён аднапляцовачны і клінападобны, а на ніжняй выпуклай грані меліся заломы. Адзін нуклеус з дзвюма скошанымі супрацьлеглымі пляцоўкамі. Найбольш востры яго край паміж ніжняй ударнай пляцоўкай і пярэдняй часткай мае заломы.

Большасць неалітычнай керамікі, атрыманай на паселішчы, адносіцца да ранняга часу. Асаблівасцю яе з'яўляецца таўстасценнасць (8—11 мм) і прыкметнае ангабіраванне знешніх паверхняў. Элементы арнаментаў: грабеньчатыя адбіткі, доўгія насечкі, наколы, умяціны канцом размачаленай палачкі, прачэрчаныя лініі (рыс. 27, *1—11)*. Найбольш распаўсюджаны матыў — гарызантальныя паясы.

Фрагменты керамікі лысагорскага тыпу арнаментаваліся пераважна рознымі наколамі, радзей — прачэрчанымі лініямі і ўмяцінамі. Гэтыя элементы ўтваралі частыя гарызантальныя паясы, аднак сустрэты і адзінкавыя хвалістыя і крыжападобныя ўзоры (рыс. 27, *12—14;* 28, *11—16).*

**Лысая Гара.** Паселішча Лысая Гара размешчана на правым беразе Нёмана супраць в. Апечкі Стаўбцоўскага раёна, на краі баравой тэрасы, каля паўднёва-ўсходняга падножжа ўзгорка пад назвай Лысая Гара. Заходняя частка помніка заціснута на вузкай паласе паміж узгоркам і ракой, а ўсходняя, каля берагавога агалення, што завецца мясцовым насельніцтвам Жоўты Бераг, пашыраецца да 70 м. У даўжыню з захаду на ўсход паселішча займае 150 м.

Помнік адкрыты Л. Д. Побалем. У 1962, 1963, 1965 гг. раскопваўся аўтарам. Ускрыта 405 кв. м (рыс. 3, II).

У працэсе разборкі культурнага пласта, а таксама з дапамогай шурфавання заўважана, што большасць неалітычных знаходак канцэнтруецца на заходнім вузкім краі паселішча, які ў недалёкім мінулым інтэнсіўна падмываўся ракой. Зараз у сувязі з адхіленнем рэчышча Нёмана працэс размыву запаволіўся. Далей на ўсход адначасова з расшырэннем тэрыторыі паселішча змяншаецца таўшчыня культурнага пласта, але павялічваецца колькасць знаходак бронзавага веку.

Стратыграфія культурнага пласта ў раскопе: 0—0,2 м — глебавы пласт цёмна-шэрага колеру, у якім трапляласе вуголле; 0,2—0,6 м — шэры з папялястым адценнем пласт са слядамі дробных вугалёў і попелу, бліжэй да мацерыка колер святлей. Мацярык складаецца з светла-шэрага з жаўтаватым адценнем дробназярністага пяску. Паміж культурным пластом і мацерыком сустракалася галька.

Знаходкі апрацаваных крамянеў, фрагменты керамікі залягалі на глыбіні 0,6—0,7 м. Уверсе пласта пераважна сустракаліся знаходкі позняга часу.

Ва ўсходняй частцы раскопа на глыбіні 0,3 м знойдзены развал часткі пласкадоннай пасудзіны з ружанцавым арнаментам на ўсёй паверхні. Разам з керамікай знаходзілася невялікая колькасць кальцынаваных костак. Відаць, гэта разбуранае пахаванне з рысамі сярэднебронзавай культуры.

У заходняй частцы раскопа ўнізе культурнага пласта знойдзены рэшткі агнішча, у цёмна-шэрым запаўненні якога вугалі з попелам, дробныя камяні. Дыяметр агнішча каля 1 м. На ўсход ад яго ў пласце 30—40 см мелася скапленне камянёў са слядамі абпалу, паміж якімі знаходзілася цёмна-шэрая агнішчавая маса. На такой жа глыбіні ў адным з квадратаў адзначаны развал яшчэ аднаго агнішча. Побач знаходзіўся камень дыяметрам каля 37 см са слядамі прышліфоўкі на адной плоскасці (магчыма, шліфавальная пліта).

На некаторых квадратах у мацерыку прасочваюцца паглыбленні, запоўненыя гумусаванай масай, часам нават з дамешкай дробнага вугалля. Наяўнасць у запаўненнях паглыбленняў невялікай колькасці керамікі і расшчэпаных крамянеў дазваляе многія з гэтых аб'ектаў адно-

сіць да неалітычнага часу. Прызначэнне невялікіх паглыбленняў цяжка вызначыць. Магчыма, частка іх з'яўляецца рэшткамі агнішчаў, паглыбленых у мацерыку. Ямы большых памераў маглі выкарыстоўвацца для гаспадарчых патрэб.

Крэмень, з якога выраблялiся прылады працы, знойдзеныя на помніку, мае цёмна-шэры, амаль чорны колер з масляністым бляскам.

Сярод крамянёвых вырабаў шматлікую групу складаюць скрабкі, пераважна канцавыя. Значная іх частка зроблена з ножападобных пласцінак (рыс. 29, *26—30, 32, 33, 36, 37).* У некаторых рэтуш са скрабніцы заходзіць і на край. Сустракаюцца скрабкі, у якіх без рэтушы толькі аснова (рыс. 29, *33).* Адзін экземпляр меў унізе выемкі. У другім сфармаваны выступ, які мог выкарыстоўвацца як праколка. З знаходкі на пласцінках маюць выцягнутаавальную форму. Двайных канцавых скрабкоў 2 экземпляры (рыс. 29, *26, 33),* у аднаго з іх рэтуш і з брушка.

Скрабкі на паселішчы ў асноўным выраблялiся з розных адшчэпаў (рыс. 29, *35;* 30, *1—7, 11, 12).* Часцей за ўсё яны падавальныя і падчатырохвугольныя. Шырока прадстаўлены скрабкі акруглыя. Мысападобных 7. 6 скрабкоў маюць каплепадобную форму, 4 — паўакруглую скрабніцу і прамую аснову. Астатнія формы скрабкоў прадстаўлены пераважна адзінкавымі экземплярамі, гэта — правільнаавальныя, трохвугольныя з шырокай скрабніцай, прылады са скошанай скрабніцай, ромбападобны, трохвугольны з праколкай на адным з краёў, скрабок з пільчатай рабочай часткай, авальны са скоблепадобнай выемкай у аснове, двайны на адшчэпе са скошанай скрабніцай.

У калекцыі каля 10 зламаных і сапсаваных скрабкоў.

Да скрабучых прылад належаць адшчэпы розных формаў, абломкі, а таксама ножападобныя пласцінкі, якія маюць на некаторых краях участкі з крутой рэтушшу (рыс. 30, *14, 17, 21).* Магчыма, што частка гэтых знаходак з'яўляецца незакончанымі вырабамі.

Групу з 6 знаходак складаюць прылады, крутарэтушаваныя на краі, які мае выступы і выемкі. У гэтай групе пераважаюць нерэгулярныя скрабкі.

Пэўная колькасць адшчэпаў, пласцінак і абломкаў мела толькі рэтушаваныя выемкі (рыс. 29, *31, 34;* 30, *15).* Гэта — скоблі.

Прылад, што мелі функцыі рэзання, у раскопе каля 200. З гэтай мэтай часта выкарыстоўваліся адпаведным чынам апрацаваныя адшчэпы (рыс. 31, *9).* Аднак нажамі ў большасці з'яўляліся розных памераў і пераважна няправільна абграненыя ножападобныя пласцінкі, у якіх плоская рэтуш пакрывае краі са спінкі, у некаторых выпадках краі рэтушаваліся і з брушка (рыс. 30, *13, 16, 18-20, 22, 23;* 31, *1-8, 10-12, 16).*

Вылучаюцца 12 нажоў, зробленых з завостраных і рэтушаваных пласцінак. З такія вырабы на даволі масіўных нарыхтоўках мелі выпуклае лязо і характэрную выемку каля вастрыя на супрацьлеглым ад ляза краі (рыс. 30, *20).* Лязо і выемка апрацаваны з боку спінкі завастраючай рэтушшу. На адным нажы на ніжнім тарцы меўся скрабок з выпуклай скрабніцай (рыс. 30, *23).* Да апісаных серпападобных нажоў падобны выраб з доўгага і шырокага адшчэпа. Праўда, на ім выемка апрацавана некалькі больш крутой рэтушшу. З нажы з пласцінак мелі скошаназавостраныя канцы (рыс. 30, *16).* Такія серпападобныя нажы са скошаным канцом характэрны для позненеалітычных матэрыялаў Панямоння і вядомы, напрыклад, у Ярэмічах III, Добрым Бары I, Русакове II.

Характэрны для Панямоння і тып нажоў, прадстаўлены ў калекцыі з Лысай Гары 4 экземплярамі. Гэта доўгія вырабы з гарбатай спінкай і прамым лязом (рыс. 30, *13, 22),* на якім плоская рэтуш, а на спінцы бліжэй да вастрыя крутая. Адзін такі выраб на спінцы мае невялікую скоблепадобную выемку.

Наступны тып аб'ядноўвае 4 знаходкі (рыс. 30, *18, 19).* Гэта нажы з сіметрычным завастрэннем на канцы. 2 мелі буйную краявую рэтуш і маглі ўжывацца як наканечнікі дроцікаў.

Сярод нетыповых рэжучых прылад вылучаецца доўгая і масіўная пласціна, адрэтушаваная з аднаго краю, на яе тарцы сфармаваны невялікі скрабок (рыс. 31, *16).*

Некаторыя нерэтушаваныя пласцінкі таксама маглі ўжывацца пры рэзанні.

Праколак знойдзена 19 экземпляраў. З іх 13 сфармаваны на канцах завостраных адшчэпаў з дапамогай крутой рэтушы са спінкі (рыс. 29, *19).* Такім жа чынам вырабляліся праколкі на пласцінках (рыс. 29, *21, 22).*

Пракруткі выраблялiся з дапамогай процілеглай рэтушы з завостраных пласцінак і адшчэпаў (рыс. 29, *20).* На некаторых вастрыях ёсць сляды моцнай спрацаванасці.

Масіўны і доўгі скол з нуклеуса, у якога адзін канец пакрыты крутой рэтушшу, а супрацьлеглы адрэтушаваны на краях вастрыя, магчыма, з'яўляўся камбінаванай прыладай (скрабок-праколка).

Разцоў 16 (рыс. 29, *16—18, 23—25).* У гэтай групе пераважаюць вуглавыя разцы (рыс. 29, *16, 17).* Яны фармаваліся на вуглах зламаных пласцінак, на адшчэпах, сколах з нуклеусаў. Ёсць разец на вугле масіўнага сколу, у якім разцовы скол праходзіць па ўсёй даўжыні вырабу, а тарцовая частка мае шматлікія заломы. Гэта знаходка набліжаецца да тыпу разцоў на масіўных сколах і плоскіх нуклеусах, якія характэрны для стаянкі Бабінка.

Сярэдзінны разец (1 экз.) зроблены з адшчэпа. Знойдзены бакавыя разцы на адшчэпах (рыс. 29, *18, 24)* і 2 сярэдзінна-вуглавыя экземпляры на пласцінках.

Каля 10 вырабаў — наканечнікі стрэлаў (рыс. 29, *1—7, 14, 15).* Большасць іх сфармавана на адшчэпах. З наканечнікі маюць трохвугольную форму і прамую аснову. На адным рэтуш размешчана па ўсіх краях з абодвух плоскасцей (рыс. 29, *6),* на другім — толькі са спінкі, а з брушка ёсць нязначная падрэтушоўка на аснове (рыс. 29, 5). Трэці наканечнік з прамой асновай адрэтушаваны з абодвух бакоў амаль па ўсёй паверхні (рыс. 29, *14).*

4 наканечнікі таксама маюць трохвугольную форму, але ў іх аснове ўтворана выемка. Адзін з такіх вырабаў сэрцападобнай формы амаль па ўсіх краях апрацаваны пільчатай рэтушшу (рыс. 29, *7*). Ад іншай падобнай знаходкі захаваўся абломак. 2 другія экземпляры рэтушаваны толькі на баках (рыс. 29, *15).* Адзін наканечнік з выемкай у аснове пакрыты струменьчатай рэтушшу. Выклікае пэўнае сумненне прызначэнне невялікай завостранай пласцінкі з краявой рэтушшу, у якой не апрацавана прамая аснова. Магчыма, гэта незакончаны наканечнік стралы.

Сустрэта на помніку некалькі лістападобных наканечнікаў стрэлаў (рыс. 29, *1, 2)* .

Наканечнікі дроцікаў мелі лістападобную форму (завостраны авал), яны сіметрычныя ў папярэчным сячэнні і апрацаваны па абедз-

вюх паверхнях грубымі сколамі. Больш выразныя наканечнікі на масіўных пласцінах (рыс. 30, *18, 19).*

Знойдзены пласцінкі са скошаным канцом — вастрыі яніславіцкага тыпу (рыс. 29, *9—11)*, мікрапласцінкі з рэтушшу (рыс. 29, *8, 12),* трапецыя (рыс. 29, *13).*

Выразную групу складаюць сякеры і сякерападобныя вырабы (рыс. 31, *17, 18;* 32, *1—4).* 3 экземпляры маюць асіметрычнае папярэчнае сячэнне, у 2 з іх абушкі завужаныя, а лёзы акруглыя, трэці выраб нагадвае авал. Ва ўсіх гэтых прыладах краявыя фармуючыя сколы размешчаны пераважна на больш выпуклай плоскасці. 2 іншыя авальныя сякеры маюць правільнае лінзападобнае папярэчнае сячэнне і апрацаваны сколамі аднолькава з абедзвюх плоскасцей. У астатніх вырабаў завужаныя абушкі. У некаторых на лёзах ёсць дробная падчэска. Адна прылада — мікрасякера на адшчэпе трохвугольнай формы, прамое лязо яе прышліфавана па краі з абодвух бакоў. Прышліфавана па правым лязе і сякера з абламаным абушком.

Маецца некалькі сякерападобных прылад з неакуратнай апрацоўкай. Магчыма, гэта сапсаваныя або незакончаныя экземпляры.

У час раскопак знойдзена некалькі цяслаў. Адно зроблена з масіўнага сколу канкрэцыі. Буйная рэтуш размешчана па краі толькі са спінкі, на лязе з боку брушка прасочваецца невялікая падрэтушоўка (рыс. 31, *15). 2* іншыя цяслы авальныя ў плане, а ў бакавой праекцыі, як і папярэдняе, асіметрычныя. На першым лязо апрацавана са спінкі дробнымі сколамі (рыс. 31, *13),* на другім сколамі пакрыты бакі і абушок з брушка, а на лязе маюцца толькі заломы ўжывання (рыс. 31, *14).*

У якасці адбойнікаў ужываліся невялікія крамянёвыя галькі з падпраўляючымі сколамі (рыс. 32, *17).* Знойдзены адзін дыскападобны адбойнік з моцна забітым рабочым краем. Некалькі крамянеў з заломамі на краях маглі ўжывацца як адціскальнікі.

Сярод вялікай колькасці нуклеусаў каля 30 экземпляраў маюць аморфную форму без ясна выражанай ударнай пляцоўкі і акрэсленай сістэмы аббіўкі (рыс. 32, *16, 19).*

Нуклеусы з дзвюма косымі процілеглымі пляцоўкамі ў асноўным былі прызначаны для атрымання ножападобных пласцінак (рыс. 32, *5).* На тыльных частках некаторых экземпляраў прыкметны папярэчныя негатывы сколатых невялікіх адшчэпаў.

Амаль усе іншыя нуклеусы аднапляцовачныя (рыс. 32, *6—15, 18).* Большасць з іх адначасова з'яўляецца і аднабаковымі, г. зн. найбольш выразныя негатывы сколаў размешчаны на пярэднім баку — на адшчэпні, праўда, больш-менш заходзячы і на бакі. На тыльным баку такіх вырабаў або скарынка, або плоскасць буйнога сколу. Аднак у многіх нуклеусаў ёсць і папярэчныя негатывы сколатых адшчэпаў. Большасць такіх знаходак конусападобныя або цыліндрычныя. У верхняй праекцыі знаходкі пераважна, акруглыя, але ёсць шмат і сплешчаных экземпляраў. Зрэдку сустракаюцца нуклеусы падчатырохвугольныя, паўакруглыя і клінападобныя. Знойдзена некалькі нуклеусаў, у якіх пласцінкі сколваліся з усіх бакоў, а таксама некалькі чарапахападобных экземпляраў (рыс. 32, *18).*

Незвычайным з'яўляецца аднапляцовачны нуклеус, на адным з рэбраў якога скоблепадобная рэтушаваная выемка. Рэтуш прыкметная і на тыльным рабры аднаго клінападобнага экземпляра. Рэдкая знаходка — нуклеус, прызначаны для атрымання пласцінак, у яго 2 вузкія ўдарныя пляцоўкі ўзаемасутыкаюцца пад вострым вуглом.

Акрамя прылад працы і нуклеусаў на паселішчы Лысая Гара знойдзены некалькі соцень адшчэпаў, пласцінак, сколаў і абломкаў, якія не мелі рэтушы. Адшчэпаў значна больш, чым пласцінак, якія ў пераважнай большасці няправільна абгранены.

Фрагменты керамікі адносяцца да розных этапаў нёманскай культуры, невялікая частка датуецца бронзавым векам і больш познім часам.

Ранняй (дубічайскай) керамікі знойдзена мала (рыс. 33, *1—9)*. Гэта абломкі вастрадонных Гаршкоў без шыйкі, з выпуклымі або злёгку рабрыстымі сценкамі, а пад злёгку адагнутым краем венца заўсёды меўся апярэзваючы рад глыбокіх ямак. Вострыя донцы, як правіла, роўныя або меншыя за 90°. Сценкі пасудзін рудавата-шэрага або жоўта-шэрага колеру, выраблены стужкаватым спосабам косага прылепу з гліны, у якую дамешваўся пясок і раслінныя рэшткі.

Пасля вылепкі пасудзіны паверхня яе добра загладжвалася, а сценкі з сярэдзіны раўняліся шыраказубым штампам (на шмат якіх чарапках прыкметны яго сляды). Абпал праводзіўся на вогнішчах і, безумоўна, быў не якасны, бо знутры свежых зломаў добра прыкметны больш цёмны прапластак.

Фрагменты керамікі сведчаць, што пасудзіны мелі разрэджаную арнаментацыю, шмат якія ўчасткі сценак без аздобы.

Колькасць чарапкоў, арнаментаваных наколамі (рыс. 33, *3, 6)* і грабеньчатымі адбіткамі (рыс. 33, *2, 4, 7—9)*, прыблізна аднолькавая. Наколы пераважна правільнай падтрохвугольнай формы. Яны наносіліся вуглом лапаткі або кантам палачкі, а ў некаторых выпадках тарцом трохвугольнага арнаменціра. Насечкі ўтвараліся тонкай і злёгку выгнутай пласцінкай. Толькі ў адным выпадку насечкі больш шырокія і прамыя, але ўсе яны больш-менш нахіленыя (рыс. 33, 5). 23 фрагменты арнаментаваны радамі косапастаўленых тонкіх і злёгку выгнутых грабеньчатых адбіткаў (рыс. 35, *4, 8, 10)*. Перад нанясеннем арнаменту прагладжваліся гарызантальныя апярэзваючыя пасудзіны паскі, якія служылі арыенцірам для арнаментатара.

Грабеньчатыя адбіткі па форме вельмі падобныя на многія насечкі. Ствараецца ўражанне, што яны наносіліся незазубранымі арнаменцірамі. Магчыма, для гэтага выкарыстоўваліся перлавіцы.

Некалькі фрагментаў маюць неакрэсленыя ямчатыя ўмяціны.

Усе адзначаныя элементы на пасудзінах дубічайскага тыпу размяшчаліся гарызантальнымі апярэзваючымі гліняныя вырабы паясамі.

«Дубічайская» кераміка на Лысай Гары прадстаўлена 6 абломкамі венцаў (рыс. 33, *1, 2)*. Адзін не арнаментаваны, са злёгку адагнутым вонкі патончаным краем. З прамыя венцы належалі адной пасудзіне, мелі злёгку патончаныя і закругленыя зрэзы і рад глыбокіх круглых ямак звонку пад краем. Яшчэ адно венца мела на плоскім зрэзе косыя грабеньчатыя адбіткі, шэраг такіх жа адбіткаў размяшчаўся і звонку пад самым краем, ніжэй якога былі глыбокія круглыя ямкі. Шостае венца на зрэзе аздоблена падтрохвугольнымі наколамі, больш глыбокія наколы ёсць і звонку пад краем.

На помніку найбольш шырока прадстаўлена кераміка, характэрныя асаблівасці якой дазволілі вылучыць яе ў асобны тып — тып Лысай Гары (рыс. 33, *10—19;* 34, *1—10)*. Сярод «лысагорскай» керамікі вастрадонныя гаршкі з выпуклым тулавам, звужанай шыйкай і адагнутым венцам (рыс. 33, *15)*. Дны роўныя або некалькі большыя за 90°. Пасудзіны мелі пераважна светлы шаравата-руды колер, на ўнутраных

паверхнях цямнейшы. Яны ляпіліся стужкавым спосабам косым прылепам. У глінянае цеста дабаўляліся раслінныя дамешкі і жарства. Пасля вылепкі Гаршкоў іх паверхні старанна раўняліся і, магчыма, ангабіраваліся. Затым наносіўся арнамент і вырабы абпальваліся. «Лысагорская» кераміка лепш абпалена, чым «дубічайская», яна мацнейшая, унутры разломаў звычайна няма цямнейшага праппластка.

Сярод знойдзеных чарапкоў гэтага тыпу каля 50% маюць арнаменты.

Элементы арнаменту складаюцца з розных наколаў, прачэрчаных і прагладжаных ліній, умяцін і грабеньчатых адбіткаў. Часцей за ўсё наколы наносіліся кантам адступаючай круглай палачкі (рыс. 33, *13;* 34, *2, 8).* Часам наколы пераходзілі ў кароткія або даўжэйшыя прагладжаныя лініі. Сустракаюцца наколы падтрохвугольныя (рыс. 33, *10—12, 16, 19;* 34, *4, 9),* ямчатыя ўмяціны.

Прачэрчаныя лініі тонкія і доўгія (рыс. 34, *15).* Умяціны мелі розную форму (рыс. 33), сярод іх былі і адбіткі размачаленай палачкі (рыс. 33, *14;* 34, *5*).

Найбольш тыповыя матывы арнаментацыі для керамікі лысагорскага тыпу — гарызантальныя апярэзваючыя пасудзіну паскі. Тонкія прачэрчаныя лініі размяшчаліся нахільна або ўтваралі косую сетку. Грабеньчатыя адбіткі найчасцей утваралі ялінку (рыс. 33, *17).*

Сустракаецца і ўскладненая арнаментацыя з гарызантальных перарваных паскаў, са спалучэнняў гарызантальных і косых паскаў, толькі 3 косых паскаў, размешчаных пад вуглом.

16 абломкаў вострых дноў паходзяць ад 8 пасудзін (рыс. 34, *9, 10).* 4 абломкі належалі дну, у якога вертыкальныя рады наколаў зыходзяцца да вастрыя. Фрагменты 2 іншых дноў мелі рады гарызантальныя. 3 дны мелі косанакіраваныя арнаменты з кароткіх і доўгіх ліній наколаў, а таксама з доўгіх паскаў адбіткаў размачаленай палачкі. Прыблізна так арнаментавана яшчэ адно дно. Толькі на адным дне не было арнаменту.

Выяўленыя 52 фрагменты венцаў лысагорскага тыпу паходзяць ад 32 пасудзін. Самай характэрнай рысай «лысагорскіх» венцаў з'яўляецца наяўнасць пад краем глыбокіх наколаў — падтрохвугольных, паўкруглых і г. д. Маюцца 2 венцы з глыбокімі круглымі ямкамі. У большасці экземпляраў наколы зроблены звонку і з сярэдзіны. Пры гэтым яны спачатку наносіліся з сярэдзіны гаршка, а потым звонку, чым дэфармаваўся ўнутраны рад. Значна менш венцаў, дзе глыбокія наколы рабіліся толькі з сярэдзіны. Пры такой арнаментацыі край венца заўсёды загнуты ўсярэдзіну. Такая загнутасць адзначаецца і пры іншых спосабах аздаблення венцаў і з'яўляецца адной з характэрных адзнак «лысагорскай» керамікі.

Валікападобнае патаўшчэнне пад краем, якое звычайна ўтваралася ад негатываў-сопачак, часам наўмысна наляплялася пры фармаванні венцаў. Краі венцаў патончаныя, нярэдка скошаныя ўсярэдзіну. Зрэзаў патоўшчаных і акруглых сустрэта мала.

Зрэзы арнаментаваліся пераважна папярэчнымі або косымі насечкамі, радзей — наколамі і ўмяцінамі. Патоўшчаныя зрэзы арнаментам аздабляліся пад самым краем з сярэдзіны або звонку. Выяўлена некалькі неарнаментаваных экземпляраў.

На лепш захаваных фрагментах венцаў арнамент такі ж, як і на іншых частках пасудзін.

У паўночна-ўсходняй частцы раскопа на некалькіх суседніх квадра-

тах быў знойдзены развал пасудзіны — гаршка. Удалося ўзнавіць яго форму (рыс. 33, *15).* Гаршчок меў вострае дно, выпуклыя сценкі, звужаную шыйку і адагнутае кароткае венца. Дыяметр яго па венцу 28 см, найбольшая шырыня тулава знаходзілася на 2/3 часткі вышыні пасудзіны. Пад патончаным краем венца з сярэдзіны размяшчаўся рад глыбокіх наколаў, звонку ўтвараўся перарывісты валік з сопачак. Між сопачкамі знаходзіліся кароткія косыя паскі адбіткаў канцом размачаленай палачкі. Паверхня гаршка, акрамя прыдоннай часткі, пакрыта сеткай з тонкіх прачэрчаных ліній.

На Лысай Гары керамікі дабраборскага тыпу знойдзена мала: 19 абломкаў добра абпаленага выразна прафіляванага гаршка са звужанай шыйкай, моцна адагнутым венцам, краі якога ў сваю чаргу загіналіся ўнутр (рыс. 34, *11)*. Колер фрагментаў рудавата-шэры з жаўтаватым адценнем. Яны мелі ў цесце толькі дамешкі дробнай жарствы, абедзве паверхні загладжаны, ад чаго засталася тонкая падгарызантальная заштрыхоўка. Пад краем венца знаходзіліся 2 гарызантальныя рады глыбокіх і частых адступаючых адбіткаў канцом вузкай лапаткі. Паміж гэтымі радамі і крыху ніжэй размяшчаліся такія ж, але радзейшыя наколы. На шыйцы гаршка і корпуса арнаменту няма. Сярод керамікі з Лысай Гары выяўлены знаходкі бронзавага веку.

**Русаковічы І.** Стаянка размешчана праз 1 км на захад ад в. Русаковічы Стаўбцоўскага раёна, на вышэйшым з трох пясчаных грудоў, што ўзвышаюцца на левабярэжным поплаве Нёмана. Груд з поўначы на поўдзень выцягнуты на 90 м, з захаду на ўсход на 80 м, вышыня яго над поплавам каля 4 м. Ля краёў груд парос маладымі дубамі. Раней ён разворваўся, цяпер задзірванелы.

У паўночна-ўсходняй частцы помніка быў закладзены раскоп плошчай 204 кв. м, у якім пад ворным пластом пяску выяўлены культурны пласт шэрага колеру таўшчынёй да 0,4 м, які падсцілаўся жоўта-шэрым мацерыковым пяском. Ў мацерыку выяўлена некалькі паглыбленняў, большасць з якіх засталася з часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Калекцыя знаходак, атрыманая на помніку, маладікая, але мае пэўнае значэнне для характарыстыкі ранняга неаліту Панямоння.

Крэмень на помніку звычайны для вярхоўяў Нёмана. Ён цёмна-шэры, мясцінамі шэры, з масляністымі паверхнямі. Крамянёвых вырабаў з другаснай апрацоўкай у раскопе выяўлена каля 100 экземпляраў.

Значную групу складаюць скрабкі (рыс. 35, *8—11, 16).* Шырока прадстаўлены канцавыя экземпляры на пласцінках і на адшчэпах розных формаў — акруглых, падчатырохвугольных, дэльтападобных. Часта рэтуш ад скрабніцы заходзіць і на бакі. З іншых скрабкоў вядомы: са скошанай скрабніцай, бакавыя — мысападобныя, скрабок на адшчэпе з нерэгулярнай скрабніцай. На адшчэпе была сфармавана скобля. 4 адшчэпы і іх абломкі мелі на краях крутую падрэтушоўку. Авальная масіўная прылада з буйной рэтушшу па правым выпуклым краі магла ўжывацца як скрэбла.

Разец толькі адзін — вуглавы на кароткай няправільнай пласцінцы (рыс. 35, *15).* Магчыма, разцом з'яўлялася і іншая знаходка (рыс. 35, *14).*

Усе наканечнікі стрэлаў трохвугольныя з прамымі асновамі (рыс. 35, *6, 7).* Вастрыё яніславіцкага тыпу трапілася адно (рыс. 35, *4).*

Можна аднесці да мікралітаў чатырохвугольны ўкладыш з плоскарэтушаванымі трыма краямі і трохвугольнік (рыс. 35, 5). Ёсць у калекцыі некалькі праколак і пракрутак.

Лепш прадстаўлены рэжучыя прылады. Сярод іх левалязовы нож на пласцінцы і абломак вастрыя тыпу «фінскага нажа». Некалькі пласцінак маюць на баках завастраючую плоскую рэтуш (рыс. 35, *12)*.

З рубячых прылад вядома сякера, змайстраваная на расшчапанай канкрэцыі (рыс. 35, *17),* і авальнае цясла.

Асобную групу складаюць камбінаваныя прылады: канцавы скрабок на адшчэпе і праколка (рыс. 35, *13);* двайная скобля на фігурным адшчэпе і праколка; на тоўстай пласцінцы сярэдзінна-вуглавы разец і канцавы скрабок.

Нуклеусы ўсе аднапляцовачныя (рыс. 35, *18)*.

Кераміка тыпу Дубічай на помніку прадстаўлена дробнымі абломкамі шэра-рудога колеру з багатымі раслiннымі дамешкамі ў цесце слабаабпаленых рыхлых сценак, таўшчыня якіх 7—8 мм (рыс. 35, *1—3*). Знешнія паверхні іх гладкія, унутраныя маюць сляды загладжвання грэбенем, якім наносіўся і арнамент. Стыкі між глінянымі стужкамі злучаліся тым жа штампам — яго сляды прыкметны пад адпаўшай глінай, якой замазвалася «шво».

Фрагменты венцаў і некаторыя абломкі прыдонцавых частак паказваюць, што яны паходзілі ад вастрадонных Гаршкоў з крыху звужанымі верхнімі часткамі. Большасць арнаментаваных фрагментаў сценак Гаршкоў аздаблялася адбіткамі тонкага і злёгку выгнутага грэбеня.

Вырабы арнаментаваліся пераважна частымі гарызантальнымі радамі нахіленых управа адбіткаў, частымі ялінкамі, камбінацыямі радоў нахіленых управа кароткіх або сярэдніх па даўжыні адбіткаў і радоў адбіткаў, нахіленых улева, а таксама вертыкальнымі паскамі.

Керамікі лысагорскага тыпу ў раскопе не сустрэта. «Дабраборская» прадстаўлена венцам пасудзіны з лейкападобнай верхняй часткай. На стаянцы шмат керамікі сярэднебронзавага часу. Адначасова ёй з'яўляецца частка крамянёвых вырабаў, у прыватнасці абломак «фінскага нажа».

**Русаковічы VII.** Праз 1,5 км на ўсход ад в. Русаковічы Стаўбцоўскага раёна, на левабярэжным поплаве, паўднёвей старыцы размешчана дзюна двухметровай вышыні, выцягнутая з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Месца гэтае называецца «У дубах». У прыстарычнай частцы дзюны намі ўскрыта 120 кв. м. Культурны пласт колеру ад цёмна-шэрага да шэрага, складзены пераважна дробназярністым пяском, дасягаў у таўшчыню 0,5—0,6 м. Ён падсцілаўся звычайным дзюнным пяском. У раскопе на мацерыку ям не заўважана, праўда, адно паглыбленне было часткова расчышчана ў яго паўднёва-заходнім вугле. У двух квадратах у першым пласце трапіліся раскіданыя перапаленыя камяні памерамі 10—15 см. Тут, магчыма, меліся рэшткі агнішча. У час раскопа знойдзены фрагменты розначасовых пасудзін і крамянёвыя вырабы (рыс. 36, *3, 4)*.

Крамянёвыя прылады на помніку невялікія па памерах. Яны вырабляліся з цёмна-шэрай сыравіны, характэрнай для вярхоўяў Нёмана.

Скрабкі прадстаўлены 3 канцавымі экземплярамі і 7 вырабамі на адшчэпах. На адной пласцінцы сфармавана левабаковая скобля. Разцоў 2 — вуглавы і сярэдзінна-вуглавы і незакончаны трохвугольны экземпляр стралы з невялікай выемкай у аснове.

Знойдзена вастрыё яніславіцкага тыпу і выраб падобнага тыпу. З завостранай пласцінкі была змайстравана праколка. У калекцыі ёсць пласцінкі з рэтушшу або падрэтушоўкай па краях. Крыху большую групу складаюць адшчэпы пераважна з плоскай рэтушшу або

падрэтушоўкай. Адна прылада — востраканечны нож са скошаным канцом. З рубячых прылад вядомы 2 аморфныя нарыхтоўкі сякер. Звяртаюць увагу 2 камбінаваныя прылады — скрабкі і скобель на адшчэпе, двайная скобля і праколка на падобным адшчэпе.

Групу нуклеусаў складаюць аморфныя, незакончаныя, выпадковыя экземпляры; аднапляцовачныя; аднапляцовачныя з бакавымі сколамі на тыльных частках. Знойдзены таксама невыразныя абломкі прылад, збітыя ўдарныя пляцоўкі з нуклеусаў і вертыкальныя сколы з іх, адшчэпы і пласцінкі без рэтушы, абломкі.

Знойдзеная кераміка падзяляецца на некалькі тыпаў. Дубічайскі тып прадстаўлены абломкамі 2 Гаршкоў жоўта-шэрага светлага колеру, крыху зведзеных уверсе. Адзін гаршчок на зрэзе венца мае плыткія акруглыя ўмяціны, пад ім рад круглых ямак. Арнамент — частыя паскі гарызантальных нахіленых управа адбіткаў грэбеня. Другі, аналагічны па форме гаршчок мае патончаны зрэз венца (без арнаменту), паверхня вырабу арнаментавана ялінкай з адбіткаў крыху выгнутага грэбеня, а пад краем венца круглыя ямкі.

Лысагорскі тып керамікі мае арнаменты з наколаў кантам палачкі, прагладжаных ліній, насечак, адбіткаў грэбеня. 5 фрагментаў гаршка з выразнай шыйкай і загнутым унутр краем арнаментаваны па знешняй паверхні грэбенем, на ўнутранай паверхні лёгкая падгарызантальная заштрыхоўка. Апошняя рыса набліжае гаршчок да дабраборскага тыпу.

Да трэцяга (дабраборскага) тыпу належаць абломкі Гаршкоў з падгарызантальнай заштрыхоўкай, арнаментаваныя семечкавымі ўзорамі і адбіткамі кароткага грэбеня (рыс. 36, *3).*

**Русаковічы IX.** Праз 1,5 км на паўночны ўсход ад в. Русаковічы, на правабярэжным шырокім поплаве Нёмана знаходзіцца дзюна, якую мясцовае насельніцтва называе «Высокі Груд». Яна размешчана паўночней ракі праз 0,25 км, выцягнута з поўначы на поўдзень больш як на 0,2 км. У паўднёва-заходняй частцы ўзвышэння ў 1976 г. намі быў закладзены раскоп плошчай 160 кв. м. Культурны пласт меў таўшчыню каля 0,6 м. Ён аналагічны іншым дзюнным стаянкам у вярхоўях Нёмана. У мацерыку выяўлена шмат розных ям, якія адносяцца пераважна да бронзавага веку. Знойдзены развал печы-каменкі, відаць, вельмі позняга часу.

Крэмень на стаянцы, з якога выраблялiся прылады працы, мае шэры і цёмна-шэры колер.

Як і на большасці нёманскіх неалітычных помнікаў, у калекцыі з Русаковіч IX шырока прадстаўлены скрабкі. 20 скрабкоў — канцавыя экземпляры на пласцінках.

Пераважна як скрабучыя прылады маглі выкарыстоўвацца некаторыя пласцінкі з крутой рэтушшу на баках. Да гэтай жа катэгорыі вырабаў набліжаюцца і адшчэпы з крутой рэтушшу або падрэтушоўкай. Падобная рэтуш прыкметна і на некаторых абломках. Да скрабучых прылад належаць 5 скобляў, з якіх адна на пласцінцы. На тоўстым, масіўным адшчэпе было сфармавана скрэбла.

На помніку знойдзена параўнаўча шмат разцоў (31 экз.), 7 трохвугольных з увагнутымі асновамі наканечнікаў стрэлаў, 3 наканечнікі дроцікаў (рыс. 36, *2),* вастрыё яніславіцкага тыпу.

6 вырабаў можна залічыць да праколак на завостраных пласцінках.

Прыкметную групу ўтварылі рэжучыя прылады. Для вырабу пераважнай большасці іх былі выкарыстаны ножападобныя пласцінкі (рыс. 36, 7).

21 крамянёвы выраб — розныя рубячыя прылады і іх нарыхтоўкі, пераважна сякеры, авальныя або блізкія да іх.

З выразных камбінаваных прылад вядомы толькі нож — скошаны скрабок на пласцінцы.

Нуклеусы ў калекцыі пераважна невялікія і кароткія, аднапляцовачныя. З 2 супрацьлеглымі скошанымі пляцоўкамі знойдзены адзін нуклеус. Групу з 17 экземпляраў складаюць аморфныя і зачаткавыя нуклеусы і іх абломкі.

З каменных вырабаў вядома толькі авальная галька з прышліфаванай плоскасцю і падчатырохвугольная пясчанікавая плітка.

Прыладамі апрацоўкі крэмню былі «пікаватыя» падтрохвугольныя ў папярэчным сячэнні рэтушоры, адціскальнікі на адшчэпах і абломках, адбойнік на аморфным нуклеусе.

Кераміка ў раскопе на стаянцы рознатыповая. Першы тып (дубічайскі) такі ж, як і на помніку Русаковічы VII. Для чарапкоў найбольш характэрны грабеньчатыя арнаменты. Адбіткі размешчаны ў гарызантальных рэдкіх або частых пасках, часам ялінкай.

Некалькі фрагментаў сценак арнаментаваны вертыкальнымі або падвертыкальнымі прагладжанымі і прачэрчанымі шырокімі і вузкаватымі лініямі. Сустракаецца сетчаты ўзор з такіх ліній. 4 фрагменты арнаментаваны паскамі з адступаючых наколаў кантам палачкі («капыткамі»). На некаторых абломках прыкметны адбіткі тарцом размачаленай палачкі.

Другі тып керамікі (лысагорскі) — як і на папярэднім помніку. Найбольш характэрны арнамент на сценках Гаршкоў складаўся з паяскоў плыткіх акруглых або авальных паглыбленняў (рыс. 36, *1)*, пераважная большасць якіх утворана тарцом размачаленай палачкі (рыс. 36, 5). Другую па ліку групу складаюць гаршкі, арнаментаваныя пераважна рэдкімі гарызантальнымі паяскамі «капыткоў». Вядомы таксама насечкі, прачэрчаныя лініі, ямчатыя наколы, «семечкі», адбіткі тарцом лапаткі.

Трэці тып керамікі (дабраборскі) аналагічны трэцяму тыпу з Русакoвіч VII. Фрагменты сценак арнаментаваны паскамі нахіленых управа або ўлева насечак, вузкім лінейным штампам, вертыкальнымі лініямі або косай сеткай з ліній, тэкстыльнымі адбіткамі (рыс. 36, *6)*.

**Куцец I.** Стаянка размешчана праз 0,4 км паўднёвей в. Куцец Стаўбцоўскага раёна, на акруглай у плане дзюне пасярод правабярэжнага поплаву Нёмана. Вышыня дзюны над поплавам 1,5 м, даўжыня каля 60 м. У 1976 г. намі тут ускрыта 176 кв. м. Культурны пласт светла-шэрага і шэрага колеру, мае таўшчыню ў 0,3—0,6 м. У мацерыку выяўлены ямы, частка іх, бясспрэчна, позняга паходжання. У заходняй сценцы раскопа прасочваецца слабавыражаны вуглісты праслойак. Знойдзены рэшткі агнішча без камянёў, а таксама агнішча, выкладзенае невялікімі камянямі.

Сярод крамянёвых знаходак пераважаюць прылады, характэрныя для адначасовых помнікаў Панямоння: скрабкі, скоблі, скрэблы, разцы, наканечнікі стрэлаў, нажы і г. д. (рыс. 37).

Фрагменты Гаршкоў, знойдзеныя на помніку, падзяляюцца на звычайныя для Панямоння тры тыпы. Кераміка дубічайскага тыпу (рыс. 38, *1, 2, 4,* 7, *9)* арнаментавана пераважна грабеньчатымі адбіткамі, якія часам спалучаліся з адбіткамі канцом размачаленай палачкі або прагладжанымі і прачэрчанымі лініямі. Сустракаюцца і «капыткі».

Фрагменты Гаршкоў лысагорскага тыпу (рыс. 38, *3, 5, 6, 8, 11)*

аздабляліся «капыткамі», падтрохвугольнымі наколамі, ямчатымі наколамі, адбіткамі грэбеня і размачаленай палачкі, насечкамі, прачэрчанымі лініямі, адбіткамі канцом лапаткі. Сустракаліся характэрныя ўзоры, якія маглі атрымацца ад адбіткаў грубай тканіны (рыс. 38, 5). На некаторых чарапках прыкметна заштрыхоўка.

Грабеньчатыя ўзоры сустракаюцца і на кераміцы дабраборскага тыпу. Акрамя іх вядомы ямчатыя наколы, «семечкі», насечкі, адбіткі тарцом лапаткі (рыс. 38, *10).* У некаторых фрагментах «дабраборскай» керамікі з Кутца I захаваліся рысы керамікі «лысагорскай» — дамешкі расліннасці.

**Янава II.** У Слонімскім раёне на высокай тэрасе левабярэжжа Шчары, перарэзанай ярамі, між в. Ніз і хутарам Янава размешчана неалітычная стаянка Янава II. Намі тут быў ускрыты ўчастак плошчай 104 кв. м.

У паўночна-ўсходняй частцы раскопа каля самай асновы культурнага пласта меліся два агнішчы, складзеныя з камянёў і запоўненыя вугліста-зольнай масай.

На глыбіню да 20 см у культурным пласце сустракаліся пераважна знаходкі бронзавага веку, ніжэй у асноўным залягаў неалітычны матэрыял. Мацярык складаўся з дробназярністага жоўта-шэрага пяску, ніжэй якога залягаў прапластак розназярністага пяску і галькі.

Знаходкі на паселішчы прадстаўлены крамянёвымі прыладамі, фрагментамі керамікі, а таксама рознымі расшчапанымі крамянямі без другаснай апрацоўкі.

У культурным пласце знойдзена вялікая колькасць розных крамянёвых адшчэпаў, пласцінак, абломкаў, нуклеусаў, а саміх прылад адносна мала (рыс. 39). Гэта сведчыць аб тым, што на помніку значную ўвагу аддавалі апрацоўцы крэмню, у выніку чаго і засталося шмат адходаў.

Ранненеалітычнай керамікі на стаянцы атрымана мала, гэта дробныя неарнаментаваныя абломкі. Толькі адзін чарапок упрыгожаны дробнымі «капыткамі».

Больш шырока прадстаўлена кераміка лысагорскага тыпу. Яна арнаментавана адбіткамі тарцом лапаткі, «капыткамі», ямчатымі наколамі і ўмяцінамі (рыс. 40, *1—15).* Пераважную большасць арнаментальных матываў складаюць рэдкія гарызантальныя паясы, часам яны ўтвараюць больш складаную кампазіцыю — накіраваны нахільна, утвараюць сетку.

Каля 10 фрагментаў керамікі адносяцца да тыпу Добрага Бору (рыс. 40, *16).*

**Бор.** Стаянка размешчана каля хутара Бор Лідскага раёна, на высокім мысе тэрасы Нёмана, пры ўпадзенні ў яго Дзітвы. Помнік адкрыты і раскопваўся (50 кв. м) Н. М. Гурынай (1957 і 1961 гг.)[15]. Зараз амаль увесь помнік разбураны (кар’ерам). Тут выяўлены два гарызонты культурнага пласта з мезалітычнымі і неалітычнымі знаходкамі. Сярод апошніх большасць належыць да тыпу Лысай Гары. У невялікай колькасці сустрэта і дубічайская кераміка.

**Добры Бор I.** Паселішча было размешчана праз 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Добры Бор Баранавіцкага раёна, на дзюне вышынёй 4,5 м, абкружанай поплаўным балотам правабярэжжа Шчары. Адкрыта ў 1951 г. А. Р. Мітрафанавым, раскопвалася ў 1960 г. І. М. Цюрынай. Плошча помніка 5500 кв. м, ускрыта 984 кв. м. Культурны пласт мае звычайную для дзюнных стаянак Панямоння стратыграфію: пад дзірва-

ном залягаў пласт цёмна-шэрага пяску, таўшчыня якога вагалася ад 0,5 да 0,8 м.

У раскопе выяўлена 12 рэштак круглых і авальных агнішчаў дыяметрам ад 1 да 2,3 м, якія знаходзіліся ў паглыбленнях глыбінёй 0,15—0,2 м. Знойдзены таксама і два скапленні камянёў — магчымыя рэшткі агнішчаў.

У мацерыку 5 ям. Яны мелі падпрамавугольную форму, арыентаваны на поўдзень і паўднёвы ўсход. Памеры першай — 3 на 2,5 м пры глыбіні 1 м, другой — 3 на 2,5 пры глыбіні 1,25 м, трэцяй — 3,5 на 3 м пры глыбіні 1,25 м. Дзве апошнія ямы мелі конусападобную форму і дыяметры 1,3 і 1,5 м, глыбіню — адпаведна 1,5 і да 2 м. Знаходкі ў ямах прадстаўлены керамікай і крамянёвымі вырабамі. І. М. Цюрына лічыць, што конусападобныя ямы мелі гаспадарчае прызначэнне, а тры першыя з'яўляліся рэшткамі жылля. Аналогіі сведчаць, што гэтыя аб'екты хутчэй за ўсё трэба датаваць бронзавым векам.

З раскопа сабрана значная калекцыя крамянёвых і каменных прылад працы і фрагментаў керамікі.

Крэмень, з якога выраблялі на стаянцы прылады працы, падобны да матэрыялу суседняга помніка Русакова II, ён пераважна шэры і няроўна афарбаваны — ад светла-шэрага да цёмнага, часам блакітнаваты, адрозніваецца высокай якасцю, што дазваляла атрымліваць масіўныя і доўгія пласціны і іншыя нарыхтоўкі.

179 вырабаў — скрабкі (рыс. 41, *2, 3),* з іх 75 на пласцінках. Сярод апошніх маецца выразная група канцавых на даволі кароткіх правільна абграненых падчатырохвугольных нарыхтоўках. Асноўнае адрозненне паміж позненеалітычнымі скрабкамі з Добрага Бору і больш ранні́мі скрабкамі з іншых стаянак Панямоння назіраецца ў характары скрабніц. У дабраборскіх знаходак скрабніцы маюць правільны выпуклы край і апрацаваны акуратнай рэтушшу — вузкай, набліжанай да струменьчатай, з вельмі малой рэльефнасцю. Адзін са скрабкоў мае выдзелены з брушка падчэскай плоскі насад (рыс. 46, *4).* У калекцыі 19 адшчэпаў з крутой падрэтушоўкай, якія, напэўна, таксама мелі функцыі скраблення (рыс. 41, *5*). Крутой рэтушшу апрацаваны і некаторыя пласцінкі.

20 адшчэпаў і пласцінак з крутарэтушаванымі выемкамі з'яўляліся скоблямі (рыс. 41, *16).* На некаторых масіўных расшчапаных крамянях фармаваліся скрэблы.

Найбольш значная група ў раскопе (418 экз.) — рэжучыя прылады (рыс. 41, *4, 6—8, 11, 12).* З іх 237 экземпляраў зроблены з пласцінак, астатнія — з адшчэпаў.

На пласцінках сфармаваны шматлікія нажы, у асноўным з плаўна скошанымі і завостранымі канцамі. Апрацоўваліся гэтыя прылады акуратнай і (часта) струменьчатай рэтушшу. Вылучаецца група нажоў на масіўных пласцінах (рыс. 41. 8). Яны маюць прамое лязо і гарбатую спінку (нажа), пры гэтым найбольш выгнута спінка паблізу вастрыя. Прылады рэтушаваліся толькі са спінкі (пласцінкі), плоска — на лязе, крута — на выгіне спінкі (у гэтае месца, мусіць, зручна было націскаць указальным пальцам у час працы нажом). Лязо каля вастрыя часам мае прыкметныя сляды спрацаванасці. Аналагічныя прылады (у меншай колькасці) вядомы на стаянках Ярэмічы III, Лысая Гара, Русакова II.

Знойдзена шмат наканечнікаў стрэлаў (рыс. 41, *1*). Амаль усе яны — позція тыпы: у іх увагнутыя асновы і на абедзвюх плоскасцях

рэтушаваны струменьчатай рэтушшу, краі нярэдка маюць пільчатыя абрысы.

Наканечнікі дроцікаў выраблялiся з пласцін. Яны маюць формы вострага ліста, рэтушаваны толькі са спінкі (рыс. 41, *13, 14).*

Выразны бакавы разец знойдзены на фрагменце масіўнай пласцінкі. Разцовы скол нанесены і на іншай, больш вузкай пласцінцы.

Некаторыя знаходкі з'яўляюцца камбінаванымі прыладамі.

У калекцыі шмат рубячых прылад, пераважна сякеры і іх нарыхтоўкі (рыс. 41, *15).* Сякеры, як правіла, мелі выцягнутыя формы са звужанымі абушкамі, акуратна апрацаваны краявымі сколамі. Такія ж звужанаабушковыя ў асноўным і цяслы (рыс. 41, *9).* У некаторых з іх лёзы старанна апрацаваны, нагадваюць скрабніцы.

Двухпляцовачных прызматычных нуклеусаў толькі 3. Яны кароткія і невыразныя. Астатнія нуклеусы — у асноўным адапляцовачныя экземпляры (рыс. 41, *16, 17).* У калекцыі адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены аморфныя формы і формы з сумежнымі пляцоўкамі. Сярод аднапляцовачных нуклеусаў звяртаюць увагу знаходкі з трохвугольнымі пляцоўкамі і з адшчэпнямі на вузейшых плоскасцях, пакрытых негатывамі правільных пласцінак. Выразныя таксама нуклеусы з чатырохвугольнымі пляцоўкамі і экземпляры на абломках крамянёвых плітак. Характэрны і знаходкі з падавальнымі і лодкападобнымі (у профілі) пляцоўкамі, у якіх найбольш выразныя адшчэпні на супрацьлеглых баках, а на пярэдняй плоскасці прыкметны негатывы больш шырокіх пласцінак. Некаторыя такія экземпляры маюць адшчэпні толькі на супрацьлеглых плоскасцях.

Сярод каменных вырабаў сустрэты кароткія свідраваныя сякеры, якія не звязваюцца з неалітычнай керамікай стаянкі.

На помніку не знойдзена рэтушаваных мікрапласцінак, трапецый, вастрый яніславіцкага тыпу, г. зн. знаходак, характэрных для нёманскага ранняга неаліту. Як мы ўжо бачылі, амаль няма на помніку разцоў. Разцы не сустрэліся і на стаянцы позняга неаліту (ранняй бронзы) каля в. Латышы Дзятлаўскага раёна, даследаванай аўтарам, яны малалікія і на іншых помніках, дзе пераважна прадстаўлены матэрыялы дабраборскага этапа нёманскай культуры. Можна думаць, што для Добрага Бору гэта катэгорыя прылад амаль не характэрна.

Усяго ў калекцыі, што захоўваецца ў фондах Дзяржаўнага гістарычнага музея БССР, маецца 9 арнаментаваных фрагментаў «дубічайскай» керамікі з Добрага Бору I і столькі ж неарнаментаваных. У іх цесце прыкметны раслінныя дамешкі і зярняты жарствы, акрамя таго, чарапкі тоўстыя. Па такіх адзнаках гэта кераміка набліжаецца да лысагорскага тыпу і, відаць, з'яўляецца самай позняй з «дубічайскіх» матэрыялаў. Арнаментавана яна авальнымі і акруглымі неглыбокімі ямчатымі ўмяцінамі, доўгімі і кароткімі насечкамі.

Сярод керамікі тыпу Лысай Гары 55 абломкаў (рыс. 42, *7*; 43, *4),* пры гэтым толькі 10 (?) з іх без арнаменту. На даследаваных аўтарам стаянках Панямоння неарнаментаваная кераміка складае каля 50% «лысагорскай» і «дабраборскай». Магчыма, не ўся неарнаментаваная кераміка трапіла ў музейную калекцыю.

Сярод лысагорскага тыпу найбольш выяўлена фрагментаў з тарцовымі адбіткамі лапаткі (22 экз.). На 11 чарапках маюцца «капыткі». У адзінкавых выпадках сустрэты арнаменты з ямчатых умяцін і наколаў, насечак, прачэрчаных ліній, адбіткаў размачаленай палачкі. На адным абломку адзначана спалучэнне насечак з ямчатымі ўмяцінамі.

Т а б л і ц а I

Крамянёвы і каменны інвентар з асноўных неалітычных стаянак Панямоння

| Інвентар | Русакова II | Нясілавічы VI | Ціхановічаў Брод | Бабінка | Ярэмічы III | Лысая Гара | Русаковічы I | Русаковічы VII | Русаковічы IX | Куцец I | Янава II | Добры Бор I |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Наканечнікі стрэлаў | 2 | 1 | 6 | 10 | 6 | 13 | 3 | 1 | 7 | 6 | 2 | 23 |
| Наканечнікі дроцікаў | 7 | | | 5 | 1 | 3 | 1 | | 3 | 2 | | 11 |
| Скрабкі на пласцінках | 75 | 5 | 2 | 30 | 10 | 39 | 8 | 3 | 26 | 5 | 2 | 75 |
| Скрабкі на адшчэпах | 143 | 15 | 6 | 43 | 23 | 69 | 26 | 7 | 27 | 9 | 5 | 104 |
| Разцы | 38 | 9 | 1 | 55 | 12 | 16 | 2 | 2 | 31 | 2 | 4 | 2 |
| Трапецыі | | 2 | — | 2 | 2 | 1 | | | | | | |
| Мікрапласцінкі з рэтушшу | | 2 | — | 15 | 7 | 2 | 1 | 1 | — | — | 1 | — |
| Вастрыі яніславіцкага тыпу | 3 | 1 | 4 | 4 | 2 | 3 | 1 | 2 | 1 | 3 | | |
| Праколкі і пракруткі | 11 | 5 | 2 | 13 | 7 | 31 | 5 | 3 | 6 | 8 | 2 | 8 |
| Рэжучыя прылады на пласцінках | 257 | 22 | 6 | 51 | 35 | 105 | 17 | 9 | 75 | 26 | 5 | 237 |
| Рэжучыя прылады на адшчэпах | 174 | 3 | 13 | 36 | 17 | 88 | 10 | 6 | 43 | 27 | 5 | 181 |
| Пласцінкі з крутой рэтушшу | 9 | 2 | 1 | 14 | 4 | 26 | 1 | 1 | 10 | 2 | 2 | 4 |
| Адшчэпы з крутой падрэтушоўкай | 40 | 21 | 8 | 54 | 8 | 75 | 10 | 4 | 18 | 4 | 13 | 19 |
| Скоблі | 17 | 3 | 5 | 38 | 5 | 9 | 2 | 1 | 5 | 6 | 1 | 20 |
| Камбінаваныя прылады | 9 | 2 | 1 | 2 | 1 | 4 | 2 | 2 | 1 | 10 | | 7 |
| Рубячыя прылады | 168 | 9 | 3 | 21 | 8 | 65 | 3 | 2 | 21 | 3 | 11 | 153 |
| Іншыя тыпы | 16 | 5 | 2 | 10 | 6 | 3 | 4 | 3 | 7 | 4 | | 18 |
| Нявызначаныя абломкі прылад | 39 | 5 | 6 | 6 | 9 | 17 | 4 | 1 | 14 | 7 | 1 | 5 |
| Двухпляцовачныя нуклеусы | 11 | | | 2 | 1 | 6 | 6 | | 1 | 1 | | 3 |
| Аднапляцовачныя і іншыя нуклеусы | 444 | 38 | 7 | 156 | 25 | 93 | 21 | 37 | 99 | 26 | 27 | 136 |
| Абломкі нуклеусаў і сколы | 163 | 9 | 3 | 24 | 8 | 32 | 9 | 7 | 34 | 12 | 14 | 10 |
| Каменныя прылады | 10 | | | | | 2 | | | 2 | | | 5 |
| У с я г о | 1636 | 159 | 76 | 591 | 197 | 702 | 136 | 92 | 431 | 163 | 95 | 1021 |

Пераважную большасць керамікі са стаянкі складаюць знаходкі тыпу Добрага Бору (рыс. 42, *1—6;* 43, *1—3, 5, 6).* Посуд гэтага тыпу мае формы і тэхналагічныя адзнакі, надзвычай блізкія да аналагічных матэрыялаў з Русакова II. Аднак на некаторых гаршках з Добрага Бору I з сярэдзіны на пераломе ад шыйкі да брушка было сфармавана выразнае рабро. Шмат і пасудзін, якія пад краем венца ўвогуле не мелі такіх характэрных для дабраборскага тыпу круглых і глыбокіх ямак.

Найбольш распаўсюджаныя арнаменты «дабраборскай» керамікі з Добрага Бору I — розныя ямчатыя наколы (332 фрагменты), сярод іх «капыткі» сустрэліся на 68 фрагментах. Каля 200 абломкаў мелі адбіткі тарцом лапаткі, якая пры арнаментаванні нахілялася або «адступала». Часта адступаючыя адбіткі канцом вузкай лапаткі ўтваралі суцэльныя паскі. «Семечак» значна больш, чым на помніку Русакова II. І наадварот, у Добрым Боры нечакана аказалася шмат адбіткаў грэбеня (26 экз.). Сярод іншых арнаментаў вядомы прачэрчаныя лініі, ямчатыя ўмяціны (рэдка), занальныя тэкстыльныя адбіткі.

Элементы арнаменту ўтваралі звычайныя для гэтага тыпу керамікі кампазіцыі. Выключную цікавасць мае сустрэты на адным чарапку ромб з кручкамі на ніжнім вугле.

Некаторыя венды Гаршкоў, блізкія да дабраборскага тыпу па цесту і заштрыхоўцы сценак, мелі шнуравы арнамент. Але яны былі звычайна танчэйшыя і амаль заўсёды не мелі пад краем ямак. Гэты матэрыял намі аднесены да культуры шнуравой керамікі.

На помніку ёсць пэўная колькасць і бясспрэчных знаходак бронзавага веку.

Такім чынам, абсалютная большасць як крамянёвага інвентару, так і керамікі на стаянцы належыць да дабраборскага тыпу і характарызуе трэці (позні) этап нёманскай неалітычнай культуры.

Атрыманыя з раскапаных стаянак матэрыялы (табл. 1, 2) дазваляюць адносна поўна характарызаваць нёманскую культуру на ўсіх этапах яе развіцця. Складванне і ранні (дубічайскі) этап культуры шырока прадстаўлены знаходкамі з Нясілавіч VI, Бабінкі, Русаковіч I. Акрамя таго, матэрыялы гэтага часу выяўлены і на шэрагу іншых помнікаў, дзе яны залягалі разам з пазнейшымі знаходкамі (Русакова II і інш.). Другі (лысагорскі) этап культуры характарызуецца знаходкамі з Лысай Гары, часткова з Русакова II, Ярэміч ПІ, з стаянак у вярхоўях Нёмана. Позні (дабраборскі) этап найбольш выразна прадстаўлены на стаянках Добры Бор і Русакова II.

Большасць помнікаў, даследаваных у Панямонні шляхам раскопак,— шматслойныя, з рэшткамі культуры трох этапаў (часам двух). Але ўлічваючы, што розначасовыя матэрыялы не заўсёды ўдаецца выразна стратыграфіраваць, некаторыя аб’екты да шматслойных можна аднесці толькі ўмоўна: пласты ў іх перамешаны. Да аднаслойных можна залічыць Нясілавічы VI і Добры Бор I. На апошнім помніку, праўда, сустрэта пэўная колькасць і знаходак бронзавага веку.

# II

## НЁМАНСКАЯ КУЛЬТУРА

Даследчык неаліту Панямоння В. Шукевіч не зрабіў спробы акрэсліць культурную прыналежнасць адкрытых ім помнікаў. У канцы 20 — пачатку 30-х гадоў XX ст. У. Антаневіч залічыў неалітычную кераміку басейна Нёмана да матэрыялаў прафінскіх плямёнаў. Гэта было зроблена пад уплывам распаўсюджанага сярод археолагаў у той час і нават пазней, меркавання, што вастрадонная кераміка з арнаментамі з ямак і грабеньчатых адбіткаў характэрна толькі для прафінскіх культур[2]. У 1958 г. польскі археолаг А. Гардаўскі ўключыў Панямонне ў арэал распаўсюджання вылучанай ім днепра-эльбскай культуры[3]. Паняцце «днепра-эльбская культура» не замацавалася ў археалагічнай навуцы, бо яно аб'ядноўвала шэраг культур, якія, праўда, у пэўным сэнсе ўтваралі этнакультурную вобласць. І ў той жа час вывады Гардаўскага мелі прынцыповае значэнне, бо ён першым давёў, што неаліт Панямоння адрозніваецца ад культуры грабеньчатай керамікі больш паўночных і паўночна-ўсходніх тэрыторый.

Н. М. Турына першай звярнула ўвагу на своеасаблівасць неаліту Панямоння[4] і на магчымасць вылучэння тут асобнай нёманскай культуры[5]. Крыху пазней Д. Я. Цялегін, вылучаючы заходнюю, вісла-дняпроўскую, групу вобласці культур грабеньчата-накольчатай керамікі, аднёс кераміку некаторых стаянак Беларускага Панямоння да тыпу Добрага Бору, а больш раннія стаянкі гэтай тэрыторыі, як і значнай часткі Літвы, аб'яднаў у помнікі тыпу Дубічай[6].

Вывучэнне атрыманых з цэлага шэрагу помнікаў матэрыялаў пераканаўча паказала, што неаліт Панямоння сапраўды мае своеасаблівыя рысы, якія сведчаць пра існаванне тут асобнай археалагічнай культуры. Гэта заўважаецца ў крамянёвым інвентары і перш за ўсё ў кераміцы.

Для крамянёвых прылад працы ў раннім неаліце Панямоння характэрна пераважанне шэрагу мезалітычных форм — свідэроідных наканечнікаў стрэлаў, мікралітаў і г. д. У познім неаліце пачынаюць дамінаваць трохвугольныя наканечнікі. З іншых прылад характэрны лінзападобныя сякеры з крыху звужанымі абушкамі, разнастайныя скрабкі, у тым ліку і мысападобныя; нажы з гарбатай спінкай і г. д. (рыс. 46).

У раннім неаліце ў кераміцы спецыфічных асаблівасцей мала. Але ўжо ў гэты час тут з'яўляюцца пасудзіны са злёгку выяўленай шыйкай, распаўсюджваюцца адступаючыя наколы канцом нахіленай круглай палачкі, насечкі і косасеткавыя кампазіцыі з тонкіх прачэрчаных ліній.

Найбольш выразныя адметныя рысы мясцовай керамікі развіваюцца на другім і трэцім этапах нёманскай культуры. Гэта — вастрадонныя формы Гаршкоў з завужанай шыйкай і крыху адагнутым венцам, у шэрагу выпадкаў з'яўляюцца лейкападобныя венцы; суіснаванне ў цесце пасудзін дамешак з раслінных рэштак і жарствы, а таксама наяўнасць пасудзін толькі з жарсцвянымі дамешкамі; гладкія паверхні сценак (у самым канцы неаліту з'яўляецца падгарызантальная заштрыхоўка, звычайна больш выразная з сярэдзіны пасудзін); наяўнасць у многіх выпадках пад краем венцаў замест звычайных для ляснога неаліту круглых ямак глыбокіх падтрохвугольных наколаў, якія часта наносіліся і з сярэдзіны пасудзін; разрэджанасць арнаментацыі; у асноўным гарызантальная накіраванасць арнаментаў і яго сканцэнтраванасць у верхніх частках пасудзін; малая колькасць грабеньчатых узораў; шырокае распаўсюджанне адступаючых наколаў канцом нахіленай круглай палачкі і тарцовых адбіткаў лапаткай, наяўнасць насечак і косасеткавых кампазіцый з тонкіх прачэрчаных ліній; прагладжаныя лініі (рыс. 47).

Такія характэрныя адзнакі неаліту паўночна-заходняй Беларусі дазваляюць вылучыць тут асобную нёманскую культуру, якая ў сваім развіцці прайшла тры этапы: дубічайскі, лысагорскі, дабраборскі, якія ўмоўна адпавядаюць ранняму, развітаму і позняму неаліту.

### 1. Паходжанне неалітычнай культуры

Мезалітычная эпоха Беларускага Панямоння, у прыватнасці яе пазнейшы час, пакуль што вывучана слаба. Першая публікацыя, дзе была праведзена навуковая інтэрпрэтацыя нешматлікіх пад'ёмных матэрыялаў з паўночна-заходняй Беларусі, належыць У. Антаневічу[7]. У канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў шырокае абследаванне помнікаў каменнага веку, у тым ліку і мезалітычных, на Панямонні праводзіла Н. М. Турына[8]. Вывучэнне мезаліту гэтай тэрыторыі ў плане параўнанняў, аналогій і абагульняльных вывадаў праводзілі Р. К. Рымантэнэ[9] і Л. В. Кальцоў[10].

Н. М. Турына шляхам збору пад'ёмных матэрыялаў і шурфоўкі абследавала больш як 10 выразных мезалітычных помнікаў, сярод якіх важнейшыя Чарэшля VI, Нясілавічы I, II, III, VII. Амаль усе яны датуюцца познім мезалітам[11].

Атрыманыя на гэтых стаянках крамянёвыя матэрыялы складаюцца са скрабкоў на пласцінках і адшчэпах, сярод якіх характэрны мікраскрабкі; нешматлікіх разцоў; пласцінчатых наканечнікаў стрэлаў, падобных да позніх свідэрскіх; трапецый; пласцінак з прытупленай спінкай або скошаным краем, у тым ліку і яніславіцкіх тыпаў; розных рэтушаваных пласцінак; рэзчыкаў; архаічных рубячых прылад — сякерападобных і цяслападобных; аднапляцовачных нуклеусаў.

Н. М. Гурына, уключаючы панёманскія мезалітычныя помнікі ў вялікую культурную агульнасць, якая існавала на значных тэрыторыях Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, у той жа час справядліва адзначае і іх асаблівасць, указваючы на бліжэйшыя аналогіі мезалітычнага інвентару з паўночна-заходняй Беларусі на стаянках паўднёвай Беларусі, паўночнай Украіны, Літвы[12]. Р. К. Рымантэнэ вылучыла на тэрыторыі заходняй і паўночна-заходняй Беларусі, паўднёвай Літвы і паўночна-ўсходняй Польшчы асобную нёманскую мезалітычную культуру[13].

Аднак Л. В. Кальцоў некаторыя помнікі паўночна-заходняй Беларусі лічыць магчымым аднесці да яніславіцкай культуры[14].

Першыя раскопкі мезалітычнай стаянкі ў Беларускім Панямонні былі праведзены аўтарам у 1977 г. на пункце Беліца II каля в. Беліца Лідскага раёна. Стаянка выцягнута ўздоўж краю чатырохметровага ўзроўню правабярэжнага высокага поплаву Нёмана, паўднёвей вёскі і вусця Залатой Рэчкі — невялікага прытока Нёмана. Намі непадалёку ад вялікай прамыіны былі закладзены два раскопы агульнай плошчай 299 кв. м. Культурны пласт шэрага колеру таўшчынёй у сярэднім 0,3—0,4 м у верхняй частцы быў пераворany. Ён змяшчаў у сабе рэшткі некалькіх агнішчаў — слабавуглістых лінз з абпаленымі нерэгулярна размешчанымі дробнымі камянямі.

Знаходкі на помніку — выключна крамянёвыя вырабы, якія ўтвараюць аднакультурны комплекс. Скрабкі былі пераважна з невялікіх адшчэпаў, сярод іх ёсць нерэгулярныя экземпляры, а таксама мікраскрабкі (рыс. 44, *10, 11, 14)*. У той жа час разцы (іх адносна мала) у асноўным выраблялiся на вуглах пласцінак, некаторыя з іх правільна абграненыя, буйныя (рыс. 44, *4, 20)*. Трапецыі раўнабедраныя, высокія (рыс. 44, *1, 2)*. Шмат вастрый яніславіцкага тыпу, вядомы іх нарыхтоўкі і своеасаблівыя фрагменты пласцінак, якія атрымліваліся пры фармаванні вастрыя (рыс. 44, *3—8)*. Характэрны і пласцінкі, дробна рэтушаваныя па краях (рыс. 44, *16, 18)*. Рубячыя прылады даволі архаічныя (рыс. 44, *19)*, лёзы іх часта фармаваліся бакавымі сколамі, у выніку вырабам надавалася больш-менш выражаная асіметрычнасць, вядомы і экземпляры, блізкія да траншэпадобных. Нуклеусы сярэдніх памераў і дробныя, усе яны аднапляцовачныя (рыс. 44, *21)*.

Склад крамянёвага інвентару (трапецыі, рубячыя прылады, вуглавыя разцы, невыразныя скрабкі), агульная мікралітызацыя вырабаў і ў той жа час адсутнасць керамікі дазваляюць датаваць стаянку Беліца II познім мезалітам. Гэта пацвярджаецца і прамымі аналогіямі ў матэрыялах з суседніх познемезалітычных помнікаў (Нясілавічы I, II, IV)[15].

Бясспрэчным фактам з'яўляецца існаванне на захадзе Беларусі нёманскай мезалітычнай культуры. У той жа час мы лічым, што матэрыялы з Беліцы II маюць пэўныя рысы яніславіцкай культуры або вісленскага цыкла, вылучаных на тэрыторыі Польшчы С. К. Казлоўскім і Г. Венцкоўскай[16]. Да гэтага нас схіляюць знаходкі такіх рэчаў, як вастрыі яніславіцкага тыпу, і вырабы, блізкія да выцягнутых трохвугольнікаў на пласцінках, і поўная адсутнасць лістападобных наканечнікаў стрэлаў.

Атрыманыя (хоць і невялікія) мезалітычныя матэрыялы з Панямоння дазваляюць прасачыць сувязі паміж мясцовым мезалітам і раннім неалітам, што неабходна для вызначэння вытокаў нёманскай неалітычнай культуры.

На большасці неалітычных стаянак паўночна-заходняй Беларусі ў крамянёвым інвентары сустракаюцца трапецыі, вастрыі яніславіцкага тыпу, вуглавыя разцы на пласцінках і масіўныя двайныя бакавыя разцы, канцавыя скрабкі на пласцінках і ў невялікай колькасці наканечнікі стрэлаў познесвідэрскіх тыпаў. Гэтыя вырабы характэрны для ранняга неаліту Беларускага Панямоння і маюць блізкія аналогіі ў папярэднім мезалітычным часе. Гэты архаічны матэрыял суправаджаецца і найбольш ранняй на нашай тэрыторыі керамікай з грабеньчатымі арнаментамі. Наяўнасць на нёманскіх неалітычных помніках высокіх кан-

цавых скрабкоў, эпісвідэрскіх наканечнікаў, некаторай колькасці двухпляцовачных нуклеусаў сведчыць пра захаванне і ў гэты час некаторых свідэрскіх традыцый. Бясспрэчную сувязь паміж нёманскім неалітам і мясцовым мезалітам адзначала і Н. М. Гурына[17].

У. Ф. Ісаенка, вывучаючы неаліт паўднёвай Беларусі, прыйшоў да вываду аб мясцовых мезалітычных вытоках культур гэтага рэгіёна, у тым ліку і нёманскай у Заходнім Палессі, аднак ён лічыць, што мясцовая кераміка з'явілася дзякуючы паўднёвым уплывам, у першую чаргу ўплывам буга-днястроўскай культуры[18]. У ранненеалітычнай вытворчасці крамянёвых прылад даследчык таксама бачыць «наяўнасць знешніх моцных культурных уплываў»[19]. Р. К. Рымантэнэ таксама лічыць, што неаліт паўднёвай Літвы, прадстаўлены нёманскай культурай, з'яўляецца далейшым развіццём мясцовай мезалітычнай культуры[20]. Важна адзначыць і той факт, што ў паўночна-ўсходняй Польшчы на найбольш ранні тут помніку нёманскай культуры Возьна Весь крамянёвы інвентар, якому спадарожнічае кераміка дубічайскага тыпу, засведчыў перажыванне мезалітычнай традыцыі, хоць Э. Кэмпісты дапускае дамешку на гэтым помніку і чыста мезалітычнага матэрыялу[21].

Такім чынам, у нас ёсць пэўныя факты сцвярджаць, што нёманская неалітычная культура бадай што на ўсім арэале свайго першага (дубічайскага) этапа сфарміравалася на аснове мясцовай нёманскай мезалітычнай культуры. Выразных уплываў з боку нам пакуль што не ўдаецца прасачыць з-за недастатковасці матэрыялу.

Генетычная сувязь паміж мезалітычным і неалітычным часам прасочваецца і на суседніх тэрыторыях — у Латвіі[22], Эстоніі[23], Беларускім Падняпроўі[24], на значнай частцы Украіны[25]. Трэба адзначыць і той важны факт, што ў шэрагу выпадкаў межы мезалітычных культур з большай або меншай дакладнасцю супадаюць з межамі культур наступнай эпохі (лесастэпавая валынска-данецкая група і днепра-данецкая культура[26], культура Кунда і нарвенская[27], нёманская мезалітычная і нёманская неалітычная)[28].

### 2. Першы этап (помнікі тыпу Дубічай)

Матэрыялы ранняга этапа нёманскай культуры, прадстаўленыя керамікай і крамянёвымі прыладамі, атрыманы пры раскопках паселішчаў Русаковічы I, Бабінка, Ярэмічы III. На іншых помніках знаходкі гэтага часу сустрэты прыблізна ў такой жа колькасці, як і пазнейшыя (Русакова II), а на некаторых нешматлікія (Лысая Гара).

Фрагменты керамікі даюць магчымасць прыблізна ўявіць формы і памеры пасудзін. Гэта былі ў асноўным даволі вялікія шырокаадкрытыя вастрадонныя гаршкі са злёгку звужанай верхняй часткай і з дыяметрамі па венцах 25—35 см (рыс. 47, *4)*. Выпуклы корпус Гаршкоў у некаторых выпадках меў невыразную рабрыстасць. Венцы па таўшчыні звычайна раўняліся сценкам, часам патанчаліся (рыс. 47, *11—16)*. Яны прамыя, у некаторых выпадках на самым краі злёгку адгіналіся вонкі. Невялікая колькасць Гаршкоў мела прафіляваныя верхнія часткі — над злёгку звужанай шыйкай венца адгіналася, а на самым краі загіналася ўнутр. Гэта рыса характэрна для больш позніх матэрыялаў, на пазнейшых этапах стала дамінаваць. На зрэзах венцаў у большасці выпадкаў размяшчаліся розныя ўмяцiны або папярэчныя насечкі. Асявыя сячэнні вострых дноў раўняліся прамому вуглу або былі меншымі за яго. Сустракаліся і акруглыя донцы з адцягнутым уніз шыпам.

Пасудзіны мелі шэра-руды, а ў некаторых выпадках шэры колер. Сустракаліся жаўтаватыя і чырванаватыя адценні. Знешнія паверхні гліняных вырабаў, мяркуючы па абломках, часта крыху святлейшыя.

У цесце сценак заўважаны значныя дамешкі раслінных рэштак, сляды якіх асабліва добра прыкметныя на зломах і на ўнутраных паверхнях. У некаторых выпадках сустракаюцца дамешкі тоўчанага вапняку. Абпал керамічных вырабаў быў вогнішчавы і недастаткова моцны, бо на зломах заўсёды прасочваецца цямнейшы праспластак, а наяўнасць пустот ад згарэлых раслінных дамешак надавала кераміцы некаторую рыхласць. Таўшчыня сценак у сярэднім 8—10 мм.

Раслінныя дамешкі абумовілі малую ўдзельную вагу чарапкоў. У Русакове II яна роўная 1,993, у Русаковічах 1—1,908. Аднак назіраецца значная розніца ва ўдзельнай вазе паміж асобнымі фрагментамі, што можа тлумачыцца нераспрацаванасцю тэхналогіі падрыхтоўкі гліянага цеста.

Знешнія паверхні Гаршкоў, як правіла, добра загладжаны, часам прасочваецца абмазка адмучанай глінай; унутраныя паверхні звычайна порыстыя з-за наяўнасці вялікай колькасці адбіткаў раслінных рэштак. Вельмі характэрнай з’яўляецца і наяўнасць на ўнутранай паверхні расчэсаў грабеньчатым штампам. Яны маюць у асноўным падгарызантальную накіраванасць, часам паскі расчэсаў перасякаюцца. Такі спосаб апрацоўкі ўнутранай, а часам і знешняй паверхні гліняных вырабаў адзначаны на большасці знойдзеных фрагментаў ранненеалітычнай керамікі Панямоння.

Адна з характэрных асаблівасцей ранняй (дубічайскай) керамікі — апярэзваючы рад круглых і глыбокіх ямак пад венцамі. Адпаведна ім на ўнутраных паверхнях утвараліся выпукліны — жамчужыны. Ямкі часам пранікалі на ўсю таўшчыню сценак, а ў выпадках, калі жамчужыны адпадалі, узнікалі скразныя адтуліны. У некаторых выпадках скразныя адтуліны рабіліся і знарок пры вырабе гаршка.

Элементы арнаментаў складаюцца з розных акруглых і авальных умяцін, насечак і грабеньчатых адбіткаў, прачэрчаных ліній, наколаў (рыс. 47, *49—64).*

Умяціны і наколы наносіліся рознымі вастрыямі і палачкамі, вуглом пласцінак. Сустракаюцца адбіткі тарцом размачаленай палачкі. Класічных падтрохвугольных адступаючых наколаў, так распаўсюджаных сярод адпаведных матэрыялаў Украіны і паўднёва-ўсходняй Беларусі, тут амаль не заўважана як у ранняй, так і ў больш позняй кераміцы. Іх замяняюць наколы тарцом трохвугольнай палачкі, але часцей наколы наносіліся нахіленым зламаным арнаменцірам (мабыць, трубчастай костачкай і г. д.), у выніку чаго ўтвараліся паўмесячныя наколы («капыткі»).

Насечкі звычайна наносіліся тонкай і злёгку выгнутай пласцінкай, як правіла, нахілены ўправа. Грабеньчатыя адбіткі ўтвараліся з дапамогай такіх жа, але зазубраных пласцінак (створкай перлавіцы?), звычайна яны таксама нахіленыя. Характэрна, што паверхні Гаршкоў прачэсваліся — раўняліся тымі ж грабеньчатымі арнаменцірамі. Тонкія лініі ў пераважнай большасці прачэрчваліся тонкім вастрыём. Шырэйшыя лініі, якія сустракаюцца радзей, часам прагладжваліся.

Арнаменты на пасудзінах першага (ранняга) этапа звычайна разрэджаныя і даволі аднастайныя. Амаль усе адзначаныя элементы размяшчаліся рэдкімі гарызантальнымі паскамі, што апярэзвалі пасудзіны. Выключэнне складаюць бадай што прачэрчаныя лініі, якія на

наяўных матэрыялах звычайна ўтваралі косанакіраваныя кампазіцыі. Косыя тонкія прачэрчаныя лініі ў некаторых выпадках узаемаперасякаліся, утвараючы мноства ромбаў (косасеткавыя кампазіцыі). Былі накіраваны пад вуглом да гарызанталі, а часам нават перасякаліся і больш шырокія прачэрчаныя і прагладжаныя лініі. Але сустракаюцца чарапкі, дзе гэтыя элементы арыентаваны гарызантальна.

Як правіла, адна пасудзіна арнаментавалася адным з элементаў, выключэнні рэдкія. Так, у матэрыяле з паселішча Ярэмічы III адзначана суіснаванне косасеткавых кампазіцый з гарызантальнымі радамі наколаў. Тое ж прасочваецца і на кераміцы з Русакова II.

Значная колькасць фрагментаў ранненеалітычнай керамікі (62%) Панямоння не мае аздаблення. Амаль адсутнічае арнамент і на донцах. А ў некаторых пасудзін узор абмяжоўваўся толькі радам ямак пад венцам.

Сярод ранненеалітычнага крамянёвага інвентару Панямоння (рыс. 46, *23—37)* сустрэты свідэроідныя наканечнікі стрэлаў, а таксама мікраліты ў выглядзе трапецыі пласцінкі з прытупленай спінкай або скошаным краем, у тым ліку і вастрыі яніславіцкага тыпу, нуклеусы з двюма пляцоўкамі. Пры тым частка апошніх мела клінападобнае папярэчнае сячэнне. Іншыя нуклеусы ў асноўным аднапляцовачныя. Сярод знаходак часта сустракаюцца канцавыя скрабкі на ножападобных пласцінках, праколкі і пракруткі, разцы, сярод якіх асабліва выразныя бакавыя. Шмат пласцінак розных памераў з больш-менш рэтушаванымі краямі. Большасць з іх выкарыстоўвалася ў якасці рэжучых прылад. Частка адшчэпаў таксама мела плоскую або крутую рэтуш і таму ў залежнасці ад характару рэтушы магла выкарыстоўвацца для рэзання або скраблення.

Акрамя свідэроідных, у раннім неаліце пачынаюць выкарыстоўвацца і каплепадобныя наканечнікі стрэлаў і некаторыя блізкія да трохвугольных формы. Выразную групу складаюць рубячыя прылады, многія з якіх маюць трапецападобнае папярэчнае сячэнне і папярэчныя сколы, якімі фармаваліся лёзы (траншэпадобныя тыпы). Сустракаюцца і авальныя сякеры, змайстраваныя з дапамогай аббіўкі з краёў. У якасці рубячых прылад маглі выкарыстоўвацца і некаторыя плоскія нуклеусы.

Звяртае на сябе ўвагу бясспрэчная генетычная сувязь матэрыялу з папярэдняй мезалітычнай эпохай. Але крамянёвы інвентар ранненеалітычных помнікаў нёманскай культуры атрымаў і рысы, характэрныя для новай эпохі: павялічылася колькасць прылад на адшчэпах, з’явіліся каплепадобныя і нават трохвугольныя з прамой асновай наканечнікі стрэлаў, павялічылася колькасць авальных рубячых прылад.

Пры даследаванні ранненеалітычных матэрыялаў удалося адзначыць некаторыя лакальныя асаблівасці нёманскай культуры. У раннім і познім неаліце ў вярхоўях Нёмана прылады працы выраблялiся з цёмна-шэрага, амаль чорнага крэмню са своеасаблівым масляністым бляскам паверхні (помнікі ад Капыльскага і да ўсходняй часткі Навагрудскага раёнаў). Далей на захад на Нёмане і яго прытоках на працягу ўсёй неалітычнай эпохі быў распаўсюджаны шэры і светла-шэры крэмень з мясцовых крэйдавых пакладаў або з марэнных россыпаў. Адзначаныя асаблівасці крэмню неістотныя для культурных вызначэнняў, бо былі абумоўлены толькі розным характарам радовішчаў сыравіны. Ранненеалітычныя формы прылад працы прыблізна аднолькавыя на ўсім Панямонні. Пэўным выключэннем з’яўляецца стаянка

Бабінка, дзе асабліва шмат знойдзена двайных бакавых разцоў на кароткіх і масіўных пласцінках, сколах з нуклеусаў і на плоскіх нуклеусах з рэтушаванымі выемкамі на тарцах.

У керамічных матэрыялах большая разнастайнасць назіраецца на сярэдняй Шчары (Русакова II). На крайнім усходзе даследаванай тэрыторыі ранняя кераміка больш танкасценная і больш насычана арнаментам (уплыў верхнедняпроўскай культуры).

Звернемся да аналогій, якія мае ранненеалітычны матэрыял з Беларускага Панямоння. У 1962 г. у паўднёвай Літве ў Варэнскім раёне праводзіліся раскопкі паселішчаў Дубічай II і ПІ, на якіх былі сустрэты ранненеалітычныя комплексы, што складаліся з фрагментаў керамікі і крамянёвага інвентару[29]. Фрагменты керамікі належалі пасудзінам з раслiннымі дамешкамі ў цесце сценак, венцы Гаршкоў былі або адагнутыя вонкі або злёгку загіналіся ўсярэдзіну. Пад венцамі заўсёды быў рад глыбокіх круглых ямак або падтрохвугольных наколаў, іх зрэзы ўпрыгожваліся адбіткамі грэбеня або вусеневымі ўзорамі. Паверхні чарапкоў пакрывалі даволі разрэджаныя арнаменты з адбіткаў двухзубага штампа, невялікіх умяцін, трохвугольных наколаў, рэдкіх грабеньчатых адбіткаў. Крамянёвыя прылады — свідэроідныя наканечнікі стрэлаў, пласцінкі з завостранай падрэтушоўкай па краях, невялікія скрабкі.

Параўнанне керамікі і прылад працы з ранненеалітычных помнікаў Беларускага Панямоння і паўднёвай Літвы паказвае, што ў іх шмат агульных рысаў у характары крамянёвых вырабаў, у спосабе вырабу і арнаментавання пасудзін, а гэта сведчыць аб аднакультурнасці адзначаных стаянак.

Амаль усе формы прылад і керамікі ранненеалітычных помнікаў Панямоння аналагічны адначасовым матэрыялам верхняй Прыпяці (Камень, Бакінічы, Востраў, Спораў, Пагост-Загародскі, Вешня)[30]. На верхняй Прыпяці сустракаюцца тыя ж прызматычныя двухпляцовачныя нуклеусы, рубячыя прылады з папярэчнымі сколамі на лязе, свідэроідныя наканечнікі стрэлаў, канцавыя скрабкі і г. д. У ранненеалітычны час тут ужывалася і амаль аналагічная кераміка — вастрадонныя пасудзіны з прамымі венцамі і з багатымі раслiннымі дамешкамі ў цесце сценак, арнаментаваных ямкамі, наколамі, адбіткамі грэбеня, сеткавымі ўзорамі з перасечаных косых ліній. Агульным для абедзвюх тэрыторый з’яўляецца і наяўнасць пад венцам глыбокіх ямак, а таксама насечак і розных умяцін па зрэзе венцаў.

У. Ф. Ісаенка, які даследаваў верхняпрыпяцкія ранненеалітычныя помнікі, адзначае, што мясцовую кераміку гэтага часу пакуль што немагчыма адрозніць ад аналагічных матэрыялаў ніжняй Прыпяці[31]. Таксама і ранняя кераміка Панямоння мае шмат агульных рысаў з керамікай гэтай тэрыторыі.

На тэрыторыі Польшчы даследавана адна стаянка першага этапа нёманскай культуры. Яна размешчана ў паўночна-ўсходняй Польшчы каля в. Возьна Весь Ломжынскага ваяводства і раскопвалася Э. Кэмпісты[32]. Сярод керамічнага матэрыялу на помніку знойдзены фрагменты вастрадонных пасудзін з раслiннымі дамешкамі ў цесце сценак, з адагнутымі краямі венцаў, арнаментаваныя адбіткамі розных штампаў і прачэрчанымі лініямі. Пад краем аднаго венца меліся глыбокія наколы. Кераміку суправаджалі аднапляцовачныя нуклеусы, скрабкі канцавыя і іншых формаў, разцы, нуклепадобныя цяслы, пласцінкі са

скошанымі канцамі, трапецыі і г. д. Многія з гэтых прылад маюць аналогіі ў мясцовых мезалітычных комплексах.

Шмат якія «нёманскія» рысы сустракаюцца і сярод керамікі днепра-данецкай культуры на першым і другім этапах яе развіцця на тэрыторыі Украіны[33]. Праўда, ранні крамянёвы інвентар днепра-данецкай культуры крыху адрозніваецца ад нёманскага і верхнепрыпяцкага, што тлумачыцца розным характарам мезаліту на гэтых тэрыторыях, які на Падняпроўі і Панямонні з'явіўся асновай для мясцовых раннeнеалітычных культур. У той жа час мы і тут знаходзім агульныя формы наканечнікаў стрэлаў, мікралітаў, сякучых прылад і г. д.[34]

Пэўныя аналогіі сустракаем таксама і ў матэрыялах з Беларускага Падняпроўя[35] і на паселішчы Зацэнне ў Лагойскім раёне.

Р. К. Рымантэнэ знаходзіць у дубічайскай кераміцы шэраг адзнак, што збліжаюць яе з ранняй днепра-данецкай і з нарвенскай, а таксама з керамікай Эртэбёле і ранняй цэдмарскай керамікай[36]. Праўда, апошнія даследаванні сведчаць, што цэдмарскія матэрыялы з Калінінградскай вобласці значна пазнейшыя і адносяцца да позняга неаліту[37], таму яны павінны быць выключаны з гэтых параўнанняў. Даследчыца лічыць, што кераміка з дубічайскіх стаянак складае асобны варыянт, які з'яўляўся «адным са звенняў паміж эртэбёльскай, нарвенскай і самымі ранімі паўночнымі варыянтамі днепра-данецкай керамікі»[38].

Паміж матэрыяламі ранніх этапаў нёманскай і нарвенскай культур агульнага няшмнога. Калі наша кераміка пераклікаецца з нарвенскай некаторымі рысамі керамікі, то ў каменным інвентары назіраецца вялікая розніца, калі не лічыць такіх «касмапалітычных» прылад, як скрабкі, праколкі і інш.

Як і кераміка Эртэбёле, некаторыя пасудзіны з Панямоння бедна арнаментаваныя, маюць рад ямак пад венцам, зрэз якога хвалісты ад папярэчных насечак і ўмяцін і, што вельмі важна, маюць «эртэбёльскія» шыпаватыя дны. У апошні час гэта было адзначана і на паселішчы Камень на верхняй Прыляці[39]. Пераклікаюцца з нашымі і эртэбёльскія формы прылад працы. Аднак, дрэнна ведаючы матэрыялы эртэбёльскай культуры, мы ўстрымаемся ад вызначэння ступені роднасці паміж ёй і культурай нёманскай.

Займаючы становішча амаль пасярэдзіне вялікай тэрыторыі вобласці грабеньчата-накольчатай керамікі і роднасных ёй тыпаў, Панямонне ў раннім неаліце адчувала ўплыў суседніх культур, у першую чаргу днепра-данецкай. Гэтым, відаць, і тлумачыцца значная разнастайнасць формаў мясцовай ранняй керамікі.

У той жа час тут зараджаліся і фарміраваліся і спецыфічныя рысы, характэрныя для нёманскай культуры,— рэдкія гарызантальныя паскі арнаментацыі, адносная маламікасць грабеньчатых узораў, своеасаблівыя прафіляваныя венцы пасудзін і глыбокія трохвугольныя наколы пад імі.

Такім чынам, разгледжаныя намі матэрыялы дазваляюць вылучыць ранні (дубічайскі) этап нёманскай культуры, прадстаўлены помнікамі тыпу Дубічай. Неалітычныя стаянкі каля в. Дубічай не з'яўляюцца найбольш характэрнымі для гэтага этапа культуры, бо размешчаны на яе паўночнай перыферыі. Але тэрмін «помнікі тыпу Дубічай», упершыню ўжыты Д. Я. Цялегіным[40], стала ўвайшоў у археалагічную навуку як сінонім раннeнеалітычных помнікаў Панямоння і замяняць яго іншым няма сэнсу.

На дубічайскім этапе нёманская культура, мяркуючы па вядомых

кам помніках, займала Беларускае Панямонне, левабярэжжа верхняй Прыпяці, паўднёвую Літву з уключэннем і стаянкі Эжэрынай у Алітускім раёне[41], частку паўночна-ўсходняй Польшчы (Возьна Весь). Далейшыя даследаванні дадуць магчымасць удакладніць гэты арэал.

### 3. Другі этап (помнікі тыпу Лысай Гары)

Значна больш шматлікімі на беларускім паўночным захадзе з'яўляюцца матэрыялы другога этапа нёманскай культуры. Яны складаюць большасць на паселішчах Лысая Гара, Янава II, у пэўнай колькасці сустракаюцца і амаль на ўсіх іншых старажытных паселішчах Панямоння.

Фрагменты керамікі маюць рудую, шаравата-рудую, шаравата-жоўтую афарбоўку з рознымі адценнямі. Такія адрозненні ў колеры тлумачацца якасцю і афарбоўкай самой гліны і дамешак да яе, ступенню абпалу, а таксама ўмовамі захаванасці ў культурным пласце і характарам яго гумусаванасці. На паверхні пасудзін звычайна афарбоўка неаднолькавая: на ўнутранай паверхні яна цямнейшая, што выклікана нераўнамернасцю абпалу на вогнішчах. Але абпал быў даволі моцным, бо сценкі ў асноўным светлых таноў, а злом амаль не адрозніваецца ад іх. Асабліва гэта прыкметна на танчэйшых фрагментах.

Таўшчыня сценак, звычайна прапарцыянальная памерам пасудзін, вагаецца ад 7—8 да 11—12 мм, каля донцаў яны, як правіла, патаўшчаюцца.

У цесце сценак прасочваецца дамешка раслінных рэштак і жаравы. Гэтыя дамешкі амаль заўсёды суіснуюць, прычым колькасць іх звычайна ўмераная. У адных фрагментах больш раслінных дамешак, у другіх — жарсцвяных. У некаторых экземплярах раслінныя рэшткі не сустракаюцца. Сярэдняя ўдзельная вага фрагментаў у Русакове II 2,023 (разбежка паміж асобнымі чарапкамі 1,704—2,250). Знешнія паверхні іх добра загладжаныя, у некаторых выпадках маецца падглянцаванасць. Унутраныя паверхні таксама гладкія, але на іх часцей прыкметны адбіткі раслінных рэштак.

Форма пасудзін тыпалагічна вытрымана і даволі аднастайная (рыс. 47, *3*). У асноўным гэта былі гаршкі сярэдніх і буйных памераў з дыяметрамі па венцах 20—40 см, мелі вострыя дны і прафіляваныя сценкі з выпуклым брушкам, звужаную шыйку і адагнутае венца. Найбольшая выпукласць брушка знаходзілася прыблізна на 1/3 вышыні пасудзіны, калі лічыць ад верху. Вышыня Гаршкоў адносіцца да шырыні, як 1,5 да 1. На паселішчах у басейне Шчары зрэдку сустракаліся і вастрадонныя шырокаадкрытыя гаршкі без выразнай шыйкі.

Асявое сячэнне донцаў паказвае, што яны звычайна былі крыху большыя за прамы вугал і толькі ў некаторых выпадках раўняліся яму. Такіх вострых (менш за 90°) донцаў, як у ранненеалітычных пасудзін, у позні час не сустрэта. Некаторыя ж дны так прытуплены, што здаюцца акруглымі. На паселішчы Янава II знойдзены фрагмент зусім круглага дна з шышачкай у яго нізе.

Элементамі арнаменту (рыс. 47, *33—48*) з'яўляліся розныя ямчатыя наколы, умяціны і прачэрчаныя лініі. Акуратных наколаў, нанесеных вуглом пласцінкі або тарцом трохвугольнай прамапастаўленай палачкі, мала. Значна больш адбіткаў канцом нахіленай круглай палачкі — «капыткоў». Такія адбіткі-наколы могуць быць кароткімі, што сустракаецца часцей, або больш працягнутымі, у некаторых выпадках яны

наносіліся амаль без адрыву арнаменціра ад паверхні пасудзіны. Сярод элементаў арнаменту вядомы і розныя ўмяціны, зробленыя якім-небудзь акруглым арнаменцірам, умяціны аморфных абрысаў, авальныя паглыбленні з няроўным дном, якія, магчыма, атрымліваліся ад «размачаленых» палачак. Выразную групу складаюць тарцовыя адбіткі лапаткай.

На «лысагорскай» кераміцы сустракаецца і прачэрчаны арнамент, які складаецца з тонкіх ліній або шырэйшых паскаў, што ў некаторых выпадках, відаць, развіліся з выцягнутых адступаючых наколаў. На некаторых пасудзінах прыкметны ўчасткі з адбіткамі тэкстылю. Грабеньчатых арнаментаў мала. Спалучэнні арнаментаў сустракаюцца рэдка.

Арнаментальныя матывы, якія складаюцца з апісаных вышэй элементаў, маюць часцей за ўсё гарызантальную накіраванасць. Гэта — рэдкія паскі розных наколаў, умяцін, тарцовых адбіткаў лапаткай, шырокіх прачэрчаных ліній. Некаторыя суцэльныя паскі перарываюцца. Часам арнаменты ўтваралі зігзагі або косаарыентаваныя кампазіцыі, асабліва гэта прыкметна на верхніх частках вырабаў. Яшчэ ў больш рэдкіх выпадках адзначана іх вертыкальная накіраванасць. У матэрыялах паселішча каля в. Ярэмічы сустрэты адзінкавы чарапок, дзе гарызантальныя частыя рады здвоеных наколаў ператвараюцца ў хвалісты арнамент. Як правіла, паміж аздабляльнымі паскамі вялікія адлегласці, сустракаюцца значныя неарнаментаваныя зоны. Неарнаментаваныя абломкі керамікі складаюць 53,5%. У матэрыялах з паселішчаў на Шчары адзначаецца ўскладненне аздабленняў. Тут выяўлены кампазіцыі, якія ўтвараюць сеткавыя і нават больш складаныя ўзоры.

Тонкія прачэрчаныя лініі, як правіла, нахіленыя, часта перасякаюцца, утвараючы косасеткавыя матывы. На некаторых фрагментах тонкім прачэрчаным лініям спадарожнічаюць наколы або ўмяціны.

Такім чынам, для керамікі другога этапа, як і для больш ранняй, характэрна разрэджанасць і ў той жа час крыху большая насычанасць арнаментаў. Яшчэ адна асаблівасць — перанясенне арнаментальнай нагрузкі на верхнія часткі пасудзін.

Асобна трэба спыніцца на спосабе фармавання і аздаблення венцаў Гаршкоў, што мае вялікае значэнне для характарыстыкі гэтай керамікі, для вылучэння матэрыялаў другога (лысагорскага) этапа нёманскай культуры (рыс. 47, *8—10).* Пад краем адагнутага венца наносіліся глыбокія — на ўсю таўшчыню сценкі — пераважна падтрохвугольныя наколы. Адпаведна ім на супрацьлеглых паверхнях утвараліся выпукліны — сопачкі. Яны існуюць толькі на знешняй паверхні, бо з сярэдзіны наколы наносіліся ў другую чаргу (у выніку і знішчаліся выпукліны). Такая пачарговасць прыводзіла яшчэ і да таго, што край венца злёгку загінаўся ўнутр. З гэтага можна зрабіць вывад, што спачатку наколы наносіліся толькі на знешняй паверхні, а пазней імі пачалі ўпрыгожваць і ўнутраны край. Невялікая колькасць венцаў мае наколы толькі з аднаго боку — знутры або звонку. Зрэзы венцаў пераважна аздабляліся папярэчнымі частымі насечкамі нахіленай лапаткі або рознымі ўмяцінамі, наколамі і нават грабеньчатымі (рэдка) адбіткамі. І толькі невялікая частка пасудзін па краі не мела арнаментацыі. Такім арыгінальным спосабам фармавання венцаў карысталіся на ўсіх нёманскіх неалітычных стаянках, дзе адзначана кераміка лысагорскага тыпу.

Шэраг фактаў сведчыць аб тым, што «лысагорская» кераміка развi-

лася з ранненеалітычнай. Ужо ў раннім неаліце зарадзілася своеасаблівая форма вастрадонных Гаршкоў са звужанай шыйкай і крыху загнутым усярэдзіну краем венца, якая так шырока распаўсюдзілася ў пазнейшы час. Паміж двума тыпамі існуе і пераемнасць у арнаментацыі. І на лысагорскім этапе працягваюць існаваць розныя ўмяціны, тонкія і шырокія прачэрчаныя лініі, наколы. Захоўваецца сувязь і ў матывах арнаментацыі: у пазнейшы час таксама сустракаюцца косасеткавыя ўзоры з тонкіх прачэрчаных ліній, іншыя элементы размяшчаюцца пераважна гарызантальна. Аздабленне хоць і становіцца больш насычаным, але па-ранейшаму значныя ўчасткі сценак застаюцца вольнымі ад упрыгожанняў. І на «лысагорскай» кераміцы захоўваецца традыцыя арнаментавання зрэзаў венцаў, пад іх краем фармуецца пасак з глыбокіх наколаў або (рэдка) круглых ямак. У кераміцы на лысагорскім этапе захаваліся і раслінныя дамешкі, якія, аднак, спалучаюцца з жарствой.

У керамічных калекцыях з неалітычных стаянак Беларускага Панямоння знойдзены матэрыялы непасрэдна пераходных формаў, на якіх перакрыжаваліся характэрныя рысы абодвух тыпаў. Маюцца абломкі пасудзін, у якіх пры ранненеалітычным характары цеста знутры пад краем венцаў нанесены глыбокія падтрохвугольныя наколы. І наадварот, некаторыя пасудзіны пазнейшага тыпу маюць апярэзвальныя рады круглых глыбокіх ямак. Некаторыя пазнейшыя вырабы захавалі лёгкую шыпаватасць донцаў, часам даволі выразную.

Адрозненні, якія ўзніклі ў кераміцы лысагорскага тыпу, з'явіліся ў выніку натуральнага развіцця культуры. Але тут не абышлося і без уплыву культуры лейкападобных кубкаў.

Стратыграфічна абодва тыпы керамікі (дубічайскі і лысагорскі) падзяляюцца слаба і не заўсёды. Толькі на некаторых помніках выразна прасочвалася, што асноўная маса «дубічайскай керамікі залягала ніжэй «лысагорскай». Істотнай адзнакай ранняга характару керамікі першага тыпу з'яўляецца і тое, што на помніках, дзе яна шырока распаўсюджана, ёсць значная колькасць мікралітаў і іншых архаічных формаў крамянёвага інвентару (Ярэмічы III, Бабінка), там жа, дзе яна амаль не сустрэта (Янава II, Добры Бор I), практычна адсутнічаюць раннія крамянёвыя знаходкі. На архаічнасць керамікі дубічайскага тыпу ўказваюць і такія адзнакі, як нераспрацаванасць формаў некаторых пасудзін, раслінныя дамешкі ў цесце сценак, грабеньчатыя расчэсы на паверхнях пасудзін, часам патончаныя краі венцаў з насечкамі або ўмяцінамі на зрэзах, ямачкі пад венцамі, разрэджанасць арнаментаў, у якіх значнае месца займаюць грабеньчатыя адбіткі; шыпастасць некаторых донцаў. Гэтыя рысы пераклікаюцца з рысамі ранненеалітычных матэрыялаў усёй вобласці грабеньчата-накольчатай керамікі, у прыватнасці з ранняй керамікай паўднёвай Літвы і днепра-данецкай культуры, пра што мы ўжо казалі.

Пра больш позні час керамікі другога тыпу, акрамя адзначаных фактаў, сведчаць больш распрацаваныя формы пасудзін, наяўнасць неарганічных дамешак, гладкія паверхні сценак, глыбокія наколы пад венцамі, больш насычаныя арнаменты, з якіх амаль зусім знікаюць грабеньчатыя адбіткі; сляды ўплыву культуры лейкападобных кубкаў.

Крамянёвы інвентар помнікаў Панямоння на лысагорскім этапе ўжо больш шматлікі і разнастайны па тыпах (рыс. 47, *12—22)*. Шырока распаўсюджваюцца трохвугольныя наканечнікі стрэлаў, раннія формы якіх часам яшчэ маюць крыху выпуклыя асновы. Пазнейшымі ўяўля-

юцца знаходкі з роўнай і нават увагнутай асновай. Гэтыя вырабы рэтушаваліся па краях, больш дасканалыя экземпляры пакрыты струменьчатай рэтушшу па ўсёй або амаль па ўсёй паверхні.

Самую шматлікую групу прылад на паселішчах складалі скрабкі, сярод якіх сустракаліся вырабы на адшчэпах рознай формы. Канцавых скрабкоў на пласцінках менш. Шмат у якіх выпадках рэтуш заходзіць і на бакавыя краі прылад, але скрабкоў з кругавой рэтушшу знойдзена мала. Значная колькасць адшчэпаў аморфных абрысаў на некаторых краях мае больш-менш выразную крутую рэтуш. Яны, магчыма, ужываліся ў якасці прылад для скраблення. Крутая скрабковая рэтуш ёсць і на некаторых ножападобных пласцінках. Пэўная колькасць скрабкоў і блізкіх да іх прылад мае рэтушаваныя выемкі (вырабы маглі ўжывацца і як скоблі). Характэрны мысападобныя скрабкі.

Рэжучыя прылады выраблялiся пераважна з ножападобных пласцінак. Відаць, для рэзання часам ужываліся і пласцінкі без рэтушы, пра гэта, магчыма, сведчаць заломы спрацаванасці, але часцей за ўсё пласцінкі апрацоўваліся па адным або абодвух краях плоскай рэтушшу. Група крамянёвых нажоў утварае некалькі тыпаў. Звычайна яны выраблены з масіўных пласцінак. Да аднаго з тыпаў належаць прылады, у якіх скошаны канец апрацаваны крутой рэтушшу, бакавыя краі падпраўлены рэтушшу завастраючай або не апрацаваны зусім. Наступную групу ўтвараюць вырабы на востраканечных пласцінках. Не выключана, што частка іх магла выкарыстоўвацца як наканечнікі дроцікаў. Вельмі выразныя прылады тыпу «фінскага нажа». Адзін край іх выпуклы, а другі крыху ўвагнуты. Такія вырабы маглі ўжывацца як сярпы. Трэба адзначыць і некалькі камбінаваных прылад на пласцінках тыпу нож-скрабок і інш. Частка адшчэпаў таксама мела завастраючую падрэтушоўку і выкарыстоўвалася для рэзання.

Разцы на нёманскіх помніках у развітым неаліце шматлікія. Яны фармаваліся як на адшчэпах, так і на пласцінках. Сустрэты разцы бакавыя, вуглавыя, сярэдзінныя. Сярод іх вуглавыя складаюць больш шматлікую групу. Звяртаюць увагу камбінаваныя разцы — двухбаковыя вуглавыя на абодвух канцах, вуглавыя і бакавыя.

Праколкі і пракруткі выраблялiся пераважна з пласцінак.

У крамянёвым інвентары больш позніх помнікаў нёманскай культуры наканечнікі дроцікаў і коп'яў не ўтвараюць выразную групу. Відаць, імі з'яўляліся некаторыя міндалепадобныя прылады з двухбаковай аббіўкай і масіўныя завостраныя пласцінкі.

Рубячыя прылады ў познім неаліце набываюць больш дасканалыя формы. Усё часцей пачынаюць ужывацца сякеры з завужаным абушком і крыху выпуклым, а іншы раз і прамым лязом.

Сярод нуклеусаў асноўнае месца займаюць аднапляцовачныя экземпляры.

Выраб нарыхтовак і далейшая апрацоўка прылад адбываліся з дапамогай адбойнікаў, адціскальнікаў і рэтушораў.

Такім чынам, на лысагорскім этапе нёманская культура набывае найбольш характэрныя рысы, якія не сустракаюцца або сустракаюцца толькі ў нязначнай ступені на суседніх тэрыторыях культур «грабеньчатых» або «грабеньчата-накольчатых» керамік.

Форма «лысагорскіх» Гаршкоў з прыкметнай шыйкай і адагнутым венцам, часам набліжаным да лейкаватага, не з'яўляецца тыповай для адначасовага неаліту ніжняй Прыпяці, Падняпроўя і Падзвіння. Гэта рыса хутчэй за ўсё ўспрынята носьбітамі нёманскай культуры ад

«лейкападобнікаў». Падобныя формы посуду сустракаюцца і ў заходніх развітых варыянтах нарвенскай культуры на стаянках Сарнатэ (заходняя Латвія) і Швянтоі (заходняя Літва). Але гэта з'ява можа і тут тлумачыцца пранікненнем уплываў культуры лейкападобных кубкаў. Формамі посуду, падобнымі на «лысагорскія», прадстаўлена і эртэбёльская культура, але паміж апошняй і другім этапам нёманскай культуры існуе значны храналагічны разрыў, прычым эртэбёльскія помнікі старажытнейшыя.

Таксама і звычай стараннага загладжвання паверхняў посуду нёманскае насельніцтва ўспрыняло ад «лейкападобнікаў», бо, як памятаем, мясцовая традыцыя вымагала б расчэсвання паверхняў грэбенем. Расчэсамі апрацоўвалася кераміка на працягу ўсяго неаліту на стаянках днепра-данецкай культуры паўднёва-ўсходняй Беларусі і на стаянках Беларускага Падняпроўя. Для развітага неаліту большасці раёнаў Літвы і Латвіі, наадварот, найбольш характэрны посуд з лёгкай заштрыхоўкай паверхняў. І толькі кераміка тыпу ніжняга пласта Крывіны, характэрная для паўднёвай ускраіны нарвенскай культуры на яе развітым этапе, таксама мае роўныя сценкі. Але тут гэта дасягалася тэхнікай «лапаткі і кавадла», не характэрнай для захаду Беларусі. Гладкасценная і кераміка культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі, плямёны якой пранікалі ў паўночную Беларусь. Але ў астатнім яна настолькі адрозніваецца ад нёманскай, што гаварыць аб уплывах з Паазер'я на Беларускае Панямонне не даводзіцца.

Звычай аздаблення «лысагорскіх» Гаршкоў пад краем венца радам глыбокіх наколаў, часам пачарговых знутры і звонку, адпаведна якім утвараліся негатывы-выпукліны, бадай што характэрны толькі для нёманскай культуры. Ямачкі ж знутры і адпаведныя ім жамчужыны звонку зрэдку сустракаюцца ў пазнейшых матэрыялах днепра-данецкай і верхнедняпроўскай культур, але для лысагорскага этапа якраз такія круглыя ямачкі амаль не характэрны. Пакуль што гэту з'яву — замену круглых ямачак глыбокімі наколамі — нельга вытлумачыць ні ўплывамі, ні ўнутранымі прычынамі, бо, як мы адзначалі, для суседніх культур такія наколы не характэрны, а ў раннім неаліце Панямоння пад краем керамічных вырабаў меліся паскі толькі з круглых ямак. На апошнім (дабраборскім) этапе культуры ямачкі-жамчужыны пад краем адраджаюцца зноў, а глыбокія паўкруглыя і падтрохвугольныя наколы знікаюць.

Новая рыса ў арнаментах «лысагорскай» керамікі — лінейны штампаваны арнамент, які наносіўся канцом лапаткі, быў, відаць, запазычаны «лысагорцамі» ад «лейкападобнікаў». Але калі ў апошніх гаршкі аздабляліся адбіткамі вертыкальна пастаўленай лапаткі, то панёманцы арнаменцір часам злёгку нахілялі, чым выяўлялася ўстойлівая традыцыя ва ўсёй вобласці з «грабеньчата-накольчатай» керамікай наносіць арнаменты ў «скарапіснай» манеры. Ад носьбітаў культуры лейкападобных кубкаў хутчэй за ўсё быў запазычаны і тэкстыльны арнамент.

Уласна нёманскімі трэба лічыць кароткія насечкі, частка якіх фактычна пераходзіць у адбіткі тонкай лапаткі, косасеткавыя выразныя кампазіцыі з тонкіх прачэрчаных ліній, паскі з наколаў кантам палачкі або трубачкі («капыткі»). Праўда, «капыткі» сутракаюцца і ў матэрыялах заходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры на ніжняй Прыпяці і на правабярэжжы Беларускага Падняпроўя, але там яны не такія шматлікія.

На крайнім усходзе арэала нёманскай культуры (Русаковічы) на кераміцы зрэдку трапляюцца слабавыражаныя лапчатыя адбіткі (кантам палачкі, абвітай ніткай). Гэта — уплыў верхнедняпроўскай культуры, для якой такія ўзоры ў развітым неаліце былі надзвычай характэрны. У адзінкавых выпадках, асабліва на поўначы і паўночным усходзе Панямоння, пераважна на зрэзах венцаў Гаршкоў трапляюцца вусеневыя ўзоры (адбіткі бокам палачкі з абвітай ніткай) — магчымы ўплыў развітага этапа нарвенскай культуры.

Пакуль што мы не можам сказаць, ці былі ва ўжытку нёманскага насельніцтва на першым, дубічайскім, этапе іх культуры трохвугольныя наканечнікі стрэлаў. Але на лысагорскім этапе яны сталі дамінаваць. Такі тып наканечнікаў, найбольш распаўсюджаны ў паўднёва-заходняй земляробча-жывёлагадоўчай зоне, быў характэрны не толькі для суседняй культуры лейкападобных кубкаў, але і для матэрыялаў днепра-данецкай культуры, у тым ліку і тых, якія сустрэты на ніжняй Прыпяці. Для большай часткі тэрыторыі Беларускага Падняпроўя, як і для Падзвіння, тыповымі з'яўляюцца лістападобныя, рамбічныя і блізкія да іх тыпы з двухбаковай рэтушшу па ўсёй паверхні, а гэта характэрныя для лясной зоны формы. Мяжа паміж трохвугольнымі наканечнікамі і тыпамі лясной зоны праходзіла прыблізна ад нізоўяў Нёмана праз басейн Віліі на паўднёвы ўсход Беларусі І далей, на паўночна-ўсходнюю Украіну. Мяжа гэта даволі расплывістая, да таго ж яна з часам перамяшчалася. Так, лістападобныя з рэтушшу па ўсёй паверхні экземпляры зрэдку сустракаюцца ў паўночна-ўсходняй Польшчы[42], што тут можа тлумачыцца распаўсюджаннем уплываў культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі і нават прасочваннем сюды асобных груп яе носьбітаў[43]. У познім неаліце і ў эпоху ранняй бронзы ў асноўным дзякуючы экспансіі плямёнаў культур са шнуравой керамікай трохвугольныя стрэлы, праўда, з больш увагнутай асновай і часта са струменьчатай рэтушшу на паверхні распаўсюджваюцца значна далей на ўсход і поўнач, дзе яны, аднак, суіснавалі з мясцовымі формамі наканечнікаў.

Прыблізна такое ж становішча і з наканечнікамі коп'яў і дроцікаў На лысагорскім этапе яны лістападобныя на завостраных пласцінках, рэтушаваныя пераважна са спінкі па краю. Такі тып быў зусім не характэрны для больш паўночна-ўсходніх раёнаў, у прыватнасці для Беларускага Падняпроўя і Падзвіння, дзе былі распаўсюджаны наканечнікі «лясных» тыпаў, што нагадвалі мясцовыя формы.

З іншых тыпаў прылад працы, якія вызначаюць рысы ўплываў суседніх культур, варта адзначыць масіўныя пласціны-нажы і такія ж скрабкі на пласцінчатых адшчэпах, апрацаваныя рэтушшу амаль па ўсім перыметры. Яны маюць аналогіі сярод старажытнасцей культуры лейкападобных кубкаў.

У вярхоўях Нёмана зрэдку сустракаюцца мініяцюрныя крамянёвыя сякеры са звужаным абушком, часам нават з падшліфоўкай на лязе (апошнія хутчэй за ўсё паходзяць з позняга неаліту), якія сведчаць пра ўплыў з Падняпроўя, дзе рубячыя прылады такіх памераў утвараюць распаўсюджаны тып[44].

Такім чынам, лысагорскі этап нёманскай культуры, вырастаючы з этапа папярэдняга (дубічайскага), адначасова ўспрыняў некаторыя элементы суседніх культур, што надало яму такую выразную адметнасць у крамянёвым інвентары і асабліва ў кераміцы сярод культур вобласці з грабеньчата-накольчатай керамікай.

**4. Трэці этап (помнікі тыпу Добрага Бору)**

У час першых раскопак стаянкі Русакова II была выяўлена кераміка, якая па некаторых адзнаках, у прыватнасці па заштрыхаванасці сценак, адрознівалася ад «лысагорскай». Хоць яна разам з апошняй і ўключалася намі ў адзін позненеалітычны комплекс, але ў той жа час мы звярталі ўвагу на яе своеасаблівасць[45].

Далейшыя раскопкі Русакова II і іншых помнікаў, а таксама вывучэнне калекцыі Добрага Бору дазволілі з упэўненасцю вылучыць «заштрыхаваную» кераміку ў асобны тып — тып Добрага Бору, які характарызуе разам з адпаведным крамянёвым інвентаром як аднайменны тып помнікаў позняга неаліту, вылучаны для Панямоння Д. Я. Цялегіным[46], так і ўвесь трэці, пазнейшы этап нёманскай культуры.

Кераміка тыпу Добрага Бору прадстаўлена абломкамі пасудзін пераважна рудога колеру, у якіх зазвычай больш-менш аднолькава афарбаваны як унутраная, так і знешняя паверхні, а сярэдзіна злому не мае цямнейшага праслойка, што сведчыць пра моцны і раўнамерны абпал. Посуд фармаваўся спосабам косага прылепу з гліняных стужак, у цеста якіх дабаўляўся буйны пясок або жарства, дамешкі раслінных рэштак непрыкметны. Гліняныя стужкі на днах утвараліся па спіралі. Часам прыкметна, што край венца фармаваўся з асобнай вузкай стужкі, у якую закатвалася нітка з воўны. Сценкі тонкія — у сярэднім 6—8 мм. Пасля вылепкі звычайна абедзве паверхні вырабаў загладжваліся пучком травы (?), ад чаго заставалася пераважна падгарызантальная заштрыхоўка. Штрыхі, як правіла, тонкія і неглыбокія, выразныя або як бы размытыя. У некаторых выпадках заштрыхоўка ёсць толькі на ўнутраных або знешніх паверхнях.

Сярэдняя ўдзельная вага «дабраборскай» керамікі з Русакова II большая, чым «лысагорскай» і «дубічайскай», і раўняецца 2,075 (разбежка паміж асобнымі чарапкамі 1,944—2,243). Гэта абумоўлена высокай шчыльнасцю керамікі і адноснай распрацаванасцю тэхналогіі падрыхтоўкі глінянага цеста.

Асноўная форма посуду тыпу Добрага Бору, якую ўдалося рэканструяваць,— вастрадонны гаршчок з плаўна выгнутым брушкам, звужанай шыйкай і высокім разгорнутым венцам, край якога крыху загнуты ўнутр (рыс. 47, *1, 2).* Значна менш Гаршкоў, у якіх такога загіну няма. Перагіб на шыйках часам выразны, а ў некаторых выпадках знутры ў гэтых месцах маецца рабро.

Асявыя сячэнні дноў звычайна ўтвараюць прамы вугал або большыя за яго, часам вастрыі прыкругленыя або злёгку шыпаватыя. Дыяметры Гаршкоў па венцах 20—35 см.

Пераважная большасць венцаў пасудзін дабраборскага тыпу (рыс. 47, *8—10)* пад краем арнаментавана паскам глыбокіх круглых ямак, якім на супрацьлеглых паверхнях сценак адпавядаюць выпуклінь-жамчужыны. Глыбокія наколы пад краем венцаў, так характэрныя для «лысагорскай» керамікі, сустракаюцца рэдка. Пэўная колькасць Гаршкоў зусім не мела такога раду ямак або наколаў. Ямкі і наколы наносілі пераважна звонку гаршка, значна радзей знутры і яшчэ больш рэдка з абедзвюх паверхняў. Прыблізна 1/3 венцаў на зрэзах мела розныя арнаменты — пераважна ямчатыя наколы, умяціны, насечкі.

Элементы арнаментаў на кераміцы дабраборскага тыпу (рыс. 47, *17—32)* складаюцца з адбіткаў канцом лапаткі, насечак у выглядзе «се-

мечак», ямчатых наколаў, наколаў кантам палачкі або трубачкі — «капыткоў», кароткіх і тонкіх насечак, прачэрчаных ліній. Значна радзей сустракаюцца адбіткі грэбеня, падтрохвугольныя адступаючыя наколы, прагладжаныя лініі, ямчатыя ўмяціны, адбіткі тэкстылю.

Найбольш пашыраныя элементы — адбіткі канцом лапаткі. Канец лапаткі мог быць роўным або зламаным, часам закругленым, вузкім або шырэйшым. Найчасцей адбіткі наносіліся крыху нахіленым арнаменцірам, распаўсюджаны быў і звычай арнаментавання адступаючай лапаткай. Сустракаюцца і яе тарцовыя адбіткі. Надзвычай часта сустракаліся адбіткі-насечкі канцом авальнай або лінзападобнай у папярэчным сячэнні пласцінкі — «семечкі». Яны пераважна дробныя, часам маюць папярэчную перамычку або дробныя зубчыкі на дне. Шырока распаўсюджаны ямчатыя наколы, якія былі зроблены завостранымі арнаменцірамі. Сустракаюцца тычкавыя элементы (у выніку скарыстання нахіленых арнаменціраў). «Капыткі», як і на кераміцы папярэдніх тыпаў, узнікалі ад наколаў кантам нахіленай палачкі з роўным або зламаным тарцом і трубачкі. Па-ранейшаму пры арнаменціроўцы ўжываліся кароткія насечкі і прачэрчаныя лініі. Адбіткаў грэбеня мала. Адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены чарапкі з прагладжанымі лініямі, рознымі ямчатымі ўмяцінамі і тэкстыльнымі адбіткамі. Апошнія не суцэльныя, а пакрываюць паверхні сценак невялікімі зонамі, што магло атрымацца, калі нейкі арнаменцір-дошчачка (?) быў абгорнуты грубай тканінай або пляцёнкай.

Пераважная большасць адзначаных элементаў размяшчалася часцей за ўсё рэдкімі гарызантальнымі паскамі, якія апярэзвалі пасудзіны, прычым нярэдка арнамент пакрываў толькі верхнія часткі Гаршкоў, а часам прысутнічаў толькі на венцах. Назіраецца і ўскладненне ўзораў. Паскі і іх адрэзкі маглі размяшчацца коса, вертыкальна, пад вуглом, зігзагамі, косай і гарызантальнай сеткай, утвараць выцягнутыя шасцівугольнікі. Тонкія прачэрчаныя лініі амаль заўсёды ўтваралі косую сетку, якая пакрывала паверхні Гаршкоў ад краю венца да прыдонцавай часткі. Часам, калі нават ніз пасудзіны быў пазбаўлены арнаменту, вострае дно аздаблялася гарызантальнымі апярэзвальнымі паскамі або паскамі, якія перасякаліся праз вастрыё дна, утвараючы ў некаторых выпадках крыжападобныя фігуры. Неарнаментаваныя фрагменты керамікі складаюць 55%.

Вылучыць спецыфічны крамянёвы інвентар, які спадарожнічаў толькі кераміцы тыпу Добрага Бору, цяжка, бо яшчэ не трапіўся помнік, дзе былі б толькі матэрыялы дабраборскага этапа нёманскай культуры. І ўсё ж, параўнаўшы прылады працы позняга вобліку з Лысай Гары, дзе шырока прадстаўлена менавіта «лысагорская» кераміка, і з Добрага Бору, дзе дамінуе «дабраборская» кераміка, можна меркаваць, што і на трэцім этапе нёманскай культуры бытаваў крамянёвы інвентар прыблізна тых жа тыпаў, што і на папярэднім, лысагорскім этапе. Можна адзначыць толькі павелічэнне колькасці сякер і іх больш дасканалую апрацоўку, з'яўленне скрабкоў і цяслаў з насадам, выраджэнне разцоў, распаўсюджанне струменьчатай рэтушы.

Кераміка трэцяга этапа нёманскай культуры найбольш шырока прадстаўлена на стаянках Русакова II і Добры Бор I (таму і прапанавана называць яе керамікай тыпу Добрага Бору). На жаль, на ўсіх даследаваных помніках яна сустракаецца разам з керамікай іншых тыпаў (Куцец, Русаковічы VII, IX, Янава II). У той жа час на некаторых больш ранніх помніках яна знойдзена ў малой колькасці (Бабін-

ка, Ярэмічы III, Лысая Гара) або не выяўлена зусім (Нясілавічы VI, Ціхановічаў Брод).

Параўнанне працэнтных суадносін паміж «дабраборскай» і «лысагорскай» керамікай на розных стаянках Панямоння можа сведчыць аб неаднолькавай храналагічнай працягласці дабраборскага этапа нёманскай культуры. Матэрыялы тыпу Добрага Бору найбольшае ўдзельнае месца займаюць на паўднёвым захадзе даследаванай намі тэрыторыі. І наадварот, на ўсходзе, г. зн. у вярхоўях Нёмана, іх адносна мала. Так, на Лысай Гары, дзе ўвогуле шмат позненеалітычных крамянёвых вырабаў, знойдзена толькі некалькі чарапкоў ад Гаршкоў тыпу Добрага Бору. Адносна мала іх і на стаянках каля Ярэміч, Русаковіч, Кутца.

У «дабраборскай» керамікі ёсць пэўныя лакальныя асаблівасці. Так, у Русакове II і Добрым Бары яна найбольш танкасценная, гаршкі маюць асабліва высокія шыйкі. У той жа час у вярхоўях Нёмана і ў сценках некаторых пасудзін гэтага тыпу выяўлены дамешкі раслінных рэштак пры адначасовай выразнай заштрыхоўцы паверхні.

Кераміка тыпу Добрага Бору генетычна звязана з «лысагорскімі» матэрыяламі. Гэта прыкметна перш за ўсё ў формах пасудзін. І на познім этапе дамінуюць гаршкі з выдзеленымі шыйкамі і разгорнутымі венцамі, праўда, формы посуду сталі яшчэ больш развітымі — венцы сталі вышэйшымі, іх краі ў многіх выпадках выразна загнуты ўнутр. Абсалютная большасць элементаў арнаменту была вядома і на лысагорскім этапе, праўда, удзельная вага многіх з іх у аздабленні посуду змянілася. Сталі часцей ужывацца ямчатыя наколы, кароткія насечкі, шырэй распаўсюдзіліся «семечкі», у той жа час зменшылася колькасць наколаў кантам палачкі або трубачкі — «капыткоў», ямчатых умяцін, зніклі адбіткі канцом размачаленай палачкі. Грабеньчатыя арнаменты, як і ў папярэдні час, ужываліся рэдка. Тое ж можна сказаць і пра тэкстыльныя адбіткі.

Краі венцаў і некаторых «дабраборскіх» Гаршкоў па-ранейшаму аздабляліся радамі глыбокіх наколаў, але наколы ўсё часцей сталі замяняцца круглымі ямкамі, якія цяпер наносіліся звычайна не пад самым краем венца, а на некаторай адлегласці ад яго.

Ёсць група керамікі пераходнага ад «лысагорскага» да «дабраборскага» тыпу. У ёй могуць быць гладкія сценкі і адсутнічаць раслінныя дамешкі. І наадварот, у некаторых заштрыхаваных чарапках, акрамя жарствы, прыкметны і раслінныя рэшткі. Назіраюцца спалучэнні і іншых рознатыповых рысаў — формаў, аздабленняў венца, арнаментаў.

Пэўныя даныя сведчаць, што, вырастаючы з «лысагорскай», кераміка тыпу Добрага Бору ўспрыняла некаторыя характэрныя рысы і ад суседніх культур, у прыватнасці ад культуры шарападобных амфар, пазней і ад шнуравой керамікі. Носьбіты культуры шарападобных амфар пранікалі на Беларускае Панямонне, аб чым сведчаць характэрныя для іх могільнікі каля пас. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна і в. Малыя Ёдкавічы Берастаўіцкага раёна, знаходкі вузкіх чатырохвугольных у папярэчным сячэнні крамянёвых сякер на Навагрудчыне і ў іншых месцах. «Шнуравікі» ж распаўсюджваліся на ўсёй тэрыторыі.

На помніках, дзе ўскрыта адносна вялікая плошча (Русакова II), асноўная маса керамікі дабраборскага тыпу залягае крыху вышэй «лысагорскіх» матэрыялаў. У адрозненне ад апошніх у «дабраборскай» кераміцы не прасочваецца прамых сувязей са знаходкамі тыпу Дубі-

чай. У той жа час яна мае шэраг агульных рысаў з нёманскай шнуравой керамікай. Усё гэта сведчыць, што знаходкі тыпу Добрага Бору больш познія, чым «лысагорскія», і, значыць, «дабраборская» кераміка — найбольш позняя кераміка ва ўсёй нёманскай культуры.

У развітым і познім неаліце лакальныя асаблівасці нёманскай культуры лепш выяўлены. Найбольш чыстыя і характэрныя комплексы маюцца на паўночным усходзе яе арэала. Тут найбольш распаўсюджаны пасудзіны з выяўленай шыйкай, злёгку ўвагнутымі краямі і пачарговымі глыбокімі падтрохвугольнымі наколамі пад імі. На паўднёвым захадзе Панямоння, у прыватнасці на сярэднім цячэнні Шчары, павялічваецца колькасць пасудзін з высокімі разгорнутымі венцамі, што тлумачыцца большымі ўплывамі культуры лейкападобных кубкаў. У вярхоўях Нёмана і на яго правабярэжных прытоках такія ўплывы адчуваліся значна слабей. Прыкметнай асаблівасцю з'яўляецца і значна большае распаўсюджанне на паўднёвым захадзе арнаменту з насечак і адбіткаў выцягнутага лінейнага штампа, што тлумачыцца тымі ж уплывамі. На Шчары сустракаюцца і шырокаадкрытыя вастрадонныя, крыху звужаныя ўверсе гаршкі без шыек. Гэты тып пасудзін хутчэй за ўсё ўзнік пад уплывам позненеалітычнай культуры ніжняй Прыпяці, дзе такая форма керамічных вырабаў шырока распаўсюджана[47].

У крамянёвым інвентары асаблівай розніцы між рознымі раёнамі не адзначана. Можна ўспомніць, што на помніку Лысая Гара шырэй прадстаўлены прылады тыпу «фінскага нажа», а ў Русакове ІІ — масіўныя пласцінкі са скошаным канцом, апрацаваным крутой рэтушшу.

Тэрыторыя, на якой можна знайсці аналогіі нёманскім матэрыялам лысагорскага і дабраборскага этапаў, у другой палове ІІІ тыс. да н. э. значна звужаецца. У Прыбалтыцы і паўночнай Беларусі з сярэдзіны ІІІ тыс. да н. э. пашыраецца культура з тыповай грабеньчата-ямачнай керамікай. Тут вядомы і помнікі нарвежскай культуры.

Але ў паўднёвай Літве ў гэты час працягваюць існаваць паселішчы з такой жа матэрыяльнай культурай, як і на Панямонні. У Дубічай І была сустрэта кераміка[48], дзе адначасова з расліннай мелася і жарсцвяная дамешка. Яе формы прадстаўлены вастрадоннымі гаршкамі з крыху адагнутымі венцамі. Пад уплывам шнуравой керамікі ў гэты час з'яўляюцца і пласкадонныя пасудзіны іншых формаў. Элементы арнаменту ў асноўным складаюцца з неглыбокіх ямчатых паглыбленняў, розных няправільных наколаў, семечкавых насечак, адбіткаў грэбеня. Краі некаторых венцаў арнаментаваліся папярэчнымі насечкамі або вусеневымі адбіткамі. Часам пад венцамі як звонку, так і з сярэдзіны маюцца глыбокія наколы, характэрныя для «лысагорскай» керамікі Панямоння. Крамянёвы інвентар паселішча яшчэ мае некаторыя мезалітычныя традыцыі: сустракаюцца ланцэтападобныя наканечнікі, трапецыі і некаторыя свідэроідныя прылады. Асноўны ж матэрыял з'яўляецца тыповым для позненеалітычнай культуры гэтай часткі Літвы (трохвугольныя з прамой і ўвагнутай асновамі наканечнікі стрэлаў). Наканечнікі коп'яў маюць трохвугольную выцягнутую форму, звычайнымі з'яўляюцца буйныя скрабкі на адшчэпах і нажападобных пласцінках. Значную колькасць сярод знаходак складаюць рэтушаваныя нажападобныя пласцінкі, частка якіх мае выгнутую форму. Характэрны для паселішча і мысападобныя скрабкі на пласцінках. Крамянёвыя сякеры маюць лінзападобныя папярэчныя сячэнні, некаторая частка гэтых вырабаў прышліфавана.

Табліца 2

**Арнаменты неалітычнай керамікі з асноўных стаянак Панямоння**

| Стаянка | Від арнаменту | | | | | | | | | | | | | Тыпы керамікі* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | грабеньчаты | насечкі | наколы | лініі | умяціны | адбіткі лапаткі | «семечкі * | тэкстыль | іншыя | спалучэнне арнаментаў | арнаментаваныя фрагменты | неарнаментаваныя фрагменты | усяго фрагментаў | |
| Русакова II | 18 | 7 | 112 | 85 | 58 | 4 | 8 | | 1 | 9 | 302 | 856 | 1158 | Д. |
| (1967—1977 гг.) | 7 | 21 | 161 | 8 | 7 | 362 | 17 | | 1 | | 584 | 700 | 1284 | Л.Г. |
| | 3 | 47 | 223 | 42 | 11 | 259 | 213 | 10 | 2 | | 810 | 991 | 1801 | Д.Б. |
| Нясілавічы VI | 4 | | | | | | | | | | 4 | 12 | 16 | Д. |
| | | | | | | | | | | | | | | Л.Г.. |
| | | | | | | | | | | | | | | Д.Б. |
| Ціхановічаў | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | Д. |
| Брод | | | | | | | | | | | | | | л.г. |
| | | | | | | | | | | | | | | Д.Б. |
| Бабінка | 18 | 7 | 8 | 2 | 2 | | | | 2 | | 39 | 41 | 80 | Д. |
| | | | | | | | | | | | | | | Л.Г. |
| | | | | | | | | 6 | | | 6 | 8 | 14 | Д.Б. |
| Ярэмічы III | 12 | 17 | 12 | 16 | 9 | | | | 2 | 2 | 70 | 52 | 122 | Д. |
| | 1 | | 27 | 5 | 4 | | | | 1 | | 38 | 30 | 68 | Л.Г. |
| | | | | | | | | | | | | 10 | 10 | Д.Б. |
| Лысая Гара | 24 | 6 | 29 | | 9 | | | | 1 | | 69 | 54 | 123 | Д. |
| | 3 | 9 | 205 | 94 | 92 | | | | 3 | 4 | 410 | 526 | 936 | Л.Г. |
| | | | | | | 5 | | | | | 5 | 14 | 19 | Д.Б. |
| Русаковічы I | 34 | 2 | 1 | | | | | | | | 37 | 30 | 67 | Д. |
| | | | | | | | | | | | | | | Л.Г. |
| | | | | | | | | | | | | 1 | 1 | Д.Б. |
| Русаковічы VII | 52 | | 2 | | | | | | | | 54 | 48 | 102 | Д. |
| | 8 | 2 | 23 | 1 | 7 | | | | | | 41 | 46 | 87 | Л.Г. |
| | 1 | | | | | | 10 | | | | 11 | 9 | 20 | Д,Б. |
| Русаковічы IX | 39 | 2 | 4 | 18 | 1 | | | | | | 64 | 59 | 123 | Д |
| | | 13 | 69 | 5 | 88 | 16 | | | | | 191 | 190 | 381 | Л.Г. |
| | | 12 | | 2 | | 2 | 4 | 2 | | | 22 | 23 | 45 | Д.Б. |
| Куцец I | 65 | | 10 | 5 | | | | | | 18 | 98 | 23 | 121 | Д. |
| | 28 | 5 | 14 | 7 | 4 | 2 | | 46 | | | 106 | 111 | 217 | Л.Г. |
| | 4 | | 8 | | | 10 | 16 | | 1 | 1 | 40 | 39 | 79 | Д.Б. |
| Янава II | | | 1 | | | | | | 1 | | 2 | 32 | 34 | Д. |
| | | 2 | 67 | 2 | 16 | 18 | | | | 1 | 106 | 112 | 218 | Л.Г. |
| | | | | | | | | | | | | 12 | 12 | Д.Б. |
| Добры Бор I** | | 2 | | | 7 | | | | | | 9 | 6 | 15 | Д. |
| | | 3 | 13 | 1 | 4 | 14 | | | 1 | 1 | 37 | 10 | 47 | Л.Г. |
| | 26 | 70 | 334 | 55 | 7 | 202 | 95 | 11 | 2 | 9 | 811 | 251 | 1062 | Д.Б. |

* Д. — дубічайскі тып, Л. Г. — лысагорскі тып, Д. Б. — дабраборскі тып.
** У калекцыі з Добрага Бору захавалася толькі частка неарнаментаванай керамікі.

Помнікі, блізкія да позненеалітычных нёманскіх, знойдзены і на верхняй Прыляці (Спораў, Пагост Загародскі, Бакінічы, Камень і інш.)[49]. Ва ўжытку мясцовага позненеалітычнага насельніцтва знаходзіліся вастрадонныя гаршкі з выразнымі шыйкамі і крыху загну-

**Т а б л і ц а  3**

**Суадносіны паміж арнаментамі нёманскай неалітычнай керамікі**

| Тып керамікі | Від арнаменту: грабеньчаты | | насечкі | | наколы | | лініі | | умяціны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | лік | % | лік | % | лік | % | лік | % | лік | % |
| Дубічайскі | 266 | 77 | 43 | 19 | 179 | 13.5 | 126 | 36 | 86 | 26.5 |
| Лысагорскі | 47 | 13.5 | 55 | 24 | 579 | 44 | 123 | 35.5 | 222 | 68 |
| Дабраборскі | 34 | 9.5 | 129 | 57 | 565 | 42.5 | 99 | 28.5 | 18 | 5.5 |
| У с я г о | 347 | 100 | 227 | 100 | 1323 | 100 | 348 | 100 | 326 | 100 |

| Тып керамікі | Від арнаменту: адбіткі лапаткі | | «семечкі» | | тэкстыль | | іншыя | | спалучэнне арнаментаў | | арнаментаваныя фрагменты |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | лік | % | лік | % | лік | % | лік | % | лік | % | Л к |
| Дубічайскі | 4 | 0,5 | 8 | 2 | | | 7 | 39 | 29 | 64,5 | 748 |
| Лысагорскі | 412 | 46 | 17 | 4,5 | 46 | 61,5 | 6 | 33,5 | 6 | 13,5 | 1513 |
| Дабраборскі | 478 | 53,5 | 338 | 93,5 | 29 | 38,5 | 5 | 27,5 | 10 | 22 | 1705 |
| У с я г о | 894 | 100 | 363 | 100 | 75 | 100 | 18 | 100 | 45 | 100 | 3966 |

тымі ўнутр краямі венцаў. У некаторых выпадках венцы мелі лейкападобную форму. На некаторых гаршках дны былі акруглыя або нават плоскія. Пад краямі венцаў звонку і з сярэдзіны наносіўся рад глыбокіх наколаў або ямак. Арнаментальныя матывы ў познім неаліце пачынаюць ускладняцца. Іх утвараюць розныя наколы і ўмяціны, насечкі, вусеневыя і грабеньчатыя адбіткі. Відазмяняюцца і прылады працы. З'яўляюцца трохвугольныя наканечнікі стрэлаў з прамой і ўвагнутай асновай, масіўныя нажы на пласцінках і нажы серпападобныя, сякеры і цяслы больш дасканалых формаў. Адначасова з прышліфаванымі з'яўляюцца і спрэс зашліфаваныя рубячыя прылады. Скрабкі, скоблі і праколкі пачынаюць часцей вырабляцца з адшчэпаў. Павялічваецца ўдзельная вага аморфных нуклеусаў.

У неаліце значную частку Польшчы займалі помнікі культуры грабеньчатай керамікі, якія з'яўляюцца рэшткамі невялікіх паселішчаў, размешчаных на пясчаных узвышшах. У гэтых мясцінах сустракаюцца абломкі пераважна вастрадонных пасудзін з дамешкай у цесце пяску і жарствы, арнаментаваных адступаючымі наколамі, грабеньчатымі адбіткамі, прачэрчанымі лініямі, адбіткамі шнура і г. д. Кераміку суправаджаў разнастайны крамянёвы інвентар[50]. Помнікі гэтай культуры часцей за ўсё сустракаюцца ў ваколіцах Варшавы, у Валамінскім і Мінск-Мазавецкім паветах, на астатняй тэрыторыі Польшчы іх менш[51].

Нас больш за ўсё цікавіць прылеглая да заходняй Беларусі тэрыторыя Польшчы (Беластоцкае ваяводства і ўсходняя частка Варшаўскага ваяводства), бо тут сутракаюцца прамыя аналогіі або знаходкі, блізкія да матэрыялаў з позненеалітычных нёманскіх паселішчаў. Асаблівае значэнне маюць даследаванні Э. Кэмпісты стаянкі Сосня ў Граеўскім павеце[52]. На гэтым помніку знойдзены фрагменты вастрадонных пасудзін з выяўленай шыйкай і адагнутым венцам, пад якім

часта маецца рад жамчужын. Зрэзы венцаў найчасцей аздабляліся насечкамі. Найбольш распаўсюджанымі арнаментамі з’яўляліся паскі з адступаючых наколаў тарцом лапаткі. Блізкім да нёманскага з’яўляецца і крамянёвы інвентар: шырокія лістападобныя наканечнікі коп’яў на масіўных пласцінках, трохвугольныя наканечнікі стрэлаў, разнастайныя скрабкі, нажы з гарбатай спінкай або скошаным канцом. Значнае месца займаюць мікралітам.

У Граеўскім павеце знойдзена пасудзіна звычайнай для позняга этапа нёманскай культуры формы, але са своеасаблівым арнаментам, размешчаным толькі на шыйцы. Ён складаецца з гарызантальных апярэзвальных шнуравых адбіткаў, паміж якімі ўпісаны паясы ромбаў і зігзагаў з шырокіх адбіткаў шнура. Знізу ўсю кампазіцыю акаймляе двайны зігзаг з тарцовых адбіткаў лапаткі. Узнікненне такога арнаменту з’яўляецца вынікам бясспрэчнага ўплыву культуры шнуравой керамікі. Такія ўплывы ў Польшчы выяўлены і ў іншых мясцінах[53], але на тэрыторыі Беларускага Панямоння такія матэрыялы не настолькі выразныя.

Ніжняя Прыпяць, дзе ў другой палове III тыс. да н. э. існавалі помнікі чацвёртага этапа днепра-данецкай культуры[54], па кераміцы і крамянёваму інвентару значна адрозніваецца ад тэрыторыі Панямоння і правабярэжжа верхняй Прыпяці. Праўда, і тут распаўсюджаны вастрадонныя пасудзіны з накольчатымі арнаментамі, але гэта сведчыць, што культуры гэтых тэрыторый належалі да адной этнакультурнай вобласці грабеньчата-накольчатай керамікі.

Такім чынам, нёманская неалітычная культура займала Беларускае Панямонне, паўднёвую Літву, левабярэжжа верхняй Прыпяці і паўночна-заходнюю частку Польшчы, прынамсі, да Віслы. Найбольш выразна ўдалося вызначыць паўднёва-ўсходнюю мяжу культуры, якая з’яўляецца адначасова і паўночна-заходняй мяжой арэала помнікаў днепра-данецкай культуры, хоць гэта і не выключае частковага супадзення іх арэалаў. На Бярэзіне нёманскай пакуль што не знойдзена выразных помнікаў нашай культуры, але можна думаць, што ў паўночна-ўсходнім кірунку яна дасягала водападзелу паміж Нёманам і Віліяй. Найбольш паўночным помнікам нёманскай культуры з’яўляецца паселішча Эжэрынай у Алітускім раёне на поўдні Літвы. Магчыма, што далей на поўнач яна і не распаўсюджвалася, бо ў нізоўях Нёмана вядомы помнікі іншых культур — нарвенскай (у правабярэжжы), культуры з тыповай грабеньчата-ямачнай керамікай, а таксама помнікі цэдмарскага тыпу.

Патрабуе далейшага даследавання і паўднёвая мяжа культуры, бо невядома, ці ёсць аналагічныя помнікі ў паўночна-заходняй Украіне на правабярэжжы верхняй Прыпяці.

Далейшыя даследаванні на тэрыторыі Польшчы дазволяць больш канкрэтна вызначыць заходнюю мяжу нёманскай культуры. Тут цяжкасць заключаецца ў тым, што на розных этапах плямёны з «грабеньчатай» керамікай суіснавалі з плямёнамі культур лейкападобных кубкаў, шарападобных амфар і шнуравой керамікі, у выніку чаго ўзніклі не толькі змешаныя комплексы, але і матэрыялы са змешанымі рысамі, што, трэба спадзявацца, дазволіць вылучыць у Завісленні асобныя культурныя рэгіёны.

Як на ранні, так і на пазнейшых этапах межы нёманскай культуры выказвалі значную стабільнасць. Магчыма, выключэнне тут складае ўсходняя Польшча, дзе амаль не сустрэта ранніх матэрыялаў, блізкіх да нашых, і дзе яна, відаць, з’явілася крыху пазней.

# III

## ПЫТАННІ ГАСПАДАРКІ, ХРАНАЛОГІІ, ЭТНІЧНАЙ ПРЫНАЛЕЖНАСЦІ

### 1. Прысвойваючыя формы гаспадаркі, развіццё земляробства і жывёлагадоўлі

Аснову гаспадаркі неалітычнага насельніцтва Панямоння, асабліва ў раннім неаліце, складалі рыбалоўства, паляванне і збіральніцтва.

Ускосным сведчаннем ролі рыбалоўства з'яўляецца размяшчэнне неалітычных стаянак на берагах вадаёмаў. Мясціны для пасялення выбіраліся, як правіла, каля заток і старыц або пры ўпадзенні меншай рэчкі ў большую. Тут было шмат рыбы і на плыткаводдзі яе было зручна лавіць вядомымі старажытнаму чалавеку прыстасаваннямі. Заўважаны факт, што ў раёне Гродна, дзе Нёман мае стромкія берагі, дзе няма поплаву, старыц і затокаў, вельмі мала слядоў неалітычнай культуры. Але рэштак мезалітычных і нават фінальнапалеалітычных стаянак тут шмат: у той час рыбалоўства яшчэ не мела такога важнага значэння, як пазней, да таго ж Нёман тады яшчэ не прамыў у Гродзенскім узвышшы каньёнападобнай даліны.

Рэштак рыбацкіх прыстасаванняў на нёманскіх неалітычных стаянках амаль не захавалася. Трапляюцца толькі акатаныя выцягнутыя галькі, якія хутчэй за ўсё з'яўляліся грузіламі для сетак, як гэта было адзначана на неалітычных помніках паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі[1]

Наяўнасць на неалітычных паселішчах шматлікіх рэштак паляўнічай зброі — наканечнікаў стрэлаў і дроцікаў, а таксама скрабкоў для апрацоўкі скуры — сведчыць пра вялікую ролю палявання. У час раскопак стаянкі нёманскай культуры Камень на Піншчыне былі знойдзены косткі зубра, лася, аленя, казулі, дзіка, бурага мядзведзя, барсука і бабра. Найбольш часта тут здабычай станавіўся дзік, шмат забівалася ласёў і аленяў[2].

Пра існаванне збіральніцтва «дароў» лесу, балот і вадаёмаў у неалітычнага насельніцтва Панямоння мы не маем рэчавых доказаў. Але, мяркуючы па тарфянікавых стаянках паўночнай Беларусі, яно ў гэты час значна папаўняла і разнастаіла ежу першабытнага чалавека.

Маюцца ўскосныя і прамыя доказы, што ўжо ў неаліце жыхарам нёманскіх паселішчаў было вядома земляробства[3]. Яно магло пранікнуць сюды з паўднёвага ўсходу, з тэрыторыі, дзе жылі блізкія плямёны днепра-данецкай культуры, якія ўжо займаліся вырошчваннем ячменю[4]. Носьбіты нёманскай культуры на лысагорскім этапе, напэўна, маглі запазычыць сакрэты земляробства таксама з поўдня і з паўднёвага

захаду ад «лейкападобнікаў», якім гэты занятак быў вядомы здаўна[5]. Непасрэднымі рэчавымі доказамі існавання земляробства на Панямонні ў неалітычны час, прынамсі на дабраборскім этапе, з'яўляюцца знаходкі серпападобных крамянёвых нажоў.

Неалітычнае насельніцтва ўжо ў III тыс. да н. э. было знаёма з другой важнай галіной гаспадаркі — жывёлагадоўляй, якая магла пранікнуць на нашу тэрыторыю такім жа шляхам, як і земляробства, з тэрыторыі распаўсюджання днепра-данецкай культуры і культуры лейкападобных кубкаў, носьбіты якіх гадавалі буйную рагатую жывёлу, свіней, авечак, козаў[6]. Першаступеннае значэнне для характарыстыкі жывёлагадоўлі Панямоння ў канцы неаліту маюць астэалагічныя матэрыялы з могільніка культуры шарападобных амфар каля пас. Красасельскі[7]. Асноўная маса касцявых рэштак з паўночнага пахавання на могільніку належыць быку свойскаму (больш як 1 тыс. ад 9 асобін). Знойдзены некалькі костак свінні свойскай, якія паходзяць ад маладой асобіны, невялікая колькасць костачак ад дзвюх маладых рагатых жывёлін і абломак метаподыя каня даволі буйнага памеру. З усіх асобін свойскага быка дзве былі ва ўзросце да паўтара года.

Па памерах костак шкілета свойскія быкі з красносельскага могільніка не адрозніваліся ад асобін з паселішчаў позняга неаліту — Крывіна I (ранняя бронза) і Асавец II у паўночнай Беларусі[8], неалітычных могільнікаў Пікуткова, Добрэ, Калёнія Дэнбіцэ ў Польшчы[9]. Вышыня буйной рагатай жывёлы складае 113,8 см у быкоў і 111 см у кароў. Такая ж «малая форма» гэтых жывёл распаўсюджана была ў неаліце ў Куявіі (Польшча)[10].

Відавы склад жывёл з даследаванага намі могільніка характэрны і для шмат іншых помнікаў з тэрыторыі распаўсюджання культуры шарападобных амфар, на якіх звычайна пераважаюць знаходкі буйной рагатай жывёлы[11].

Даследаваны матэрыял дазваляе лічыць, што ў позненеалітычны час насельніцтва заходняй Беларусі ўжо было знаёма з развітой жывёлагадоўляй (буйная і дробная рагатая жывёла, свінні і коні). Мяркуючы па памерах асобін, ступень асвойтвання быкоў была ўжо значнай. Але гэтыя прамыя сведчанні пра жывёлагадоўлю адносяцца да носьбітаў культуры шарападобных амфар з тэрыторыі Беларусі. На помніках жа нёманскай культуры ў Панямонні вядома знаходка некалькіх костак свойскага быка ў Добрым Бары I[12]. Аднак на гэтай стаянцы ёсць пэўная колькасць больш позняй, чым неалітычная, керамікі і ў нас няма ўпэўненасці, што косткі тут не належаць пазнейшаму часу.

Тым не менш можна сцвярджаць, што прыблізна такі відавы склад, як на красасельскім могільніку, мелі статкі ў жыхароў стаянак нёманскай культуры ў канцы неаліту.

### 2. Здабыча і апрацоўка крэмню

Для характарыстыкі гаспадаркі неалітычнага насельніцтва паўночна-заходняй Беларусі вялікае значэнне мае матэрыял, атрыманы пры вывучэнні месц здабычы крэмню і яго апрацоўкі.

Заўважана, што ў месцах, бедных на паклады крэмню або дзе яго зусім няма, прылады працы з крэмню былі звычайна меншыя памерамі і горшыя па дасканаласці. Мусіць, гэтым і павінна тлумачыцца ў пэўнай ступені наяўнасць у мезаліце макралітычных і мікралітычных абласцей. Такую з'яву можна назіраць на Беларускім Паазер'і,

у цэнтральнай Беларусі і на ніжняй Прыпяці. На большасці ж тэрыторыі Панямоння шмат марэннага крэмню, у марэне залягаюць і крэмненосныя крэйдавыя адорвені.

Зразумела, што ў месцах з крэйдавымі радовішчамі мясцовае насельніцтва перайшло ад простага збірання і апрацоўкі паверхневага галечнага крэмню нізкай якасці — так званага сухога крэмню — да невялікіх адкрытых выпрацовак у верхніх пластах крэмняноснай крэйды, якія мелі выгляд розных траншэй і ям.

Падобныя аб’екты адзначаны на Ровеншчыне І. К. Свешнікавьга[13]. У Польшчы яны вядомы з часоў палеаліту[14]. У неаліце існавалі і больш дасканалыя закрытыя выпрацоўкі — крэмнездабыўныя шахты.

Такія месцы здабычы «сырога» крэмню знойдзены і даследаваны каля пас. Краснасельскі[15] і в. Карпаўцы Ваўкавыскага раёна[16]. На захад ад пас. Краснасельскі, на левым беразе Росі, у марэне залягае буйны адорвень крэйды, які разламаўся на некалькі выцягнутых з усходу на захад кавалкаў. Даўжыня найбольшага з іх да 3 км.

Зверху лінзы пакрыты гравійна-пясчаным пластом (покрывам), тоўшча якога вагаецца ад некалькіх сантыметраў да 1 м і больш. У некаторых мясцінах покрыва няма.

У крэйдавай тоўшчы шмат канкрэцый блакітнаватага крэмню, які размешчаны праслоямі паралельна слаістасці самой крэйды. Адлегласць паміж праслоямі вагаецца ад дзесяткаў сантыметраў да некалькіх метраў[17]. Пад націскам ледавіка яшчэ ў старажытнасці некаторыя ўчасткі лінзаў былі зрушаны і таму праслоі часам нахілены пад значным вуглом да лініі гарызонта і нават разарваны. У рэдкіх выпадках крэмень залягае россыпам. Зараз у ваколіцах пасёлка некаторыя крэйдавыя лінзы поўнасцю выбраны для патрэб цэментнага завода. Па словах жыхароў і на падставе звестак З. Шміта[18], можна меркаваць, што тут маглі быць шахты.

Асноўная заслуга ў даследаванні краснасельскіх шахтаў належыць Н. М. Гурынай, ёю ж былі адкрыты і вывучаліся выпрацоўкі каля в. Карпаўцы. Вынікі гэтых шматгадовых работ выкладзены ў шэрагу публікацый і ў манаграфіі[19].

Намі ў 1962 г. праведзеныназіранні над выпрацоўкамі на сценцы крэйдавага кар’ера ля пас. Краснасельскі[20] і ў 1973 г. раскапана некалькі шахтаў каля Карпаўцаў[21]. Раскопкі каля Карпаўцаў праводзіліся праз 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі на крэйдавым адорвені, марэнавае покрыва якога было амаль поўнасцю знята бульдозерамі, бо радовішча рыхтавалася пад распрацоўку. У заходняй частцы адорвеня краязнаўца з пас. Краснасельскі М. У. Вераціла заўважыў вусці некалькіх шахтных выпрацовак. У гэтым месцы, мяркуючы па астанцу, покрыва было 0,2—0,5 м. Намі былі поўнасцю расчышчаны 5 шахтаў, 1 — часткова і даследаваны 4 невялікія выпрацоўкі глыбінёй 0,4—0,7 м, якія, магчыма, былі пошукавымі (рыс. 45. *1*).

Шахта № 1 дыяметрамі вусця 1,7 на 2.0 м у паўднёвай частцы свайго вертыкальнага ствала на глыбіні 1,5 м мела ўступ, амаль насупраць яго прыблізна на такой жа глыбіні знаходзіўся падбой. На ўзроўні яго верхняй часткі ў крэйдавай крошцы ляжала свідраваная кірка з аленевага рога. Гэта шахта намі была расчышчана толькі на глыбіню 2 м.

На паўночна-ўсходнім краі вусця шахты № 1 сустрэты лінзападобны пласт крамянёвых адшчэпаў, які дасягаў у таўшчыню 10 см, займаў плошчу 2,50 на 1,4 м. Гэта рэшткі майстэрні, якая дзейнічала пасля поўнай засыпкі шахты.

Шахта № 2 дыяметрамі ў вусці 1,52 на 1,44 м мела глыбіню 2,8 м. У заходняй частцы ствала на глыбіні 1,3 м знаходзіўся шырокі падбой даўжынёй 0,7 м, другі падбой даўжынёй 0,4 м расчышчаны з паўночнага краю каля дна шахты. На паўночнай сцяне выпрацоўкі сустрэта адтуліна дыяметрам 0,3 м, якая вяла ў суседнюю шахту № 3.

Шахта № 3 знаходзілася адразу ж на поўнач ад папярэдняй выпрацоўкі і паглыблялася ў крэйдавую пароду на 3,06 м. На ўзроўні 2,2 м у сценках яе ствала меліся два падбоі: заходні 0,75 м і ўсходні 0,45 м. Ніжэй падбояў шахта звужалася, набываючы пошукавы характар. У паўднёвай яе сценцы знаходзілася памянёная адтуліна.

Шахта № 4 размешчана праз 2,5 м на ўсход ад шахты № 2, мела дыяметр вусця 1,9 м і глыбіню 3,5 м. Ад параўнаўча шырокага шахтавага ствала на глыбіні 2 м на ўсход адыходзіў падбой даўжынёй каля 1 м. Шырокі падбой прасочваўся і на заходнім краі выпрацоўкі, але ён намі не быў расчышчаны, бо сценка ствала над падбоем (або штрэкам) моцна патрэскалася і пагражала абвалам. На дне шахты было калодзежападобнае паглыбленне, відаць, пошукавага характару. Не выключаем і магчымасці, што гэта паглыбленне, як і ў некаторых іншых выпрацоўках, выкопвалася для зручнасці працы шахцёра: стоячы ў ім, можна было распрацоўваць залеглыя вышэй падбоі амаль не згінаючыся.

Шахта № 5 мела дыяметр вусця 1,5 м і глыбіню 4,84 м (рыс. 45,2). Ніжэй двухметровай глыбіні на поўнач і ўсход ад шахтавага ствала адыходзілі падбоі, невялікія падбоі выяўлены і на глыбіні 3,5 м. На сценках калодзежападобнага паглыблення ў дне выпрацоўкі добра захаваліся сляды гарняцкіх інструментаў, косанакіраваныя зверху — уніз — налева. У паўднёва-ўсходняй сценцы шахты ёсць адтуліна ў суседнюю выпрацоўку № 6.

Шахта № 6 самая глыбокая, дасягала ў глыбіню 5,03 м пры дыяметрах у вусці 1,85 на 1,66 м. Выпрацоўка мае форму калодзежа, на сценках якой сустрэта толькі некалькі паглыбленняў, што засталіся ад вынятых канкрэцый крэмню. Адзначаная вышэй адтуліна маецца на паўночна-заходняй сценцы. Дажджы спынілі далейшую работу на гэтым месцы.

Згодна паведамленню М. У. Верацілы, летам 1974 г. на ўсход ад даследаванага намі ўчастка таксама было знята покрыва над крэйдай. Пад ім адкрыліся вусці некалькіх дзесяткаў шахтаў і майстэрні. Неўзабаве яны былі знішчаны кар'ерам.

Вывучэнне больш як 200 шахтаў у ваколіцах пас. Краснасельскі і в. Карпаўцы паказала, што выпрацоўкі часцей сустракаліся ў тых месцах, дзе размешчаны частыя і насычаныя матэрыялам праслоі крэмню і дзе яны залягаюць недалёка ад паверхні. На даследаванай Н. М. Гурынай лінзе каля пас. Краснасельскі шахты канцэнтраваліся асобнымі вялікімі групамі, у кожнай з якіх мелася не менш як па 100 выпрацовак[22]. Пасля зняцця покрыва і зачысткі паверхні крэйды вусці шахтаў выразна прасочваліся ў выглядзе розных плям.

Формы шахтаў вызначаліся заляганнем крэмню. У месцах, дзе праслоі канкрэцый размяшчаліся гарызантальна або ў выглядзе россыпу, верхняя частка выпрацоўкі мела акруглую форму. Дыяметр вусця яе звычайна раўняўся 1,5—1,6 м, рэдка перавышаў 2 м[23]. Асноўную частку шахты займаў ствол у выглядзе калодзежа, як правіла, з вертыкальнымі сценкамі.

У некаторых месцах шахты мелі выцягнутую форму, размяшчаліся

паралельнымі ланцужкамі і часам злучаліся штрэкамі ў кірунку ланцужка. Так былі арыентаваны і падбоі. Гэта ўсё тлумачыцца не тэхнічнымі ўдасканаленнямі, а дапасаваннем выпрацовак да залягання моцна скошаных праслояў крэмню[24].

Ёсць група шахтаў, якія не маюць ні падбояў, ні штрэкаў. Гэтыя выпрацоўкі, магчыма, мелі пошукавы характар і пакідаліся, калі не сустракаўся крэмень або сустрэтая сыравіна была малаякаснай.

У багатых крэмнем месцах шахты размяшчаліся блізка адна ад адной, мелі шмат падбояў і часам злучаліся паміж сабой штрэкамі — участак выпрацоўваўся максімальна.

Часам верхнія ўчасткі шахтавых ствалоў праходзілі скрозь крэйдавую крошку, якая змяшчала ў сабе біты крэмень, пясчана-галечныя дамешкі і ў некаторых выпадках мела нерэгулярную пластаватасць. Удалося адзначыць наяўнасць выразна выяўленай мяжы паміж гэтым пластом крошкі і некранутай крэйдай, якая залягала ніжэй. Магчыма, мы маем тут рэшткі больш старажытных выпрацовак самых верхніх пластоў крэмню, калі капаліся траншэі і ямы.

Старажытны шахцёр паглыбляў шахту да крэмняноснага пласта. Затым ён пачынаў выбіраць канкрэцыі, усякаючыся ў сценкі па ходу праслояў. У выніку гэтага ўзнікалі падбоі — нішы і штрэкі, часам размешчаныя па перыметру ніжняй часткі выпрацоўкі. Даўжыня іх толькі ў выключным выпадку магла перавышаць 1—2 м, бо мяккая крэйда пры высыханні трэскалася і магла заваліць шахцёра. Для бяспекі паміж падбоямі пакідаліся нечапаныя ўчасткі — мацавальныя выступы. Ведаючы размяшчэнне праслояў, старажытны здабытчык часам паглыбляўся і да наступнага пласта крэмню, дзе выпрацоўваўся ніжні ярус ніш. Некаторыя шахты ў аснове ствалоў маюць пошукавыя вузкія выпрацоўкі ўглыб дыяметрам да 0,8 м. Глыбіня шахтаў у сярэднім не перавышала 5 м. Столь у падбоях і штрэках мела скляпенчатую форму.

Гарызонты падбояў выпрацоўваліся ў пачарговасці знізу — уверх, г. зн. спачатку выбіраўся ніжні пласт крэмню, а затым вышэйшы, адкуль крэйдавая крошка ўжо не падымалася наверх, а скідалася ўніз, запаўняючы ніз ствала і падбоі ніжняга яруса. Акрамя таго, крошкай запаўняліся і старыя выпрацоўкі, каб не загрувашчваць навакольную тэрыторыю. Гэта пацвярджаецца некаторымі назіраннямі. Калі б была адваротная чарговасць распрацоўкі крэмневых праслояў, то верхні ярус падбояў высыхаў бы і сценкі асыпаліся б. У той жа час усе сценкі маюць выразныя сляды працы капальнымі інструментамі. Гэта тлумачыцца і тым, што закончаная шахта поўнасцю запаўнялася крэйдавай крошкай з суседніх выпрацовак.

Сценкі ствалоў, шахтаў, падбояў і штрэкаў, іх скляпенні захавалі мноства слядоў працы вострымі капальнымі прыладамі, з дапамогай якіх і вялася здабыча крэмню. Асабліва добра захаваліся такія сляды на сценках і столі падбояў і штрэкаў. Але ў верхніх частках ствалоў яны не прасочваюцца, бо пад уздзеяннем пастаянных ваганняў тэмпературы і змены вільготнасці паверхня сценак тут разбуралася. У добра распрацаванай шахце сляды капальных прылад на сподзе часта былі затаптаны старажытнымі здабытчыкамі. У адной з шахтаў, даследаванай на сценцы крэйдавага кар'ера ў 1962 г., была адзначана зараджанасць на стыку ствала з падбоем, якая, відаць, узнікла ад трэння па сценцы вопраткі крэменякопа[25].

Вывучэнне шахтаў на сценцы кар'ера ў 1962 г. дало магчымасць назіраць іх у вертыкальным разрэзе і правесці расчыстку некаторых аб'-

ектаў знізу ўверх, што дазволіла дакладна прасачыць характар запаўнення. Усе шахты, у тым ліку і даследаваныя пазней шляхам звычайных раскопак, былі засыпаны крэйдавай крошкай. Вольнымі ад запаўненняў былі толькі верхнія і больш аддаленыя часткі падбояў і штрэкаў. Само запэўненне не мела дамешкі пяску з покрыва, якая павінна была б утварыцца пры натуральным разбурэнні выпрацоўкі. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што шахты ў сваёй большасці засыпаліся ў старажытнасці наўмысна.

Разбіраючы запаўненне, часам можна было заўважыць пустоты з трухой на сценках, што асталіся ад дрэва, якое згніло. Так, у адной з шахтаў меліся ствалы дрэва, а таксама розныя палкі, арыентаваныя пад вуглом да вертыкалі. Таўсцейшыя з іх дасягалі 15—20 см. Магчыма, тут было прыстасаванне, каб лазіць у выпрацоўку. Н. М. Гурына заўважыла і сляды мацаванняў — спецыяльных паглыбленняў у сценках, куды, мабыць, устаўляліся палкі[26].

У шахтах пры эксплуатацыі кар'ераў і ў час раскопак саміх выпрацовак знойдзена шмат змайстраваных пераважна з рагоў высакароднага аленя капальных інструментаў (рыс. 45, *3—6).* Н. М. Гурына вылучыла некалькі тыпаў такіх прылад[27]. Сярод іх выразную групу складаюць кіркападобныя экземпляры, для вырабу якіх выкарыстоўваліся часткі аленевых рагоў з двума адросткамі, завостранымі на канцах. Найбольш закончанымі з'яўляюцца капальныя прылады са свідравальнымі адтулінамі, прызначанымі для насаджвання на рукаятку. Асабліва добра захавалася падобная знаходка з красносельскіх шахтаў. Яна зроблена з шырокай часткі ласінага рога, у цэнтры яе круглая прасвідраваная адтуліна, адзін з адросткаў завостраны і загладжаны, другі адламаны. На прыладзе рэжучым інструментам было пазначана месцз, каб адламаць адзін з адросткаў (рыс. 45, *5*). У цэнтры іншай незакончанай прылады маецца пачатая адтуліна, якую не свідравалі, з выдзёўбвалі з абодвух бакоў. Пры раскопках адной з шахтаў каля в. Карпаўцы аўтар знайшоў яшчэ адну свідраваную кірку з пашкоджаным вастрыём, змайстраваную з часткі аленевага рога.

Працаваць у шахтах аднаму чалавеку было не пад сілу, таму на здабычы крэмню працавалі групамі. Адны выбіралі крэйду і канкрэцыі, другія выцягвалі ўсё гэта на паверхню.

Першапачатковую апрацоўку крэмню чалавек праводзіў непасрэдна ў шахце. У некаторых месцах, асабліва ў падбоях, знойдзены нагрувашчванні разбітых крэмняў, адшчэпаў: з канкрэцый збіваліся непатрэбныя часткі, каб лішні цяжар не падымаць на паверхню. У запаўненнях сустракаліся нарыхтоўкі сякер[28] (рыс. 45, *7).*

Затым сыравіна апрацоўвалася ў майстэрнях непасрэдна каля шахтаў або на размешчаных непадалёку пясчаных узгорках. Часам майстэрнямі станавіліся напаўзасыпаныя старыя выпрацоўкі[29]

Акрамя адзначаных майстэрань каля шахтаў, у Панямонні было даследавзна яшчэ некалькі месц па апрацоўцы крэмню. Намі знойдзена майстэрня на ніжнім цячэнні Дзітвы на паўночны захад ад в. Даржы Лідскага раёна, на адной з дзюн ва ўрочышчы Боркава Гара, што ўзвышаюцца сярод шырокага тарфянікавага балота на правым беразе Дзітвы.

Тут на самай высокай дзюне, якая мае два значныя выдзьмувы пяску, размешчаны рэшткі старажытнага паселішча. Частка знойдзенай керамікі з раслліннымі дамешкамі ў цесце, грабеньчатымі расчэсамі на паверхнях і ямкамі пад краем венца, з таксама крамянёвы матэрыял

адносяцца да неалітычнай эпохі. Праз 0,07 км на паўночны захад ад гэтага пункта, на невялікім узвышэнні, што прымыкае да высокай дзюны, была майстэрня.

Намі тут закладзена траншэя плошчай 12 кв. м. Стратыграфія пласта: глеба —0—0,1 см; падглеба шэра-рудаватага колеру— 0,1—0,3 м. Ніжэй знаходзіўся мацярык рудога колеру, складзены абжалезненым пяском. Знаходкі залягалі ў глебе і падглебе.

Лёгкая затарфаванасць паверхні ўзвышэння, якая ўзмацняецца на схіле і далей на поўнач пераходзіць у суцэльным тарфянік, а таксама вялікая колькасць балотнай вільгаці надалі паверхні знойдзеных крамянеў спецыфічную рудую афарбоўку. Частка пласта майстэрні працягваецца ў тарфянік. Відаць, узровень вады ў старажытнасці тут быў ніжэйшы і толькі пазней пачалося забалочванне і затарфоўванне.

На такой невялікай ускрытай плошчы знаходак, якія складаюцца толькі з крэмню, знойдзена шмат — больш як 3 тыс. Акрамя таго, увесь пласт быў запоўнены дробнымі адшчэпамі і крамянёвымі лускамі. Пераважная маса матэрыялу — адыходы апрацоўкі крэмню (сколы розных выступаў з канкрэцый і адшчэпы розных памераў). Нажападобных пласцінак мала. Амаль усе буйныя адшчэпы маюць скарынку. Сярод гатовых прылад сустрэты толькі два адцiскальнікі, прычым адзін з іх зроблены са спрацаванага скрабка, і некалькі рэтушаваных адшчэпаў. Маюцца і сколы з нуклеусаў. Такая прапорцыя паміж колькасцю прылад і адыходамі пры іх вырабе сведчыць пра наяўнасць тут крэмнеапрацоўчай майстэрні.

Крэмень, які тут апрацоўваўся, здабываўся ў крэйдавым адорвені (праз 1,5 км на паўднёвы захад ад Боркавай Гары). Магчыма, што ў далейшым больш дэталёвае вывучэнне адорвеня, які залягаў каля самай паверхні, прывядзе да выяўлення якіх-небудзь выпрацовак.

У ніжнім цячэнні Дзітвы вядома некалькі неалітычных стаянак — Бор, Ціхановічаў Брод і іншыя, а таксама апісаная вышэй стаянка Боркава Гара непасрэдна каля майстэрні. У гэтым раёне адзначаны і месцы жыхарства насельніцтва эпохі бронзы — каля вусця Дзітвы і на супрацьлеглым ад майстэрні левым беразе ракі ва ўрочышчы Ваўкелі. Ва ўсе адзначаныя пункты, акрамя Боркавай Гары, лягчэй было пераносіць крэмень праз раку паўднёвей майстэрні, дзе высокія берагі амаль ушчыльную падыходзяць да рэчышча, чым пераадольваць паўтаракіламетровую дрыгву.

Такім чынам, больш магчыма, што майстэрня належала насельніцтву, якое жыло на паселішчы ва ўрочышчы Боркава Гара.

У культурным пласце майстэрні разам з крэмнем быў знойдзены дробны абломак глінянай пасудзіны з радам ямак пад краем. Гэта дазваляе датаваць помнік неалітычным часам.

У раёне крэмняноснага крэйдавага адорвеня ўздоўж карэннага берага Дзітвы маецца яшчэ некалькі менш значных майстэрань.

Другая буйная майстэрня сустрэта намі ў сярэднім цячэнні р. Зальвянка на поўдзень ад в. Пескі, каля хутароў Выгода. Тут на краі нізкай левабярэжнай тэрасы сабрана вялікая колькасць нуклеусаў, адшчэпаў, нажападобных пласцінак. Крэмень, відаць, здабываўся з марэнавай грады каля в. Пескі, дзе ён сустракаецца ў выглядзе канкрэцый і галькі як на дзённай паверхні, так і ў тоўшчы адкладаў. Тутэйшая марэна змяшчае ў сабе і крэмняносную крэйду.

У раёне в. Пескі на берагах Зальвянкі маецца некалькі стаянак неаліту і бронзавага веку. Таму і майстэрня дае нам розначасовы матэры-

ял, але, улічваючы наяўнасць правільна абграненых нуклеусаў, значная частка яго адносіцца да каменнага веку.

У басейне Нёмана размешчаны шэраг іншых вядомых навуцы больш-менш значных майстэрань. Пункты магчымай апрацоўкі крэмню адзначае Ю. Ядкоўскі ў ваколіцах Гродна, каля месц выхаду крэйды на паверхню[30]. Некаторыя помнікі паўночна-заходняй Беларусі, акрамя ўжо апісаных вышэй каля пас. Краснасельскі і Рось, Н. М. Гурына таксама вызначае як майстэрні (Нёман V каля в. Котра на правым беразе Нёмана)[31].

Апрацоўка крэмню праводзілася і на саміх паселішчах. Асабліва гэта заўважалася пры вывучэнні пунктаў Янава I і II. Тут у культурным пласце залягала шмат адыходаў крэмнеапрацоўкі, значна больш, чым на іншых адначасовых помніках. У паўночнай частцы раскопа на стаянцы Русаковічы IX знойдзена цэлая лінза адшчэпаў.

Здабыты крэмень праходзіў на майстэрнях розныя стадыі апрацоўкі і распаўсюджваўся ў суседнія бяднейшыя на гэту сыравіны раёны ў выглядзе гатовых вырабаў або паўфабрыкатаў-нарыхтовак. Гэта адбывалася рознымі шляхамі, важнейшым з якіх, напэўна, з’яўляўся абмен. Яскравыя сведчанні гэтаму — назіранні польскіх археолагаў на тэрыторыі вядомых шахтаў у Кшэмёнках Опатуўскіх[32]. Па крэмень з аддаленых мясцін маглі прыходзіць і спецыяльныя экспедыцыі. Пэўнае значэнне ў працэсе распаўсюджання крэмню павінен быў мець звычай дарэння, а таксама рабавання маёмасці ў час узброеных сутычак.

Важны вывад быў зроблены Н. М. Гурынай і Г. М. Каўнуркам пра распаўсюджанне краснасельскага крэмню на большай частцы Панямоння[33]. І сапраўды, значная частка прылад працы, мяркуючы па знешніх адзнаках, што сустрэта на паселішчах паўночна-заходняй Беларусі ад Гродна да раёна Любчы, магла выраблядца з краснасельскай сыравіны. Але такі крэмень сустракаецца і ў іншых радовішчах Панямоння. Толькі на ўсходзе басейна ён іншы — цёмна-шэры, амаль чорны, з маслянiстым бляскам на паверхні.

Грамадска-культурнае развіццё насельніцтва нёманскай культуры, мабыць, было такое, як і ў суседніх плямёнаў, напрыклад днепра-данецкай культуры. Нашы матэрыялы ў гэта пытанне не могуць унесці якіх-небудзь істотных дапаўненняў. Таму нам застаецца адаслаць чытача да адпаведных публікацый[34]. Адзначым толькі наяўнасць на адной пасудзіне з Добрага Бору I выгравіраванага ромба з кручкамі — сімвала, звязанага з земляробствам[35].

### 3. Храналогія

На падставе тыпалагічнага і параўнаўчага аналізаў знаходак, іх стратыграфічнага размяшчэння на помніках можна ўпэўнена сцвярджаць, што найбольш старажытныя неалітычныя матэрыялы на Панямонні атрыманы з помнікаў тыпу Дубічай. Іх змянілі лысагорскія комплексы. Знаходкі тыпу Добрага Бору адносяцца да позняга неаліту.

Паспрабуем зараз вызначыць абсалютную храналогію неаліту Панямоння, хоць з-за адсутнасці дакладных дацiровак такая задача надзвычай складаная.

Для вызначэння ніжняй мяжы неаліту Беларусі, і Панямоння ў прыватнасці, важнае значэнне маюць знаходкі са стаянкі Зацэнне. Яна размешчана заходней в. Зацэнне Лагойскага раёна Мінскай вобласці на левым беразе р. Цна — прытока Гайны, якая ўпадае ў Бярэзіну дняпроў-

скую, на краі тарфяніка, што запаўняе азёрападобнае расшырэнне ракі. У цяперашні час тэрыторыя стаянкі перарэзана выпрамленым рэчышчам Цны. Больш прыдатны для раскопак усходні край паселішча, на астатняй плошчы помніка культурны пласт залягае ніжэй ўзроўню вады ў рацэ. Помнік адкрыты С. Шубарам. Пачынаючы з 1966 г. невялікія раскопкі, зачыстку сценак канала і шурфоўку праводзіў аўтар. Палеагеаграфічныя назіранні зроблены П. М. Далуханавым[36]. У шурфе, закладзеным на заходняй сценцы канала, вызначана стратыграфія[37].
Торф нізінны, травяны, слабараскладзены ...0,0—0,2 м.

Сапрапель пясчаністы з вялікай колькасцю каранёў і раслінных рэштак ...0,2—0,8 м.

Пераслойванне праслояў сярэдне- і грубазярністага пяску з уключэннямі лінзаў пясчаністага сапрапелю ...0,8—1,4 м.

Сапрапель тонкадзетрытавы з вялікай колькасцю раслінных рэштак і драўніны ...1,4—1,6 м.

Сапрапель тонкадзетрытавы з вялікай колькасцю абломкаў драўніны, пераважна ў ніжняй частцы гэтага пласта залягае кераміка, вырабы з рога і костак ...1,6—1,9 м.

Пясок дробна- і сярэднезярністы, добра адсартаваны, светла-жоўтага колеру ...1,9 м і ніжэй.

Спорава-пылковы аналіз паказаў, што перыяд развіцця расліннасці, адначасовай стаянцы, характарызаваўся максімальным распаўсюджаннем шыракалістых парод (23—25% пылку драўнінных раслін) пры агульнай перавазе ў спектрах пылку сасны. Такі склад расліннасці блізкі трэцяму комплексу, вызначанаму Н. А. Махнач у разрэзе воз. Чарсцвяты, і быў характэрны для атлантычнага перыяду[38]. Пэўным чынам гэта даціроўка пацвярджаецца і тым, што археалагічныя знаходкі залягалі ў ніжняй частцы адкладаў тонкадзетрытавай сапрапелі, якія ўтвараліся ва ўмовах вільготнага і цёплага клімату ў слабапраточным вадаёме[39].

Узор драўніны, атрыманы з асновы ніжняга пласта сапрапелі, які ўваходзіў у комплекс археалагічных знаходак, выявіў дату 5450±75 год, г. зн. 3580±60 год да н. э. (ЛЕ—960)[40]. Гэта найбольш дакладная дата для неаліту Беларусі.

На стаянцы Зацэнне атрымана адносна невялікая, але выразная археалагічная калекцыя, якая складаецца ў асноўным з керамікі, касцяных і крамянёвых вырабаў.

Фрагменты керамікі паходзяць ад шырокаадкрытых востра-акругладонных шэрых Гаршкоў з крыху выпуклымі корпусамі і пераважна прамымі венцамі, на зрэзах якіх амаль заўсёды сутракаюцца папярэчныя насечкі або ўмяціны. Гаршкі ляпіліся з гліны, у якую дамешваліся раслінныя рэшткі і тоўчаныя ракавіны, паверхні сценак мелі сляды расчэсвання грэбенем. Для гэтай керамікі характэрна і наяўнасць пад некаторымі венцамі глыбокіх круглых рэдка размешчаных ямак, скразных прасвідраваных адтулін для замацавання трэшчын, беднасць і разрэджанасць арнаментаў. Арнаменты, што складаліся з рэдкіх гарызантальных паскаў грабеньчатых адбіткаў (каля 50% усіх арнаментаваных абломкаў), блізкіх па форме насечак, невыразных ямак-наколаў. часцей за ўсё канцэнтраваліся ў верхніх частках пасудзін, часам толькі пад самым краем. Больш як палова ўсіх знойдзеных чарапкоў не мела аздаблення.

На помніку кераміцы спадарожнічалі касцяныя біканічныя наканечнікі стрэлаў, долатападобныя касцяныя вырабы «пад вуглом у 45°», ма-

пікападобныя прылады і шырокія матыкі з прасвідраванымі адтулінамі, лістападобныя крамянёвыя наканечнікі стрэлаў і іншыя знаходкі з рога, костак і крэмню.

Кераміка з Зацэння па шэрагу адзнак блізкая да матэрыялаў струмельска-гасцяцінскага тыпу сярэдняга Падняпроўя[41]. Яна мае аналогіі і сярод ранненеалітычных знаходак нарвенскай культуры ў паўднёва-ўсходняй Прыбалтыцы[42], якія на падставе радыекарбонавага аналізу датуюцца першай паловай IV тыс. да н. э.[43] Блізкія да ранненеалітычнага і мезалітычнага матэрыялу паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі і вырабы з рога і костак[44].

Такім чынам, археалагічныя матэрыялы Зацэння пацвярджаюць палеагеаграфічныя вывады і радыекарбонавую дацыроўку помніка. Паселішча тут існавала ў сярэдзіне III тыс. да н. э.

Як адзначалася вышэй, ранненеалітычная кераміка стаянак Беларускага Панямоння цэлым шэрагам адзнак блізкая да керамікі Зацэння і больш-менш ёй адначасовая.

Размешчаныя ў паўднёвай Літве помнікі тыпу Дубічай аналагічныя раннім помнікам нашага Панямоння. Р. К. Рымантэнэ раннюю кераміку з Дубічай III на падставе стратыграфічных назіранняў над культурным пластом паселішча і тыпалагічнага метаду датуе пачаткам IV тыс. да н. э.[45] Улічваючы размяшчэнне на першай тэрасе паселішча Дубічай II, а таксама аналізуючы крамянёвы інвентар і кераміку (у кераміцы адначасова з раслiннымі дамешкамі з'яўляецца і жарства), даследчыца адносіць гэты помнік да канца IV тыс. да н. э.[46]

Раней мы ўжо адзначалі блізкасць паміж ранненеалітычнай культурай Панямоння і першым перыядам днепра-данецкай культуры, якая ў паўночнай Украіне і паўднёва-ўсходняй Беларусі пачынае развівацца з сярэдзіны V тыс. да н. э.[47] або з рубяжа V і IV тыс. да н. э.[48] Д. Я. Цялегін, адзначаючы агульныя рысы паміж керамікай тыпаў Дубічай і струмельска-гасцяцінскага тыпу паўночнай Кіеўшчыны, на падставе параўнанняў з матэрыяламі першага і другога перыядаў днепра-данецкай культуры лічыць магчымым аднесці існаванне помнікаў Струмеля—Гасцяціна да другой паловы V—IV тыс. да н. э.[49] В. М. Даніленка лічыць помнікі тыпу Дубічай на Нёмане прамымі аналагамі позніх помнікаў струмельскага тыпу і датуе апошнія другой паловай V тыс. да н. э.[50] Але мы не можам механічна перанесці дацыроўку помнікаў паўночнай Украіны на помнікі з тэрыторыі Беларускага Панямоння, бо тут неаліт больш позні і, значыць, ён бярэ пачатак пасля V тыс. да н. э. і павінен быць блізкі да дацыровак неаліту суседняй Літвы.

Вялікае значэнне для нас маюць і вывады польскіх археолагаў, бо помнікі нёманскай культуры ёсць і ў Польшчы. На думку А. Гардаўскага, ранняя «грабеньчатая» кераміка Польшчы адносіцца да канца другога — пачатку трэцяга перыяду польскага неаліту (2500 г. да н. э.)[51]. Т. Сулімірскі датуе яе больш раннім часам — першым перыядам (4000—3500 гг. да н. э.)[52]. Д. Я. Цялегін лічыць больш аргументаванымі вывады апошняга і сінхранізуе раннюю грабеньчата-накольчатую кераміку Польшчы з канцом першага — пачаткам другога перыяду днепра-данецкай культуры (першая палова IV тыс. да н. э.)[53]. Значную цікавасць уяўляюць касцявыя рэшткі з пахавання ў Пяркунове Гіжыцкага павета на Мазурскіх азёрах (5700±150 год да нашых дзён), якое, як мяркуюць, адносіцца да «грабеньчата-ямачнай культуры дакерамічнага этапа»[54]. Раннія этапы культуры з «грабеньчатай» керамікай Польшчы Э. Кэмпінга датуе IV тыс. да н. э.[55]

Такім чынам, прыведзеныя намі дадзеныя дазваляюць адносіць пачатак неаліту на Беларускім Панямонні да IV тыс. да н. э., а дакладней — да першай паловы IV тыс. Храналагічнымі ж рамкамі нашых ранніх помнікаў з'яўляецца неаліт лясной зоны[56].

Для ранняга неаліту характэрна агульнасць матэрыяльнай культуры як на Панямонні і верхняй Прыпяці, так і на Прыляці ніжняй і на суседнім Падняпроўі. У пазнейшы час, г. зн. на мяжы паміж неалітам раннім і познім, адбыўся распад гэтай агульнасці на помнікі тыпу Літвіна на ніжняй Прыпяці і помнікі тыпу Лысай Гары — Добрага Бору на верхняй Прыпяці і Панямонні. У. Ф. Ісаенка, вылучаючы чацвёрты этап днепра-данецкай культуры ва ўсходнім Палессі (помнікі тыпу Ліцвіна), сцвярджае, што яго можна датаваць другой паловай III тыс. да н. э.[57] Да такога ж часу адносілі і мы помнікі тыпу Лысай Гары — Добрага Бору[58].

Улічваючы, што кераміка лысагорскага тыпу развілася пад уплывам культуры лейкападобных кубкаў, важна прасачыць, калі гэты ўплыў пачаў пранікаць на захад Беларусі. У апошні час радыекарбонавыя дацыроўкі паказалі, што культура лейкападобных кубкаў у Цэнтральнай Еўропе існавала ўжо ў сярэдзіне IV тыс. да н. э.[59] Прыблізна такім жа часам датуюцца стаянкі гэтай культуры і ў паўночнай Польшчы[60]. Польскія археолагі лічаць, што культура «лейкападобнікаў» магла ўплываць на «грабеньчатую» культуру Мазавеччыны і Падляшша ў канцы IV тыс. да н. э.[61] Мы мяркуем, што гэтыя ўплывы суседняе з Падляшшам Панямонне магло адчуваць ужо ў пачатку III тыс. да н. э. З гэтага часу, мабыць, і пачаў складвацца і развівацца другі (лысагорскі) этап нёманскай культуры.

Тыпалагічны аналіз сведчыць, што кераміка тыпу Добрага Бору развілася з лысагорскай і не мае непасрэднай сувязі з матэрыяламі тыпу Дубічай. Акрамя таго, заўважана, што яна не суправаджаецца раннімі формамі крамянёвых вырабаў і ў той жа час мае некаторыя агульныя рысы з керамікай культуры шарападобных амфар і з мясцовай шнуравой керамікай. Усё гэта дазваляе лічыць дабраборскія матэрыялы найбольш познімі на неалітычных стаянках Беларускага Панямоння. Прычым у вярхоўях Нёмана помнікі тыпу Лысай Гары існавалі больш працяглы час, чым у больш заходніх раёнах Панямоння. Тут яшчэ на «лысагорскіх» матэрыялах прыкметны ўплыў культуры шнуравой керамікі (шнуравыя арнаменты на «лысагорскай» кераміцы з Кутца I).

Насельніцтва нёманскай неалітычнай культуры на дабраборскім этапе, бясспрэчна, сутыкнулася з носьбітамі культур шнуравой керамікі і пэўны час суіснавалі з імі. Гэта знайшло адбітак на матэрыялах шэрагу паселішчаў даследаванай тэрыторыі (Лысая Гара, Ярэмічы НІ, Русакова II), хоць тут уплыў «шнуравікоў» нязначны. Прыблізна такія ж працэсы назіраліся і ў паўднёвай Літве[62].

Нашчадкі носьбітаў нёманскай культуры і блізкіх ім культурных груп Польшчы з «грабеньчатай» керамікай «дажылі» да сярэдзіны II тыс. да н. э. і пэўным чынам удзельнічалі ў фарміраванні тшцінецкай культуры[63]. На тшцінецкіх матэрыялах Панямоння сустракаюцца неалітычныя дэталі — ямачкі пад краем венца.

Такім чынам, трэці (дабраборскі) этап нёманскай культуры мы можам датаваць яшчэ больш прыблізна. Ён пачаў фарміравацца ў апошняй чвэрці III тыс. да н. э. і працягваўся да сярэдзіны II тыс. да н. э., але хутчэй за ўсё ў першай палове II тыс. нёманская культура ўжо не магла дамінаваць (улічваючы пранікненні «шнуравікоў»).

Няма пэўных доказаў, што распрацоўка крэмняносных крэйдавых пакладаў каля пас. Краснасельскі адбывалася яшчэ ў раннім неаліце, хоць знешнім воблікам крэмень з многіх ранненеалітычных стаянак Панямоння і падобны на краснасельскі. У той жа час яго практычна нельга адрозніць ад матэрыялу з іншых крэмняносных радовішчаў заходняй Гродзеншчыны. Трэба ўлічваць і тое, што і ў ранні час неалітычнае насельніцтва магло праводзіць паверхневыя зборы ў наваколлі пасёлка, дзе некаторыя крамянёвыя пласты выходзяць на паверхню. Не выключана таксама, што ўжо ў раннім неаліце выкарыстоўваліся прымітыўныя выпрацоўкі накшталт неглыбокіх ям або траншэй.

У цяперашні час не выклікае сумненняў існаванне часткі шахтных выпрацовак у познім неаліце. Гэта было даказана Н. М. Гурынай на падставе аналізу саміх выпрацовак[64], распаўсюджання вырабаў з краснасельскай сыравіны на стаянках Панямоння, даціровак падобных шахтаў у Венгрыі і Польшчы. Найбольшага развіцця здабыча крэмню каля пас. Краснасельскі дасягнула ў бронзавым веку[65].

На жаль, недастатковая распрацаванасць чацвярцічнай геалогіі Панямоння не дае магчымасці скарыстаць яе вывады для вызначэння дакладнай храналогіі неалітычных помнікаў. Аднак, грунтуючыся на даціроўках алювію рачных тэрас і поплаву, можна сцвярджаць, што ўсе ўзроўні тэрас і высокі поплаў былі даступныя засяленню неалітычным чалавекам. Праўда, на высокім поплаве пакуль што знойдзены толькі рэшткі стаянак познемезалітычнага часу.

### 4. Этнас

Праблема этнічнай прыналежнасці неалітычных плямёнаў на тэрыторыі Беларускага Панямоння цяжкая для вырашэння, бо шырокія археалагічныя даследаванні тут пачаліся параўнаўча нядаўна, да таго ж мы не маем ніякіх антрапалагічных матэрыялаў. Таму этнічную інтэрпрэтацыю носьбітаў нёманскай культуры мы паспрабуем правесці шляхам выкарыстання даных суседніх тэрыторый.

У познім мезаліце і раннім неаліце ў паўднёва-ўсходняй Прыбалтыцы існаваў еўрапеоідны антрапалагічны тып[66]. Да еўрапеоіднай расы належалі насельнікі стаянак днепра-данецкай культуры, прычым, паводле шэрагу асаблівасцей, яны былі падобныя да носьбітаў эртэбёльскай культуры, якія таксама з'яўляліся старажытнымі еўрапеоідамі, а таксама да ранненеалітычных жыхароў паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі[67]. Улічваючы, што тэрыторыя Беларусі ў гэты час уваходзіла ў адну этнакультурную вобласць з большасцю адзначаных тэрыторый, можам лічыць і мясцовае насельніцтва еўрапеоідным. Пра гэта ўскосна сведчыць і наступны факт. Нёманскі неаліт у асноўным фарміраваўся на аснове мясцовага мезаліту, аднолькавага як у паўночна-заходняй і заходняй Беларусі, так і на большасці тэрыторыі Літвы. У заходняй жа Літве знойдзены фрагменты чалавечага чэрапа, датаваныя познім мезалітам, з выразнай доліхакраннасцю — доўгагаловасцю[68].

Захад Беларусі з пачатку III тыс. да н. э. знаходзіўся пад уплывам культуры лейкападобных кубкаў, а ў канцы неаліту і культуры шарападобных амфар. Асобныя групы носьбітаў гэтых культур (бясспрэчныя еўрапеоіды) прасочваліся на нашу тэрыторыю і ўзмацнялі прыкметы гэтай расы ў мясцовага насельніцтва[69].

Носьбіты нёманскай культуры не з'яўляюцца прамымі продкамі якога-небудзь сучаснага народа: пазней на захад Беларусі пранікалі пля-

мены іншых культур (шарападобных амфар, шнуравой керамікі і г. д.), і адбывалася іх пастаяннае змешванне з абарыгенамі. І ў той жа час выклікае цікавасць факт, што ў канцы неаліту (на мяжы III і II тыс. да н. э.) помнікі нёманскай культуры і роднасных ёй культур — днепра-данецкай (позні этап), верхнедняпроўскай, нарвенскай (позні этап), паўночнабеларускай (ранні этап) амаль поўнасцю запаўняюць арэал распаўсюджання балцкай гідраніміі. Трэба яшчэ ўлічваць наступнае: сярэднебронзавыя культуры ў Беларусі склаліся ў выніку скрыжавання мясцовай неалітычнай культуры з культурай шнуравой керамікі і рознымі іншакультурнымі элементамі (у прыватнасці, культуры шарападобных амфар); мы не маем сведчанняў якой-небудзь значнай змены насельніцтва на тэрыторыі рэспублікі ў позні перыядзе бронзавага веку; у мясцовых познебронзавых культурах бяруць пачатак культуры ранняга жалезнага веку — днепра-дзвінская, штрыхаванай керамікі і мілаградская. Цяпер ужо амаль ніхто не сумняваецца ў балцкай прыналежнасці першых дзвюх[70], а некаторыя даследчыкі лічаць балцкай і мілаградскую культуру[71]. І. І. Арцёменка, выводзячы мілаградскую культуру з сосніцкай [72], лічыць, што першая мела змешаны славяна-балцкі характар[73].

Такім чынам, мы лічым, што нашчадкі носьбітаў нёманскай неалітычнай культуры ўдзельнічалі ў фарміраванні балтамоўнага этнасу.

